Адам. Бліжэй, бандыцкая морда!..

Рыгор *(не крануўшыся з месца)*. Сам ты бандыцкая морда, здр-р-аднік...

Адам *(вымае наган)*. Дзе партызаны? Адказвай!

Рыгор *(ледзь прыкметна ўсміхаецца)*. Няўжо ты дагэтуль усё думаеш, што я скажу табе?! Схадзі пашукай, сабака!

Адам. Маўчаць! *(Страляе ў Рыгора.)*

Рыгор падае. З суседняга пакоя выбягае Стэфан, выбівае з рук Адама наган. Кароткая барацьба. Стэфан падае. Адам зрывае посцілку з акна, знікае.

Стэфан. Не ўцячэш! *(Хапае наган, страляе ў акно.)* Ай-яй-яй...

Наста *(прыпаўшы да нерухомага Рыгора, галосіць)*. А мой жа ты Рыгорачка, а мой жа ты любенькі, на каго ж ты пакінуў мяне, што ж я, бедная, рабіць буду!..

Стэфан. Ото ж гад, уцёк... Не плач, Настачка, не плач, нічога не зробіш, так ужо богу трэба было. Маліся. Каб не я, то і цябе прыкончыў бы той гад.

Наста *(з удзячнасцю пазірае на Стэфана)*. Дзякуй, добры чалавек. *(Галосіць.)*

На двары чуваць страляніна.



Стэфан *(спалохана)*. Зноў партызаны?.. Хутчэй у склеп, Настачка, тут небяспечна! *(Цягне яе за руку.)*

Наста *(вырывае руку, крычыць)*. Пусціце мяне, пусціце!.. Я адпомшчу...

Стэфан. Не пушчу! Там страляюць, заб'юць цябе!

У сенцах чуваць тупат ног, галасы. У пакой убягаюць некалькі ўзброеных партызан. З імі Сымон.

Сымон. Стой! У чым справа?!

Наста *(кідаецца да Сымона, галосіць)*. Сымонка, родненькі мой... забілі...

Сымон. Сястра? Жывая!.. Ну, супакойся, не трэба плакаць... *(Да Стэфана.)* Што тут было?!

Стэфан *(паказвае на Рыгора)*. Вось... Крулеўскі забіў...

Партызаны падыходзяць да Рыгора, здымаюць шапкі, хвіліну маўчаць.

Сымон. Прабач нам, Рыгор, спазніліся. Мы адпомсцім!

Наста зноў галосіць.

Сымон. Супакойся, Настачка, не час плакаць, добра, што жывая засталася.

Наста *(паказвае на Стэфана)*. Ён выратаваў мяне, Сымонка...

Стэфан. Ага!



Сымон *(паціскае Стэфану руку)*. Дзякуй табе!

Стэфан. Ды што я, мой абавязак перад богам людзей ратаваць. У хляве быў, чую...

На двары мацнее страляніна. Чутна «ура!»



Сымон *(радасна)*. Таварышы, трэці атрад на дапамогу прыйшоў! *(Глядзіць на Насту)*. Што ж мне рабіць з табою? Ты гэтакая слабая...

Наста. З табою пайду!

Стэфан. Не, не, ёй нельга, заб'юць. Няхай у мяне застанецца, адпачне...

Сымон *(задумваецца, рашуча)*. Добра... Заставайся, Наста. *(Да партызан.)* За мной, таварышы!

Партызаны адзін за другім выбягаюць у сенцы. Услед за імі кідаецца Наста. Стэфан спыняе яе.

Наста. Пусціце!..

Амаль сілком Стэфан вядзе Насту ў другі пакой. Яна ў знямозе галосіць.

Заслона.

## Карціна другая

Той самы пакой. Мінула некалькі тыдняў. Той жа круглы стол, шафа, ля сцен некалькі доўгіх лавак. На сцяне ў вялікай рамцы за шклом выпісана: «Мы прапаведуем Хрыста распятага». Наста падмятае падлогу. Час ад часу спыняецца, уздыхаючы, пазірае ў акно. Далятае рокат матораў, песня савецкіх салдат.

Наста *(задуменна)*. Ідуць і ідуць, саколікі: канца і краю няма... *(Уздыхае.)* Вось гэтак і Сымонка недзе маршыруе... Дзе ён цяпер, якая дарожка вядзе яго? А вернецца і прытуліцца не будзе дзе: гэтакую хату спалілі фашысты праклятыя...

Чуваць, як скрыпнулі ў сенцах дзверы. Наста хуценька папраўляе хусцінку.

Наста. Здаецца, Стэфан вярнуўся, а я і вячэры не згатавала яшчэ.

У пакой уваходзіць паштальён.

Паштальён. Добры дзень... Вы, Наста Ярахавец?

Наста. Добры дзень... Я.

Паштальён *(не ведаючы, як пачаць)*. Вам... Вы... *(Дастае паштоўку.)*

Наста *(насцярожана)*. Што мне...

Паштальён. Набярыцеся сілы, таварыш Ярахавец, у вас вялікае гора...

Наста бярэ ў рукі паштоўку, чытае. Ускрыкнуўшы раптам, ідзе да лавы, хістаючыся, сядае. Паштальён знікае. У пакой уваходзіць Стэфан. Ён вясёлы, самаўпэўнены, нічога не падазраючы, распранаецца.

Стэфан. А вось і я нарэшце... Ведаеш, Настачка, сягоння ж сход збіраецца ў нас, першы сход пасля... *(Зірнуўшы на Насту.)* Што з табой, Настачка?!

Наста *(паказвае паведамленне)*. Сымон загінуў... *(Плача.)*

Стэфан *(роблена)*. Ай-яй-яй, гэтакі хлопец...

Наста *(прымаўляе)*. А мой ты Сымонка, а мой жа ты браточак родненькі, а куды ж ты пайшоў, а чаго ж і ты пакінуў мяне!.. А ты ж мамачку сустрэнеш — суцеш яе, а ты ж Рыгора ўбачыш — пагавары з ім.

Стэфан, падсеўшы да Насты, асцярожна туліць яе да сябе.

Стэфан. Хай аблегчыць Хрыстос пакуты твае, раба божая. Нічога не зробіш. Маліся. Маліся, каб выратаваць душу яго, што сумуе па садах божых, бо надта ж цяжка ёй там, грэшнай... Маліся, Настачка. Сапраўднае жыццё наша там. Але пакуль мы жывём, я не пакіну цябе ў гэтым гармідары на зямлі... Я... я кахаю цябе.



Стэфан туліць да сябе Насту. Яна скрозь слёзы даверліва пазірае яму ў вочы, пакрысе супакойваецца. Чуваць стукат у шыбу. Праз акно відзён твар хлапчука.

Хлапчук. Дзядзька Стэфан, можа б вы хлеба пазычылі: мама прасіла, і яшчэ казала, каб на мост ішлі, што немцы ўзарвалі. Там працуюць усе з нашай вуліцы.

Стэфан *(нездаволена)*. Ведаю... *(Да Насты.)* Дай гэтаму дзіцяці лустачку, хай адчэпіцца.

Наста падыходзіць да шафы, адразае паўбохана, выходзіць у сенцы.

Стэфан *(задуменна ходзіць па пакоі, спыняецца)*. Бачыў ты іх — галодныя, а некуды ірвуцца. Добра ім немцы дапяклі!.. *(Паўза)*. Не-е, галубочкі мае, не далічыцца вам многіх сёння на той працы...

За акном мільгаюць постаці, у сенцах чуваць гамонка. Стэфан прымае набожны выгляд. Уваходзяць сектанты. Вітаючыся, мужчыны цалуюцца з ім, садзяцца на лавы. Стэфан падыходзіць да стала.

Стэфан. Дарагія браты і сёстры, нічога лепшага няма, як слухаць мілыя словы нашага господа Ісуса Хрыста і выконваць яго запаветы. *(Вымае са стала біблію, разгарнуўшы яе, урачыста чытае.)* «І радасць і смутак свой прынясі мне ў малітвах свая. Радасць — я уздыму да вышыняў. Смутак утаплю ў гліне». *(Адкладае біблію.)* Дарагія браты і сёстры, вы чуеце, які глыбокі сэнс маюць словы господа Ісуса Хрыста.



Зірніце на рабу божую. *(Паказвае на Насту.)* Яна засталася, як палец, адна. Каб не літасць господа нашага...

Наста, ускрыкнуўшы, у непрытомнасці падае на падлогу. Чуюцца радасныя галасы: «Яна бога бачыць». «Ціха, бог з ёю гаворыць»...

Кульгавы Алесь *(трасучыся, некуды паказвае)*. Бачу, бачу: вунь нячысты дух з яе паляцеў!.. *(Істэрычна рагоча.)*

Галасы. «Вады ёй дайце, вады...»
«Не трэба вады...»

Напалоханы, Стэфан выбягае ў сенцы, прыносіць кубак вады. Прыўзняўшы Насту, падносіць кубак да яе вуснаў.

Галасы. «Не чапайце яе, няхай з богам гаворыць.»
«Няхай вып'е...»

Кульгавы Алесь *(быццам ад некага хаваючыся)*. Бачу, бачу: зноў ляціць да яе нячысты дух!.. *(Дзіка крычыць.)*

Стэфан. Дарагія браты і сёстры, няхай вып'е, яна ж не хрышчоная...

Галасы. «Але ж, няхай вып'е.»
«Заўтра ахрысцім.»
«Яна варта, каб ахрысцілі яе.»

Знясіленую Насту Стэфан садзіць на лаву.

Наста. Дзе гэта я?

Стэфан. Ты бога бачыла, Настачка!.. Бачыла?.

Наста. Не ведаю... здаецца... бачыла... Мне дрэнна...



Наста хіліцца ў непрытомнасці. Стэфан, падхапіўшы яе, выносіць у другі пакой.

Кульгавы Алесь. Чулі, браты і сёстры: яна бога бачыла, сама казала.

Галасы. «Чулі!..»
«Чулі!..»

Закрываючы твар рукамі, сектанты ўголас, кожны на свой лад услаўляюць бога. Уваходзіць Стэфан. Ён робіць выгляд, што моліцца. Час ад часу адкрывае твар, задаволена пазірае на прысутных.

Заслона.

## Карціна трэцяя

Дэкарацыя папярэдняй карціны. Мінула пяць год. У пакоі ярка гарыць электрычнае святло. З суседняга пакоя выходзіць заспаны Стэфан. Галава яго ўскудлачана. Ён пацягваецца, шукае вачыма Насту. Кліча.

Стэфан. Наста!.. Наста!.. *(Прыслухоўваецца.)* Дзе ж яна падзелася? Наста-а-а!..

З сянец адчыняюцца дзверы, на парозе паказваецца худая, згорбленая Наста. Рукі яе ў цесце. Чувацъ, як рохкае парсюк.

Наста *(прыгнечаным голасам)*. Я тут, Стэфанка, парсючку замешвала. Можа што трэба?..

Стэфан *(перакрыўляючы, злосна)*. Трэба... трэба... На ліха ты мне здалася, каб не трэба была! Засталося там што ці не?! *(Пстрыкае пад пашчэнак.)* Галава трашчыць, не вытрымаю...

Наста. Стэфанка, пабойся ты бога, людзі зараз прыдуць, а ты зноў набярэшся...

Чуваць, рохкае парсюк. Наста хоча прайсці.

Стэфан *(злосны соваецца да Насты)*. Давай, кажу!.. А не то зараз!..

Наста *(спалохана)*. Я ж толькі так кажу, бяры сабе, бяры, Стэфанка, у шафе стаіць. *(Знікае ў сенцах.)*

Стэфан. Ну вось, даўно б гэтак!.. *(Ідзе да шафы, бярэ графінчык, шклянку, падыходзіць да стала, налівае, п'е.)* Даўно б гэтак... А то: «Людзі прыдуць, бога пабойся...» Напляваць мне на бога і на людзей... Усіх вакол пальца абвяду. *(Паказвае.)* Во! Я сам бог! *(Бярэ графінчык, хоча наліваць. Чуецца асцярожны стук у шыбу.)* Каго ж там нясе гэтак рана?.. Дамаўляліся ж апоўначы збірацца.

Стэфан хавае графінчык і шклянку ў шафу. Дастае біблію, садзіцца за стол, прыняўшы набожны выгляд, чытае. У сенцах чуваць голас Насты.

Наста. Дома, дома... заходзьце, добры чалавек.

З чамаданам у руцэ ў пакой уваходзіць добра апрануты Адам. Яго цяжка пазнаць, пастарэў, адгадаваў бараду.

Адам *(спыніўшыся ля парога)*. Добры вечар!

Стэфан *(не пазнаючы)*. Добры вечар.

Адам. Не пазнаеш? *(Задаволены.)* Гэта добра, што мяне не пазнаюць... І не дзіўна, пяць гадкоў, дружа мой, адгрукала.

Стэфан *(прыглядаецца, твар яго крывіць усмешка)*. Адам?.. Пан Адам?!

Адам. Ён самы, дружа мой, ён!

Стэфан. Дык чаго ж ты стаіш, праходзь!

Падыходзіць да Адама, абдымаюцца.

Адам *(азіраецца)*. У цябе тут нікога?

Стэфан. Не, але апоўначы сход збярэцца. Давай чамадан, распранайся. *(Бярэ чамадан, ставіць за шафу.)*

Адам *(скідае паліто)*. Сход, кажаш? Гэта добра. Пазнаёміш мяне, як брата па Хрысту. Трэба пажыць у цябе з тыдзень які, справы ёсць. *(Паўза.)* А яна хто?..

Стэфан. Жонка... Памятаеш апошні вечар сорак чацвёртага?.. Дык вось — яна.

Адам *(здзіўлены)*. Што ты кажаш?.. Так, та-ак. *(Паўза.)* А ты ўжо, напэўна, думаў — мяне і на свеце няма?..

Стэфан. Вядома!.. Гэтулькі год...

Адам *(жартуючы)*. Ты прабач ужо, што без дазволу, не папярэдзіўшы. У мяне да цябе...



З сянец уваходзіць Наста.

Стэфан *(да Насты)*. Пад'еў парсючок?!

Наста. Пад'еў, Стэфанка. *(Прыглядаецца да госця.)*

Стэфан. То добра, ідзі адпачывай цяпер... Ідзі, кажу! Пакуль не паклічу!..

Адам *(да Стэфана)*. І не сорамна табе... Хто ж знаёміць нас будзе?..

Стэфан *(да Насты.)* Знаёмся, Настачка, да нас у госці брат прыехаў...

Адам і Наста знаёмяцца.

Адам. Вельмі рады... Змітра Крумкач...

Наста. Наста. Ну, я пайду, нешта нядобра мне. *(Ідзе ў суседні пакой.)*

Адам *(занепакоена)*. А ці не пазнала?..

Стэфан. Не-е. Калі я ледзь пазнаў цябе, а яна *(ціха)*, яна ўсё па тым Рыгору сумуе. Як яшчэ не звар'яцела. Не бойся.

Адам. Глядзі, Стэфан, з агнём жартуеш! Раю табе, асцеражней будзь з ёю.

Стэфан. Кажу табе: не бойся... З яе цяпер, што хочаш рабі: уся божая. *(Паўза.)* Скажы лепш, чаго завітаў у наш край?

Адам. Чаго?.. Як у цябе з сектаю? І наогул...

Стэфан. Як табе сказаць... На цяперашні час, то яно не дрэнна, але ж не тое, што раней было. Адсейваюцца людзі. Цяжка. Кніжок няма.

Адам *(задумліва)*. Так-так... Значыцца, своечасова завітаў да цябе. Дай сюды чамадан!..

Стэфан бярэ з-за шафы чамадан, кладзе на стол. Адам расчыняе яго, вымае некалькі тоўстых пажоўклых кніг, пачак грошай і яшчэ нейкі пакунак. Грошы і кнігі дае Стэфану. Пакунак кладзе ля сябе.

Стэфан *(радасна)*. Адкуль яны?.. Гэта мне?

Адам *(усміхаецца)*. Табе, табе... Сарока з-за мора прынесла. Зразумеў?

Стэфан *(радасна)*. Дзякуй... Ды ўжо ж... зразумеў... *(Разглядае кнігі, чытае.)* Ого! Піцербург, тысяча дзевяцьсот пятага года... Бач ты, захаваліся як!. Пажаўцелі, а быццам новенькія...

Адам *(усміхаецца)*. Кнігі летась друкаваліся.

Стэфан *(не разумеючы)*. Як летась?

Адам. Вельмі проста, у мінулым годзе. Разумееш?.. А тое, што пажоўклі, на гэта хімія ёсць.

Стэфан *(зразумеўшы)*. А-а, бачыш ты, разумна!

Адам. Угу... *(Бярэ адну з кніг.)* У гэтай вось усё, што трэба па стварэнню сектанцкіх гурткоў у сучасных умовах. Карысны дапаможнік. *(Спахапіўшыся раптам, бярэ ў рукі пакунак.)* Гэты пакунак трэба зараз жа схаваць у надзейнае месца. Спатрэбіцца... Куды яго?..

Стэфан *(спалохана)*. Дык чаго ж ты маўчыш! *(Азіраецца па баках.)* Хадзем! Прыхаваем...

Стэфан хавае грошы, бярэ пакунак, выходзіць з Адамам у сенцы. З'яўляецца Наста.

Наста *(прыпамінае)*. Дзе я сустракалася з гэтым чалавекам? Голас... Дзе чула я гэты голас? Ён сэрца мае раздзірае. А можа здалося? Але вочы, вочы!..



Успомніўшы, Наста ўскрыквае, кідаецца ў суседні пакой. З сянец убягаюць Стэфан і Адам. Стэфан падае Адаму знак спыніцца, сам ідзе ў пакой, дзе Наста. Адам з пісталетам у руцэ становіцца за дзвярыма, чакае. Стэфан вяртаецца.

Адам. Ну?!

Стэфан. Ат, кажа, сярэдзіна баліць. Ты не бойся. У мяне, брат, як у бога за пазухай.

Адам (*хавае пісталет*). Асцерагацца не лішне.

Чуецца стук у шыбу.

Стэфан (*глядзіць на наручны гадзіннік*). На сход збіраюцца.

Адам. Вось і добра.

Стэфан (*кліча.*) Наста!.. Настачка!..

З-за сцяны чуваць голас Насты.

Наста. Чаго, Стэфанка?

Стэфан. Ідзі братоў і сясцёр сустракай.

Наста. Сярэдзіна баліць...

Стэфан (*лагодна*). Ідзі, прашу цябе, сустрэнь. Не магу ж я госця пакінуць аднаго...

Наста. Зараз, Стэфанка, іду...

Адам і Стэфан сядаюць да стала. Разгарнуўшы біблію, робяць набожныя твары. Наста выходзіць у сенцы. У пакой па адным, па два ўваходзяць сектанты.

Стэфан (*надзвычай ветліва*). Знаёмцеся, дарагія браты і сёстры, да нас у госці брат прыехаў.

Сектанты знаёмяцца з Адамам. Мужчыны цалуюцца з ім. Апошні ў пакой уваходзіць культгавы Алесь.

Стэфан. Нядобра, Алесь, пазніцца, нядобра... (*Да Адама.*) Знаёмцеся, мой стрыечны брат.

Адам. Рады бачыць... (*Цалуюцца*).

Алесь (*да Стэфана*). Куды гэта Наста паімчалася, ледзь з ног не збіла мяне.

Стэфан (*здзіўлены*). Як паімчалася, яна ж хворая, ледзь ходзіць.

Алесь (*жартаўліва*). Вось дык хворая, нічога не скажаш! Каб і мне такая хвароба!..

Адам (*да Стэфана*). Што гэта значыць? (*Да Алеся.*) Куды яна пабегла?!

Алесь (*здзіўлены, паціскае плячыма*). Не ведаю... На гэты бок міліцыі размінуліся.

Адам (*злосна да Стэфана*). Што ты нарабіў, сабака!

Стэфан (*разгублена*). Н-нічога... Я і сам бачыў, што тут нешта нядобрае.

Адам, схапіўшы з цвіка капялюш і паліто, кідаецца да выхаду. Яму насустрач у пакой уваходзяць Наста і міліцыянеры.

Наста (*паказвае на Адама*). Вось гэты!

Міліцыянеры (*наставіўшы наганы*). Рукі ўгору! Ні з месца!

Адам кідае паліто, хоча дастаць пісталет, але яго хапаюць, разззбройваюць. Стэфан спрабуе ўцячы праз акно: убачыўшы на двары міліцыю, спыняецца; уздымае рукі. Яго абшукваюць, забіраюць грошы. Абодвух выводзяць у сенцы.

Заслона.



Мікола Сіскевіч нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Старыя Габы на Мядзельшчыне ў сялянскай сям'і.
З 1953 года працаваў у рэдакцыях палітаддзельскай і гарадской газет, потым служыў у Савецкай Арміі.
Цяпер працуе загадчыкам аддзела Крывіцкай раённай газеты «Ленінскі шлях».

**Мікола СІСКЕВІЧ**

# МНЕ СНЯЦЦА ТРЫВОГІ



Прыйшла вясна і прыгаршчамі кветак
Насыпала на лузе за сялом.
Я сон салдацкі бачыў ноччу гэтай,
Зенітак чуў даўно знаёмы гром,

Каманду «смірна» і гвардзейцаў песні
Пасля начных паходаў і трывог...
Усё, што ў сэрцы мы сваім пранеслі,
Усё, што кожны ў памяці зберог.

Хоць і няма турбот армейскіх дома,
Я не забыў кастроў паходных дым,—
Цяпер жа у спісках ваенкома
Лічуся я салдатам запасным.

* * *



Не думай
пра мяне, Айчына,
што я не мужны чалавек,
што я не буду верным сынам
жыццё сваё, увесь свой век.

Скажу табе я роднай мовай,
і ты павінна зразумець:
мой лёс, як песня,
ты ў ім слова,
а песні—
без яго не спець!

## ДАРОГА



Дарога —
і дружба, і дождж, і вятры,
чаканне і смутак.
Яна не якой-небудзь там паўвярсты
а тысяча сутак.
Мяне яна робіць штораз маладзей
і з дому заве на прадвесні.
Яна, нібы сябар,
а з ім весялей спяваюцца песні.

## РУЧЭЙ



Надакучыла плыць ручайку
па мурожнай траве, па пяску.

Ён аднойчы употай рашыў:
— Уцяку ад лугоў і ад ніў.

Я сабе аднаму паслужу,
мне ніхто не ўстановіць мяжу.

І напрамак узяў нацянькі,
ад шумлівай і бурнай ракі.

Дзень... Другі... А на трэці змяльчаў
і ў балоце бясследна прапаў.

Як зазнаешся, кінеш людзей,
то загінеш, як гэты ручэй.

* * *



Нехта лісцікі-лапкі
На галінках развесіў,
Вецер цэлым ахапкам
Іх трасе над узлессем.

Колер спелага жыта
Пераймаюць асіны,
Угары над блакітам
Крык чуваць жураўліны.

Дзе ні глянь—ураджаю
Адзначаецца свята.
У маім родным краі
Ходзяць песні па хатах.

Гэта шчасце, што цесна
Ім становіцца ў сэрцах,
І што раніцай весняй
Наша восень здаецца.

Ніл ГІЛЕВІЧ

## СЦЕЖКІ

«Тут пахаваны чырвонаармеец. Малышава Валянціна Мікітаўна, 1924 г. нараджэння. Загінула ў барацьбе з фашысцкімі акупантамі 6.06.1944 г.»

**Надпіс на абеліску.**



Наперадзе — масцік драўляны стары.
Ручай безымянны — граніца.
Далей—беларускія пойдуць бары...
«Вадзіцель, ці нельга спыніцца?

Магілу мінуць не магу я, браток,
Яна вунь на ўзгорачку, блізка...»
Сцяжынкай іду на пясчаны грудок,
Дзе хвойкі наўкруг абеліска.

Што скажа мне, зроблены дбала нажом,
Узорчаты надпіс на блясе?
Чыя тут на ўзгорку, што быў рубяжом,
Гарачая кроў пралілася?

Да роднае хаты, да мілых прысад
Зямляк мой спяшаўся, магчыма?..
Тут спіць Валянціна...
Савецкі салдат...
Звычайная наша дзяўчына.

Не знаю: чарнявай ці русай была,
Ці стрыжку насіла, ці косы.
Яна за Радзіму жыццё аддала:
Хіба гэта ведаць—не досыць?

Для нас, маладых, засталіся ў лугах
Яе несабраныя краскі,
І белай чаромхі дурманлівы пах,
І сонца гарачыя ласкі.

Для нас засталіся абдымкі вятроў
На ўсіх бальшаках і прасёлках,
І музыка ліўняў, і пошум дуброў,
І свіст перапёлак на золку.

І роздум мяне ахінуў на грудку
Пра тых, каму стукнула дваццаць:
Ці кожны, паклаўшы на сэрца руку,
Байцом бы мог сёння назвацца?

Чаму ж аніколі ніякіх трывог
Не ўбачыш у іншых на твары?
Далей за абіты бацькоўскі парог
Чаму не імкнуцца іх мары?

Над гэтым салдацкім капцом дарагім
Прашу аднагодкаў: праверце,
Ці не зараслі дзе да родных магіл
Сцяжыны— у полі і ў сэрцы!

**Рыгор БАРАДУЛІН**

# НА ВУЧЭННІ



Пад антэнай—вудзільнам сухім —
Тут радыст выклікае Мядзведзіцу,
А Малая з Вялікай—над ім:
Рупіць сёстрам да хлопца прыглядзецца.
Зрэдку знічкай ракета мільгне,
Плашч-палаткі бярозы накінулі.
Мінамёт на ўвесь рот пазяхне,
Папярхнецца лабатаю мінаю.
След дыміцца ў халоднай расе,
Туманы пацягнуў вечар волакам.
Просіць піць перапёлка ў аўсе,
Кліча выйсці з касою на золаку.
Ты не кліч, перапёлка, хлапцоў,—
Не забыліся паху мурожнага.
Клічаш ты не касцоў, а байцоў,
Адрывацца ад справы не можна ім.
Перапёлка, не кліч, пачакай,
Сёння працай заняты пільнаю.
Вось адслужацца хлопцы няхай,—
Парукаюцца зноў з касавільнамі.
Можаш піць ты спакойна прасіць.
Пі расу з цішынёю начлежнаю.
—Піць — касіць,
піць — касіць,
піць — касіць
Песня падае кропляй капежнаю...

**Я. А. БЯЛОЎ,**
**Герой Савецкага Саюза,**
**генерал-лейтэнант танкавых войск**

# ПЕРШЫЯ ДНІ

**Урывак з кнігі «Служу Савецкаму Саюзу»**

### Вайна

Як і заўсёды ў суботу, у палкавым клубе паказвалі кінафільм. Жонка мая з дзецьмі пайшла яшчэ раз паглядзець «Аляксандра Неўскага». Сын Жора ішоў аж пяты раз глядзець гэтую гераічную аповесць далёкага мінулага нашай Радзімы.

— А я буду спаць, — сказала маленькая Святланка, але ад мамы не адстала.

У той вечар я заседзеўся ў штабе танкавага палка, якім камандаваў. Раніцай павінна была адбыцца нарада камандзіраў. Рыхтаваўся да яе. Праз акно быў відаць будынак клуба. Заўважыў, як у зале ўспыхнула святло. Значыць, скончыўся сеанс. Заспяшаўся насустрач жонцы. Узяў на рукі сонную дачушку. Жора гойсаў, падскокваў, быццам воін у наступленні, махаў у паветры цацачнай булавой, — відаць, сек нямецкага пса-рыцара.

Сын доўга круціўся ў пасцелі. Сон не браў хлопца. Нарэшце, ён заснуў.

І раптам... Першая прачнулася жонка:

— Яўціхій! Што гэта?..

Па даху нешта шчоўкала, моцна, гучна... Напэўна, біў кулямёт, зверху, з самалёта.

Хутка апрануўся, выбег на двор. Сонца ўставала з-за гарызонту, сыплючы залацістыя прамені. У небе кружыў самалёт. Угледзеў, што на крылах і хвасце яго чарнелі крыжы. Гэта быў фашысцкі бамбардзіроўшчык. А недзе за лесам, у размяшчэнні палка майго суседа палкоўніка Цяпкіна ўзвіўся вогненны слуп. Пачуўся выбух.

«Вайна!» — мільганула ў галаве.

Пабег да штаба. На ганку нешта цямнела. Нагнуўся. У цёмнай лужыне ляжаў чалавек. З-пад вайсковай пілоткі выбілася светлая пасма.

«Капітан Піражкова!»

Гэта была наш зубны ўрач, якую танкісты называлі Машанькай.

Машаньцы было толькі дваццаць тры гады. Месяц назад увесь

ваенны гарадок гуляў на яе імянінах...

Азірнуўся. За плячыма стаялі камандзіры, чырвонаармейцы, схіліўшы галовы. Павольна зняў з галавы шапку.

На гарызонце зноў выбух. Беласток бамбілі варожыя самалёты.

Глянуў на гадзіннік: чатыры гадзіны. Разведка данесла, што паміж Брэстам і Сувалкамі сунуцца вялізныя калоны фашысцкіх танкаў, пяхоты, артылерыі.

Маленькі пакой тэлефаністкі Зоі Муратавай я зрабіў сваім камандным пунктам.

— Я — Воўк, я — Воўк... Мядзведзь, вы чуеце мяне? — дрыжачым голасам бесперапынна клікала Зоя.

Але «Мядзведзь» — штаб дывізіі — маўчаў.

Збянтэжаны, хадзіў я па пакоі. Трэба дзейнічаць самастойна, не чакаючы загадаў камандавання. Але ў гарадку поўна дзяцей, жанчын. Усіх неабходна неадкладна вывезці, ўратаваць.

У дзверы КП пастукалі. На парозе з'явіўся мой Жора, яго сябар Ігар — сын капітана Ляхоўскага і яшчэ трое хлопцаў.

— Мы — дэлегацыя, — звярнуўся да мяне Жора. — Наш піянерскі атрад жадае прыняць удзел у вайне. Выдайце нам зброю.

Я прыняў дэлегацыю сур'ёзна, як дарослых. Пастроіў піянераў і сурова сказаў:

— Слухаць мой загад! Па-першае, загадваю піянерам памагчы вайсковым сем'ям эвакуіравацца да Мінска. Па-другое, усім піянерам — суправаджаць свае сем'і да месца прызначэння. Па-трэцяе, працягваць у тыле вучобу.

Піянеры ўважліва выслухалі загад. Жора гучна, па-вайсковаму, паўтарыў яго, і дзеці выбеглі з пакоя.

А вакол стаяла трывожная, насцярожаная цішыня. Час-ад-часу з'яўляўся нямецкі самалёт, скідваў бомбы або выпускаў кулямётную чаргу і паварочваў назад. Звесткі разведкі былі несуцяшальныя. Немцы рухаліся на нас дзвюма калонамі, утвараючы так званыя абцугі. Часці нашай дывізіі траплялі ў зону гэтых абцугоў.

На маленькім газіку я аб'ехаў гарадок. Людзі скрозь узяліся за рыдлёўкі, каб зрабіць сховішчы.

Раптам з двара клуба, дзе таксама капалі траншэю, даляцеў страшны крык. Павярнуў газік туды... На зямлі, пакрыты шынялём, ляжаў Жораў сябар — Ігар Ляхоўскі. Твар хлопца суровы, быццам чымсьці здзіўлены. Ігар быў мёртвы. Ён загінуў, як воін, на баявым пасту, калі выконваў загад.

Лейтэнант Піліпенка, узводу якога было даручана ахоўваць людзей, што капалі траншэі, далажыў: у лесе з'явіліся чужыя людзі, напэўна, парашутысты. Яны абстралялі траншэю, забілі Ігара і паранілі мясцовага жыхара леснiка Макара.

Неабходна было адразу ж адпраўляць адсюль жанчын і дзяцей.

Увечары, пад прыкрыццём цемры, мы пачалі эвакуацыю. Піянеры памагалі жанчынам узлазіць на высокія грузавікі, падсаджвалі дзяцей, насілі клункі з рэчамі.

Машыны адна за адной выязджалі са штабнога двара і знікалі між дрэў. Мая сям'я ад'язджала апошняй.

— Жадаю табе поспеху! — сказала жонка мне на развітанне і закрыла твар хустачкай. Не вытрымала — заплакала.

### На чацвёрты дзень...

Уначы загаварыў штаб дывізіі. Нам загадалі перагрупавацца ў лес, кіламетраў за дзесяць на ўсход ад Беластока, а потым далей, на поўнач.

Танкавы полк рушыў у паход.

Дарогу, якой мы ехалі, увесь час бамбіла варожая авіяцыя.

«Манеўраваць!» — перадаў па радыё ўсім камандзірам танкаў мой загад капітан Чуняк, у машыне якога я ехаў.

Танкі то ідуць павольна, асцярожна прасоўваючыся абочынай, пад дрэвамі, то імчаць па шырокай дарозе з хуткасцю 30 кіламетраў у гадзіну. Так мы дайшлі да Беластоцкага лесу. Першы этап пройдзены ўдала: ніводнага пашкоджанага танка, ніводнага параненага танкіста.



Але наша радасць была заўчаснай. Фашысцкая разведка выявіла нас. Вакол пачаў гарэць лес, рваліся бомбы, трашчалі кулямёты. Загарэўся адзін танк, другі...

Браня распальвалася так, што нельга было сядзець у машыне. Фашысты хацелі знішчыць нас. Танкісты капалі пад танкамі глыбокія акопы. Не прайшла і гадзіна, як увесь полк акапаўся.

А вакол бушаваў агонь. Каля мяне прабегла медзведзяня. Беднае, ратуючыся ад пажару, яно шукала прытулку каля людзей... Крычалі птушкі, па дрэвах скакалі вавёркі. А вось з'явіліся і людзі. Гэта былі жыхары навакольных вёсак, хутароў. Спалоханыя сярод ночы, яны выбягалі на вуліцу ў адной бялізне і кіраваліся на ўсход, туды, дзе не было фашысцкіх танкаў, бомбаў. Людзі ішлі і ішлі, — параненыя, абпаленыя агнём, з дзецьмі на руках. Да мяне падбегла жанчына з дзяўчынкай-падлеткам. Левая рука дзяўчынкі матлялася, быццам пуга.

— Родненькі, вазьміце нас з сабой, вазьміце! — прасіла жанчына.

— Кладзіся! — толькі паспеў крыкнуць я, як выбух накрыў нас.

Пасля я ўбачыў жанчыну. Яна ляжала побач, прытуліўшыся да зямлі. Раптам усхапілася:

— Тамара! Дачушка! Тамара! — клікала маці.

Але ў адказ толькі рэха адгукалася ў лесе: «... р-ра-а!... ра-ра-а!»

Воддаль, між дрэў, я зноў убачыў групу людзей, якія ішлі, ледзь перастаўляючы ногі.

— Абухоўскі! — загадаў я свайму намесніку, — пасадзі іх на грузавік і хутчэй вывезі з лесу.

— Таварыш кампалка, але ж у нас усяго два грузавікі... — спрабаваў запярэчыць Абухоўскі.

— Выконваць загад! — паўтарыў я, і раптам заўважыў танк. Ламаючы дрэвы, ён імчаў да нас.

— Не наш... нямецкі, — прашаптаў нехта з танкістаў.

Сапраўды, танк быў не наш. На яго чорнай брані бялелі фашысцкія крыжы. Але вораг паводзіў сябе дзіўна: гармата не страляла, з люка вадзіцеля звісала белая анучка.

«Правакацыя... А мо' перабежчык?» — мільганула ў галаве. Загадаў не страляць. Калі танк спыніўся, з яго выскачыў... маёр Зайчанка — начальнік штаба палка Цяпкіна. Гэта было нейкае дзіва: савецкі камандзір у фашысцкім танку!

Маёр ледзь трымаўся на нагах, яго твар быў скрываўлены. Ён сабраў апошнія сілы, каб расказаць гісторыю, якой на чацвёрты дзень вайны цяжка было даць веры.

... Танкісты Цяпкіна стаялі ў раёне Сакулкі. Некалькі разоў яны хадзілі на ворага. Узрываліся варожыя танкі, падалі фашысцкія салдаты, у небе гарэлі самалёты з чорнымі крыжамі, а вораг наступаў і наступаў...

Сувязь з дывізіяй была парушана. Камандзір палка хваляваўся, лаяўся. Нарэшце, загадаў:

— Маёр Зайчанка! Правяцеся на танку да Сакулак. Паспрабуйце адшукаць штаб дывізіі.

І маёр паехаў. За кулямётам сядзеў камандзір сувязі капітан Харанкоў. На ўзлессі спыніліся. Здзівіла цішыня. Уперадзе ляжала поле. Шумела збажына. Выйшлі з машыны. Захацелася паляжаць, крыху паспаць, ужо ж двое сутак не зводзілі вачэй... Раптам загрукацела, і з лесу выскачылі варожыя танкі.

«Пяць, шэсць...» — лічыў Зайчанка збялелымі губамі. — «Хочуць узяць жывымі!» — зразумеў маёр і ў адчаі выхапіў з кішэні гранату.

З аднаго танка выскачылі чатыры гітлераўцы і кінуліся да савецкіх камандзіраў. Маёр кінуў у варожы гурт гранату, крыкнуў: «Харанкоў, за мной!» і рынуўся да машыны. Не заўважыў, як ускочыў у танк, і толькі калі пралез на месца механіка-вадзіцеля, убачыў, што капітан Харанкоў ляжаў пасярод поля мёртвы: напэў-

на, застрэліўся, калі гітлераўцы хацелі схапіць яго. «Бывай, дружа...» — прашаптаў Зайчанка і націснуў на рычаг. Танк ірвануўся з месца і выскачыў з варожага акружэння.

Вось так маёр Зайчанка трапіў не ў штаб дывізіі, а ў наш полк.

Пакуль мы слухалі расказ Зайчанкі, загаварыў штаб дывізіі. «Перагрупавацца на захад ад Гродна...» — расшыфраваў Чуняк радыёграму камандзіра дывізіі генерала Барзілава.

Значыць, генерал жывы, штаб дзейнічае! Гэтая вестка ўзняла настрой. За дзесяць мінут сабраліся ў дарогу. Нашы танкі памчаліся на Гродна.

Спыніліся ў лесе, паблізу горада. Праз лісце дрэў быў відаць серабрысты Нёман. Рака быццам замёрла: ні парахода, ні чаўна. Старадаўнія цэрквы блішчалі на сонцы золатам купалоў. У Гродна ўжо былі немцы.

Што ж рабіць далей? Чамусьці зноў замоўк штаб дывізіі.

— Сініца! Сініца! Я — Воўк. Чуеш мяне? — крычыць у эфір Зоя Муратава.

Штаб не адказвае.

Паслаў дзве «трыццацьчацвёркі», каб звязаліся са штабам дывізіі. Мінула гадзіна, другая... Танкі не вярталіся.

— Таварыш Бялоў, дазвольце мне выехаць на пошукі штаба, — папрасіўся Абухоўскі.

— А што, калі і з табой здарыцца бяда?

— Не хвалюйцеся, Яўціхій Амяльянавіч, вярнуся! — прасіўся мой намеснік.

За год, што мы разам працавалі, я вельмі прывык да Міколы Абухоўскага. Гэта быў разумны, адукаваны камандзір. Не хацелася пасылаць яго ў такую рызыкоўную, небяспечную разведку. Аднак іншага выйсця не было.

— Ну што ж, едзь. Жадаю табе поспеху...

Выбралі ўмоўны код для сувязі, і Абухоўскі рушыў.

З разведкі Абухоўскі не вярнуўся. Дарэмна клікала Зоя Муратава:

— Ружа, Ружа-а!..

Абухоўскі-Ружа, знік. Няўжо яго ўзялі ў палон фашысты?

— Ён не дасца... Ці не падарваўся на міне? — прагаварыў капітан Чуняк.

А чэрвеньскае неба быццам зацягнулі хмары. Цэлымі стаямі ляталі фашысцкія самалёты. Яны імчалі з Гродна і на Гродна. Напэўна, набіралі на гродзенскім аэрадроме бомбы і вярталіся бамбіць нашы гарады, вёскі, вайсковыя часці.

А што калі?.. — раптам мільганула думка. Паклікаў камбата Ляхава і сказаў яму:

— Трэба прарвацца да гродзенскага аэрадрома і расстраляць з гармат самалёты, якія нагружаюцца там бомбамі. На заданне пойдуць толькі добраахвотнікі. Аб'яві па ротах.

Праз дваццаць мінут 15 танкаў выстраіліся на ўзлессі. Ля кожнай машыны стаяў экіпаж. Я растлумачыў танкістам заданне.

— Прарвацца да аэрадрома, які, безумоўна, добра ахоўваецца, можна толькі знянацку, з поўнага ходу. А таму ўперад, хлопцы!

Галаўны танк павёў капітан Чуняк. Я сеў побач з ім за кулямёт.

Ніхто з нас тады не думаў, ці вернецца з гэтага небяспечнага паходу. Нас вяла лютая нянавісць да праклятых гітлераўцаў, жаданне адплаціць за смерць таварышаў, родных, за спаленыя гарады, вёскі...

Цяпер мне нават цяжка ўспомніць, як гэта мы прарваліся да аэрадрома і расстралялі з гармат самалёты з чорнымі крыжамі. Але калі заплюшчваю вочы, дык бачу вялізныя варожыя машыны, што развальваюцца, быццам цацачныя, на кавалкі, бачу, як гітлераўцы разбягаюцца па аэрадроме.

Я быў тады нібы ў тумане. Апамятаўся толькі на знаёмым узлессі. Гадзіну назад адправіўся адсюль у бой з 15 танкамі, а цяпер перада мной стаяла дванаццаць. Каля іх — героі-танкісты.

— Таварышы, сябры, гэта наша першая перамога над ворагам, і я ўпэўнены, што не апошняя. Няхай зямля будзе пухам для тых, хто не вярнуўся з баявога задання!

Мы знялі з галоў танкісцкія шлемы.

... Гэта было на чацвёрты дзень вайны.



### Танкі на маршы

Выірашылі не спыняцца і ноччу. Наш экіпаж: капітан Чуняк, радыстка Зоя, механік-вадзіцель Сямён Папоў, наводчык Гагаідзе і я.

Адпачывалі па чарзе. Я спаў ля гарматы. Раптам усхапіўся: здалося, нехта плача. Уключыў ТПУ — апарат, з дапамогай якога танкісты размаўляюць паміж сабой. Зоя плакала. Я пачуў размову:

— Не баец ты, а баба, вось хто! — гарачыўся капітан. — Гавары палкоўніку: не пакідаць тут жанчын, усіх у тыл адправіць. Дык не паслухаў, пакінуў... Чуеш, Зойка! Не румзай, і без цябе моташна...

Але Зоя не пераставала плакаць.

— Думаеш, мне паміраць страшна, — гаварыла яна праз слёзы. — І зусім не страшна. Уцякаць ад фрыцаў сорамна... Ну, чаму мы адступаем, чаму? Паглядзі, якія ў нас хлопцы. Героі! Усе ў бой рвуцца, а мы адступаем.

Я ўстаў, падышоў да радысткі. Куды падзеліся ружовыя шчокі прыгажуні Зоі? І доўгую касу, якая спадала аж да пояса, Зоя адрэзала, «каб не перашкаджала ваяваць», як сказала яна ў першы дзень вайны.

Зоя па-дзіцячаму прыхінулася да мяне. Вочы дзяўчыны мімаволі заплюшчваліся. Хоча спаць, зразумеў я. Вось таму і не вытрымала, расплакалася. Так і заснула яна каля прыёмніка, схіліўшыся на маё плячо.

Зоі сорамна было адступаць... А мне хіба не сорамна! Але што зробіш, калі вораг кінуў супраць нас тысячы баявых машын. Яны ідуць суцэльнай лавінай, сталёвымі хвалямі. Фашысцкія генералы не шкадуюць ні баявой тэхнікі, ні людзей, толькі б зламаць нашу абарону.

Але я сэрцам верыў, што поспехі ворага часовыя. Гітлераўцы кінулі ў бой усе свае сілы, спадзеючыся разбіць нас адным маланкавым ударам. Толькі Гітлер праілічыўся. З яго маланкавага ўдару нічога не атрымлівалася. Кожны метр савецкай зямлі яму даводзілася браць цаной вялікай крыві, цаной незлічоных страт...

Раніцай паблізу вёскі Жылічы нас спынілі пехацінцы. Няголеныя твары салдат былі чорныя ад стомленасці і гразі.

— Дзе ваш камандзір? — спытаў я.

— Загінуў... — адказаў сяржант з павязкай на галаве.

— Памажыце, браточкі. Там, каля ракі, немцы нашых акружылі. Трэба выручыць, а ў нас патроны скончыліся, — перапыніў яго другі пехацінец.

Я загадаў даць пехацінцам патроны, гранаты, пасадзіць на танкі і павярнуць назад, да Нёмана, дзе ў няроўным баі змагаўся атрад савецкіх воінаў.

Яшчэ здалёк заўважылі: пяхотная часць праціўніка на барках перапраўляецца на наш, левы бераг ракі.

— Не ведаеце, таварыш палкоўнік, які сёння тэмператур у Нёман? — пачуў я ў шлемафоне голас Гагаідзе, што сядзеў ля гарматы.

— А навошта табе? Ці не хочаш купацца? — спытаў я танкіста.

— О, не! Гэта думаем мы, ці не змерзне немец, калі паплыве, — закрычаў весела Гагаідзе і стрэліў.

Вакол загрымела. Па варожай пяхоце ўдарыў шквал агню. Баркі ламаліся, гітлераўцы падалі ў ваду.

— Ура-а-а-а! — раптам пачулася з ляску.

Адтуль беглі фашысты, іх гнала наша пяхота.

— Ага, д'ябальскі душа, спалохаўся! І табе захацелася Нё-

ман! — крычаў Гагаідзе, а яго гармата біла ды біла па гітлераўцах.

Не прайшло і паўгадзіны, а ніводнага жывога фашыста вакол не засталося.

Дык вось якія вы ваякі! Палахлівыя зайцы! Пачакайце, і ў нас будзе багата зброі, і мы пакажам вам тады, як умеюць ваяваць савецкія людзі!

Бой скончыўся. Гарэлі дрэвы. У паветры лёталі камякі сажы, асядаючы на траву, на голле дубоў, на твары танкістаў.

— Памыцца і пагаліцца! — загадаў я байцам.

А праз гадзіну на лясной сцяжынцы звінела песня:

Полюшко-поле,
Полюшко, широко поле,
Едут да по полю герои,
Эх, да Красной Армии
герои...

Полк імчаў да станцыі Рось. Пехацінцы абляпілі з усіх бакоў танкі. Нашы сілы падвоіліся.

Увечары нас чакала новая радасць: мы сустрэлі штаб дывізіі. Але чаму такі сумны генерал Барзілаў?

— Што здарылася, таварыш генерал? — спытаў я трывожна.

— Дрэнныя справы, Бялоў, мы ў глыбокім тыле. Вакол праціўнік...

Мы прайшліся з Сямёнам Васільевічам па ляску. Вакол усё спярэшчана акопамі. Напэўна, яшчэ два-тры дні назад тут быў пярэдні край, ішоў гарачы бой. Цяпер гэта — глыбокі тыл.

Генерал склікаў камандзіраў. Трэба было неадкладна вырашаць: прабівацца з акружэння, ці пераходзіць да партызан. Суха, коратка Сямён Васільевіч растлумачыў абстаноўку і расказаў, што ўчора ў штаб прыйшоў дзядок. На плячы ён трымаў касу. Залапленая сялянская світка падпяразана вяроўкай, стары капялюш пачарнеў ад часу і поту. Дзядок патрабаваў, каб яго прывялі да самага старшага камандзіра. Калі дзядок убачыў камдыва, ён скінуў капялюш. Разам з ім зляцела і барада. Перад генералам стаяў малады чалавек.

— Дакладваю, таварыш генерал, што па даручэнню абкома партыі я арганізоўваю партызанскі атрад. Прыйшоў прапанаваць і вам, калі хочаце, перайсці ў партызаны, — і «дзядок» зноў надзеў свой капялюш з барадой.

«Дзядок» паведаміў, што ў лясах ужо дзейнічаюць партызаны. Два дні назад зляцеў пад адхон эшалон з варожымі салдатамі і зброяй, а ўчора знік абоз з хлебам, што ішоў у эсэсаўскую часць. Гэта непакоіла фашыстаў, яны пачалі нервавацца.

На адну вёску, дзе, як здавалася гітлераўцам, дзейнічалі партызаны, з самалёта скінулі лістоўкі. «Дзядок» паказаў адну з іх. Там было напісана:

«Смертный казнь будет за каждый вид неповиновения как единичного, так и множественного».

А яшчэ «дзядок» расказаў, што камандуе партызанскім атрадам маладая жанчына — настаўніца, жонка камандзіра Чырвонай Арміі. Яна прыйшла ў атрад з пяцігадовай дачкой і назвала сябе «бабай Ягой».

Супраць мяне сядзеў капітан Чуняк. Ён пабялеў, калі пачуў пра «бабу Ягу».

— Гэта мая Вольга, жонка... — прамовіў ён.

— Чаму ты думаеш, што твая? — спытаў я.

— У час нашага развітання, яна сказала: «Калі не здолею выехаць у тыл, — не прападу. Шукай «бабу Ягу». Я не зразумеў тады яе, а вось цяпер...

Камандзірская нарада вырашыла: прарывацца з баямі з акружэння. У ляску больш заставацца было нельга. Нас заўважылі з самалёта, які кружыўся над самымі верхавінамі. Гэта азначала, што неўзабаве з'явяцца бамбардзіроўшчыкі.

Генерал Барзілаў загадаў ісці на Зельву. Па даных разведкі, сілы ворага там нязначныя, і мы зможам выбіць яго адтуль.



### Шлях на Зельву

Абедалі на невялікім хутары. Сяляне выносілі нам на дарогу хто збан малака, хто кавалак сала або гаршчок з гарачай капустай.

— Даражэнькія вы нашы, любыя, ці хутка вернецеся?.. — плакалі жанчыны.

— Можа сярод вас ёсць танкіст Якуб Ахрымовіч? Сынок мой... Ці жывы, галубок... — гаравала калгасніца са стомленым тварам.

Да нас, цяжка абапіраючыся на кіёчак, падышоў дзед. З-пад сівых броваў слязіліся выцвілыя вочы.

— Адыходзіце, значыць, арляняты? — бяззубым ротам прашамкаў ён. — Дрэнна, вельмі дрэнна. Але не бядуйце, хлопцы. На вайне ўсяляк бывае. І мне даводзілася ваяваць. Не глядзіце, што цяпер я такі слабы. Сто шэсць гадкоў маю. Яшчэ з Нахімавым Паўлам Сцяпанавічам Севастопаль ад француза адбіваў... З таго часу і запамятаў мудрыя словы. І вам іх скажу: «Не той дужы, хто мацнейшы, а той дужы, хто разумнейшы». Таму, як будзеце вяртацца назад, дарогай на Берлін, не мінайце хаты дзеда Стася Малашова, добрую чарку пастаўлю, арляняты!..

Мы развіталіся з дзедам, падзякавалі сялянам за абед і рушылі далей. А сташасцігадовы Стась Малашоў яшчэ доўга стаяў каля дарогі і праз слёзы глядзеў нам услед.

І тут наляцелі бамбардзіроўшчыкі з чорнымі крыжамі.

Загарэлася адна «трыццацьчацвёрка», другая... Генерал Барзілаў загадаў рассыпацца па полі, схавацца ў гаях, манеўраваць. Нашы зeніткі білі па самалётах. У небе ўспыхнуў агонь. Гэта загарэўся варожы самалёт. А вось каменем паляцеў на зямлю і другі.

— Ура-а-а-а!

Але мне раптам стала душна.

— Палкоўнік, гарым! — закрычаў Гагаідзе і хутка выскачыў з танка.

Я — услед за танкістам. Не паспелі саскочыць на зямлю, як наш Т-34 раптам падкінула. Узарваўся бак з гаручым. Мы ляглі ў канаву ля дарогі. Толькі цяпер я падумаў: якое шчасце, што з намі не было Зоі! Яна на гэты раз ехала ў машыне з Чуняком.

Але вось самалёты пайшлі на захад. Напэўна, скончыліся бомбы.

З гаёў асцярожна выпаўзлі нашы танкі. Пяць, дзесяць, пятнаццаць, усё, што засталося ад палка.

Гадзіну назад мы выслалі наперад танк старшага сяржанта Спірчанкава разведаць дарогу на Зельву. Вырашылі, пакуль ён вернецца, адрамантаваць пашкоджаныя бомбамі машыны.

«Трыццацьчацвёрка» Спірчанкава вярнулася ўначы. Сяржант быў цяжка паранены, танк вёў малодшы палітрук Каўтун. Адважныя хлопцы не толькі знайшлі дарогу на Зельву, але і знішчылі па дарозе тры варожыя танкі.

А было гэта так. Экіпаж вяртаўся з задання, калі насустрач ім выскачыла пяць варожых машын.

— Хлопцы! — спакойна сказаў Спірчанкаў, — уцякаць ад ворага не ў маім нораве. Прымем бой!

З гэтымі словамі Спірчанкаў павярнуў танк за стог сена, які стаяў пасярэдзіне луга.

— Гэй, фрыцы, пагуляем у хованкі! — весела закрычаў Спірчанкаў, выскачыў з-за стога і закрычаў: — Агонь!

Палітрук Каўтун і камсамолец Васіль Іванчук выконвалі загад свайго камандзіра з маланкавай хуткасцю. Зробіць гармата адзіндва стрэлы, і танк — скок за стог. Вось ён ужо з'явіўся з левага боку, і зноў — стрэл па варожых танках. Потым ён выскачыў з правага боку і зноў — стрэл...

Гітлераўцы ніяк не маглі разлічыць, з якога боку выскачыць танк, і таму разгубіліся. Але ўсё ж адзін іх снарад трапіў у «трыццацьчац-

вёрку» і параніў Спірчанкава. Яго месца адразу ж заняў Каўтун, і гераічны экіпаж працягваў свой «танец» на лузе.

Адзін за адным, быццам запалкі, успыхвалі варожыя машыны. Толькі двум удалося ўцячы.

— Вось што значыць выяваць не колькасцю, а ўмельствам. Залатое правіла, хлопцы! — сказаў генерал Барзілаў, калі Каўтун скончыў расказваць.

Толькі яго слоў ужо не чуў той, хто так умела карыстаўся гэтым правілам у баі. Ён ціха памёр на руках у генерала.

Пахавалі мы камсамольца Спірчанкава ўрачыста, па ўсіх вайсковых правілах, і рушылі ў дарогу.

Ішлі з задраенымі люкамі. Але неспадзявана наш танк зачмыхаў і спыніўся. Што здарылася? Гагаідзе, які вёў машыну, бяссільна схіліў галаву на рычагі.

— Няма гаручага... — прамовіў ціха.

Я адчыніў люк. На дарозе стаялі яшчэ два танкі. Дзе дастаць гаручае? Паблізу нас — чыгуначная станцыя. У бінокль мы ўбачылі цыстэрны.

— Хлопцы, на гэтую справу пойдуць толькі добраахвотнікі. Трэба па-пластунску дабрацца да цыстэрнаў, без шуму зняць ахову і ракетай падаць нам сігнал, — сказаў я танкістам, якія сабраліся каля мяне.

Пяцёра камсамольцаў на чале з Гагаідзе зніклі ў цемры. Марудна цягнуліся мінуты. Ці справяцца хлопцы з гэтым заданнем? Каб не трапілі хаця ў рукі ворага...

І вось неба праразала блакітная стужка. Ракета! Забразгалі гусеніцы. «Трыццацьчацвёркі» рванулся да станцыі.

Каля цыстэрнаў ляжалі два мёртвыя гітлераўцы.

— У станцыйным будынку спяць яшчэ некалькі фрыцаў, — сказаў мне адзін з смельчакоў.

Я сам накіраваў дула гарматы на будынак і даў па ім адзін за адным тры стрэлы. Там, дзе толькі што стаяў будынчак, з'явілася гурба цэглы. А ў гэты час танкісты запраўлялі танкі.

— Вось бы нам нагрузіцца яшчэ і снарадамі! — летуценна сказаў капітан Бандарэнка — мой памочнік па гаспадарчай частцы.

— Можа і пашанцуе, — адказаў я яму.

Танкі рушылі далей. Світала, калі ўдалечыні паказалася Зельва. Так мы сустрэлі першую ліпеньскую раніцу.

### Мы твае, Радзіма!

Разведка паведаміла, што ў Зельве стаіць вялікая матарызаваная нямецкая часць.

— Усім камандзірам танкаў падлічыць запас снарадаў і неадкладна паведаміць палкоўніку Бялову, — перадала па радыё мой загад Зоя.

Пяць, шэсць, восем... Мала, зусім мала снарадаў мелі нашы «трыццацьчацвёркі».

Вырашылі мінуць мястэчка. Паімчалі па сцяжынцы, якая цягнулася ўздоўж поля.

Мой танк ішоў уперадзе. У пералеску, што неспадзявана з'явіўся перад намі, замігцела нешта чырвонае. Мо' здалося? Прыгледзеліся. Гэта былі нямецкія аўтобусы.

Узнік план: акружыць пералесак і раздавіць чырвоныя машыны.

— На таран!..

Гітлераўцы, якія сядзелі ў машынах, не паспелі і апамятацца, як былі акружаны і раздаўлены нашымі танкамі.

— Шаснаццаць аўтобусаў, а ў кожным па 15—20 фрыцаў... Нядрэнна на пачатак, — як дзіця, радаваўся капітан Чуняк, аж падскокваючы на адкідным сядзенні.

— І галоўнае, знішчылі іх без адзінага снарада, — дадаў я.

Цяпер кожны снарад мы цанілі так, быццам ён быў зроблены з золата. Наперадзе дзесяткі кіламетраў, праз якія трэба прабівацца з баямі.

Выехалі на шырокую брукаваную дарогу. Страшная была тая



дарога. Танкісты празвалі яе «дарогай смерці».

Падбітыя «трыццацьчацвёркі», гарматы, грузавыя машыны і сотні забітых чырвонаармейцаў. Нядаўна, напэўна, не пазней, як учора, тут ішоў гарачы бой.

Мы выйшлі з танкаў. Усе былі сумныя. Генерал Барзілаў сказаў:

— Таварышы танкісты, пахаваем герояў. Я ўпэўнены, мы яшчэ вернемся сюды з перамогай і збудуем над гэтай брацкай магілай велічны помнік, каб людзі ў вяках зберагалі памяць аб тых, хто аддаў сваё жыццё за свабоду нашай Айчыны.

Непадалёк каля дарогі неўзабаве вырас высокі ўзгорак. Танкісты ўсцягнулі на яго вяршыню разбітую танкетку, і палітрук Каўтун напісаў на ёй: «Смерць нямецкім акупантам!»

Праз два дні мы падышлі да Слоніма. У ляску непадалёку ад гарода вырашылі адпачыць. Танк за танкам даводзілася кідаць па дарозе. У нас не было ні снарадаў, ні гаручага. Застаўся толькі адзін танк, а ў ім — адзін снарад.

Толькі мы паселі, каб з'есці кавалак хлеба, як убачылі: лясок акружаюць гітлераўцы. Іх было шмат, напэўна, цэлы батальён. Я паглядзеў на Сямёна Васільевіча. Твар яго быў спакойны, ні адзін мускул не ўздрыгнуў на ім.

— Будзем трымацца, Яўціхій! — прашаптаў генерал. — У нас ёсць яшчэ снарад.

Я паглядзеў назад. За нашымі спінамі стаялі байцы: чырвонаармейцы, камандзіры, знясіленыя адступленнем, недаяданнем, бяссоннымі начамі. Сярод іх былі параненыя, хворыя. Але на твары кожнага з байцоў я не ўбачыў страху. Эх, каб нам крыху зброі, мы б яшчэ паказалі вам, фрыцы, як умеюць ваяваць савецкія танкісты! Ды зброі ў нас не было.

Але часу траціць было нельга. Фашысты набліжаліся. Між намі і ворагам было метраў дзвесце. Гітлераўцы ўжо заўважылі генеральскую форму Сямёна Васільевіча.

— Рус, здавайс! Генерал, пераходзь да нас! Палкоўнік здавайс! — крычалі яны нахабна.

— Прыгатавáць, таварышы, вінтоўкі, гранаты, пісталеты, усю зброю, — камандаваў Барзілаў. — Будзем стаяць насмерць.

Гітлераўцы акружалі нас усё шчыльней. Адступаць не было куды. Яны не стралялі. Відаць, хацелі ўзяць нас у палон. Не ўдасца!

— Агонь па ворагу! — скамандаваў генерал.

Варожы ланцуг уздрыгнуў, крыху адступіў. Але вось яны зноў пайшлі на нас. Напэўна, зразумелі, што маюць справу з абяззброенымі людзьмі. Паміж намі ўжо заставалася метраў 50, і ў абойме рэвальвера ў мяне адзіны патрон. Я вырашыў пакінуць яго сабе. У галаве калоны стаяў Т-34. Генерал і я — каля машыны.

— Яўціхій, пацалуемся! Прыйшоў наш час... Выпусцім у гітлераўцаў апошні снарад. Гэта будзе сігнал, і мы застрэлімся...

— Агонь па ворагах Радзімы! Страляй, Вася! — загадаў я наводчыку Іванчуку.

— Ёсць! — крыкнуў Іванчук і скокнуў у танк.

Следам за гарматным стрэлам адтуль пачуўся яшчэ адзін стрэл — рэвальверны. Я зразумеў: так скончыў сваё жыццё вясёлы камсамолец, лепшы наводчык палка Васіль Іванчук.

— Раз! — сказаў я.

— Два! — вымавіў Барзілаў і паднёс рэвальвер да сэрца.

Я напружана сачыў за рукой генерала. Вырашыў: мы спусцім куркі адначасова. Я не мог бачыць гэтага разумнага, валявога камандзіра мёртвым...

Палец лёг на курок. Упершыню ў жыцці мая рука задрыжала. У галаве мільганула думка: няўжо няма іншага выйсця? Я закрычаў: «Уперад!» — і пабег. Не азіраўся, але адчуваў, што за мной бягуць воіны.

— Ур-р-ра! Ура-ра!!! — грозна кацілася па ляску.

Ды што гэта? Гітлераўцы пабеглі, палахліва пабеглі!..

Я павярнуў на поўдзень ад

Слоніма, бо ведаў — там балота. Значыць, там няма гітлераўцаў. Мы ішлі доўга, моўчкі, хутка ішлі. Спыніліся на ўзлессі, пакрытым мяккай, быццам шоўк, травой, і толькі тут далі волю сваім пачуццям: хто смяяўся, хто плакаў, прыгадвалі, як пустымі рукамі ўдалося адагнаць батальён да зубоў узброеных гітлераўцаў.

На гэтым узлессі правялі ўвесь дзень. Памыліся ў возеры, пагаліліся, адпачылі!

Нас было зусім мала. Уначы рушылі ў дарогу. Параненых неслі на руках.

Ішлі начамі, а ўдзень адпачывалі ў лесе. Лес і карміў нас. Танкісты аказаліся вопытнымі паляўнічымі. Хутка зрабілі сілкі. Туды траплялі даверлівыя зайцы, птушкі. Паставілі пастку і на вялікую жывёлу. Неўзабаве трапіў дзік. Во было радасці!

Аднойчы мы назапасілі сабе мёду. Справа была пад вечар. Ідзём дрымучымі нетрамі. Бачым — з старога дуба маладое медзведзяня выскачыла. Бяжыць, а за ім пчолы. Ага, відаць, мядзведзю захацелася мёду! І танкісты, вядома, не адмовіліся мёду паспытаць. Адразу з'явіліся добраахвотнікі. Першы ўзяўся за справу Гагаідзе. Ён заматаў сабе твар ручніком і проста кацялком пачаў выграбаць з дупла мёд.

Дваццаць дзён вось так мы ішлі па лясах і балотах. Нідзе ніводнага жылля. Ішлі на ўсход уначы — па зорках, па компасу.

А была і такая ноч, што ледзь не загінулі. Забрылі ў багну. Да світання праляжалі ў балоце. Варухнуцца страшна, каб не зацягнула. Раніцой сустрэлі дзяўчынку гадоў трынаццаці. Спачатку яна спалохалася, а потым узрадавалася:

— Нашы вы, савецкія! А нам гаварылі, што на свеце ўжо зусім чырвонаармейцаў няма...

Павяла нас Марыйка — так звалі дзяўчынку — да сваёй вёскі.

Быццам родных, сустрэлі нас у вёсцы. Накармілі, лазню напалілі. І правадніка далі, які да чыгункі правёў. А там мы ўжо сваіх чырвонаармейцаў сустрэлі.

Здаецца, Захаценічамі завецца тая вёска, дзе ў бурным 1941 годзе жыла Марыйка.

Дзякуй табе, любая дзяўчынка! Ты памагла нам...

Літаратурны запіс С. Чарняк.
Пераклаў з украінскай мовы А. Чаркасаў.



Лётчык-знішчальнік першага класа П. І. Паўлаў.
Фота Я. Кольчанкі.

# ТАКІ САВЕЦКІ САЛДАТ!

### Рэпартаж

Пачынаецца новы працоўны дзень Радзімы. Шахцёр апускаецца ў шахту, сталявар становіцца ля гарачай печы, хлебароб накіроўваецца ў поле, інжынер садзіцца за чарцяжы, а савецкія салдаты ідуць на заняткі. Па прынятаму чацвёртай сесіяй Вярхоўнага Савета СССР Закону «Аб новым значным скарачэнні Узброеных Сіл СССР» іх стане менш. Вось чаму тым, хто застаецца пакуль у салдацкіх шынялях, трэба загартоўваць і ўдасканальваць сваё баявое майстэрства. Адзіная іх воля і імкненне — аддана служыць сваёй Айчыне, паспяхова здзяйсняць планы роднай партыі.

* * *

На тактычным полі стралковы ўзвод абсталяваў выходную пазіцыю. Намечаны заняткі па баявой стральбе. З раніцы разбіты ячэйкі для стралкоў, пляцоўкі для ручных кулямётаў, камандныя пункты. Салдаты стараюцца адзін перад другім, усе працуюць з агеньком. Задаюць тон камандзіры аддзяленняў сяржанты Макарэвіч і Данабаеў.

Назіраючы, як умела, з захапленнем дзейнічае сяржант Макарэвіч, афіцэр расказвае нам пра яго, пра тое, як ён аднойчы, яшчэ будучы салдатам-кулямётчыкам, праявіў сябе на вучэннях.

Было гэта так. Пад прыкрыццём артылерыйскага агню пехацінцы фарсіравалі раку. Кулямётчыку было загадана застацца на нашым беразе і весці агонь па пунктах «праціўніка». Камсамолец Макарэвіч паспяхова справіўся з гэтай задачай. Стралкі надзейна замацаваліся на беразе, а затым імкліва рушылі наперад. Цяпер кулямётчыку трэба было самому хутка пераправіцца праз раку, не адстаць ад наступаючых, падтрымаць іх агнём свайго кулямёта. Плывучы аўтамабіль, на якім мог бы пераправіцца разам з іншымі салдатамі кулямётчык, «пра-

ціўнікам» быў выведзены са строю.

Як пераправіцца? Калі чакаць пераправы другога падраздзялення, адстанеш ад сваіх. Яфрэйтар паглядзеў навокал, ці няма якіх-небудзь спадручных сродкаў. Блізка нічога такога не было. Праўда, ён ведаў, што вышэй па цячэнню ёсць брод, удалечыні відзён і мост, але шукаць лёгкай пераправы — значыць, адстаць. У баі ж адставаць нельга. Тады Макарэвіч рашае пераплыць раку. Спачатку кулямётчык ішоў па рацэ. Але вось вада ўсё вышэй і вышэй. Надышоў момант, калі заставалася толькі плысці — у адзенні, пры ўсім рыштунку, з кулямётам. Хвалі заміналі салдату, але ён, не азіраючыся, плыў і плыў... Вось і бераг. Ступіўшы на яго, яфрэйтар хутка пабег наперад, схаваўся за кустамі і ў хуткім часе быў там, дзе яго таварышы вялі «бой».



**Камсамольцы аднаго з перадавых стралковых аддзяленняў на занятках па агнявой падрыхтоўцы: малодшы сяржант Уладзімір Вавуленка і курсант Юры Глоба.**

— Вось які ён, савецкі салдат! — сказаў генерал з залатой зоркай Героя на грудзях. — Наш салдат у вадзе не патоне, у агні не згарыць, у сцюжу не замерзне. Няма для яго ніякіх перашкод!..

З таго часу Макарэвіч нібы пашырэў у плячах, павышэў ростам. Праўда, ён па-ранейшаму сціплы, хоць да першай узнагароды, якую ён тады атрымаў ад генерала за пераправу на рацэ, дадаліся новыя заахвочванні.

... Падзьмуў халодны вецер, неба зацягнулася хмарамі, паваліў густы снег, прысыпаючы ўзрушаную зямлю. Прайшло некалькі гадзін. Мясцовасць, на якой дзейнічаў стралковы ўзвод, на першы погляд здавалася такой, як і раней. Не засталося ніякіх слядоў ад таго, што на працягу многіх дзесяткаў метраў пракладзена траншэя. Цяпер яна старанна замаскавана, абсталявана перакрыццямі.

Самі воіны сціпла ацэньваюць свае справы. Іх штодзённая вучоба, у якой нараджаецца высокае воінскае майстэрства, — гэта і ёсць якраз тое, што мы называем самаадданай працай на карысць Радзімы.

... У небе ўзвіліся і раскрыліся ярка-чырвонымі кветкамі сігнальныя ракеты, і адразу ж, з ходу, набіраючы хуткасць, пайшлі ў атаку танкі. Яны рвануліся да першай траншэі «праціўніка», выціскаючы на снезе шырокія рубчатыя сляды. За танкамі рынулася наперад пяхота. Салдаты імкліва пераадольвалі перашкоды. Наступаць было цяжка. Ногі грузлі ў глыбокіх сумётах, і зверху аблеплівала мокрым снегам. Былі хвіліны, што салдаты зусім знікалі ў снежнай замеці. У гулематораў, у перастуку стрэлаў выразна, не змаўкаючы ляцела працяжнае баявое «ўра!». Пяхота ішла наперад.

Раптам перад невялікай вышынёй па наступаючым узводзе секануў агонь «варожага» кулямёта. Узвод залёг. Але праз некаторы час салдаты правафлангавага ад-



дзялення, хаваючыся ў кустарніку, кінуліся ўбок. Нізка нахіліўшыся да зямлі, яны ўсё далей і далей браліся ўправа. Ні адной хвіліны не страчана дарэмна. Гэта было аддзяленне, якім камандаваў Фёдар Макарэвіч.

Кіраўнік заняткаў, які ўважліва назіраў за яго дзеяннямі, зразумеў задуму сяржанта. Яна заключалася ў тым, каб ударыць па «праціўніку» з фланга.

— Кемлівы камандзір! — сказаў пра Макарэвіча афіцэр.

Аддзяленне адначасова атакавала вышыню. Уперадзе, крыху прыгнуўшыся, бег сяржант Макарэвіч. Не затрымліваючыся, ён лёгка пераадольваў перашкоды, увесь час павялічваючы тэмп руху.

Узвод прадаўжаў наступленне.



**Камандзір узвода лейтэнант С. Дземчанка, малодшы сяржант У. Іванкін і радавы Б. Дзюдзікаў праводзяць свайго сябра Петраса Калвайціса** (другі злева), **які едзе ў родныя мясціны.**

Ідуць заняткі і ў артылерыстаў. Камандзіра батарэі мы засталі на назіральным пункце ў той момант, калі ён рыхтаваўся да перамяшчэння на новы рубеж. Па яго камандзе батарэя знялася з агнявых пазіцый і накіравалася па ўказаным маршруце.

Умовы для пераходу былі цяжкімі: пасля адлігі падмарозіла, дарогі заледзянелі. Ад вадзіцеляў патрабаваліся вялікія намаганні і майстэрства, каб без затрымкі правезці гарматы.

Нягледзячы на складанасць маршруту, машыны рухаюцца хутка. Па сігналу камандзіра вадзіцелі радавыя Захараў, Пількевіч і іншыя выводзяць свае гарматы на ўказаныя месцы.

Направа займае агнявую пазіцыю разлік сяржанта Міколы Карповіча. Як толькі цягач, крута павярнуўшыся на месцы, спыніўся, артылерысты адчапілі гармату. Машына ідзе ў сховішча, а разлік рыхтуецца да «бою». Наводчык радавы Набіеў устанаўлівае прыцэл, астатнія нумары закопваюць сашнікі. Мёрзлая зямля не паддаецца рыдлёўцы. Тады артылерысты бяруцца за лом і кірку. Усе працуюць з напружаннем, імкнучыся як мага хутчэй падрыхтавацца да стральбы.

Стараюцца і іншыя разлікі. Артылерысты разумеюць, што ў іх справе поспех вырашаюць хуткасць, дакладнасць і зладжанасць. Гэтага ад іх і дамагаюцца камандзіры.

Асабліва прыдзірлівы і патрабавальны да падначаленых сяржант Карповіч. Уся яго ўвага накіравана да наводчыка. Як хутка і дакладна выканае ён свае абавязкі?

Вось Набіеў крыху марудзіць ля вугламера. Секунды ідуць. Набіеў спяшаецца і пачынае круціць махавік паваротнага механізма не ў той бок. Зразумеўшы памылку, воін стараецца выправіць яе, але секундная стрэлка паказвае, што час, якога дамагаецца камандзір, мінуў.

— Разлік, да гарматы! — камандуе Карповіч.

Салдаты хутка становяцца за гармату. Сяржант правярае дакладнасць установак і наводкі.

— Усё правільна, але маруднa, — заўважае ён. — Паспрабуем яшчэ раз.

Зноў разлік ля гарматы. Трэніроўка прадаўжаецца.

— Праверце дзесяць, дваццаць разоў кожны свой рух, — раіць Карповіч падначаленым, — і ўзважце: а можа ёсць магчымасць зрабіць лепш, хутчэй. Падумайце, дзе можна выйграць секунду, паўсекунды...

Камандзір разліку настойліва трэніруе салдат і з кожнай новай камандай з задавальненнем адзначае, што артылерысты цяпер дзейнічаюць спрытней і больш дакладна.

— Сёння мы сэканомілі яшчэ некалькі секунд, — падводзіць вынікі трэніроўкі сержант Карповіч. — А гэта вялікая справа. У баі кожная секунда на ўліку.

Батарэя зноў выстройваецца і пераходзіць на новыя агнявыя пазіцыі, адкуль разлікі пачнуць стральбу. Захоўваючы належныя інтэрвалы, цягачы з гарматамі накіроўваюцца да агнявых пазіцый. Вадзіцелі і артылерысты дзейнічаюць хутка, увішна. Неўзабаве камандзіры гармат дакладваюць аб гатоўнасці да «бою».

Удалечыні паказаліся шчыты, якія дагэтуль былі старанна замаскаваны. Амаль адначасова адкрываюць агонь наводчыкі радавыя Набіеў і Сергіенка. Сержант Карповіч дакладна карэктыруе агонь. Адзін за другім раздаюцца стрэлы.

Абодва наводчыкі за дакладную стральбу атрымоўваюць выдатныя адзнакі.

* * *

Мы расказвалі пра некаторых салдат і сержантаў. А такія ёсць у кожнай роце, у кожнай батарэі. Пасля вучэбнага дня роўнымі стройнымі радамі крочаць салдаты. У прастору нясецца песня, якая славіць нашу Айчыну, родную Камуністычную партыю.

**З. КАЛБАСАЎ.**

# *Дарогамі сямігодкі*

Сцяпан КУХАРАЎ

## ІНЖЫНЕР ПРЫЕХАЎ

### Нарыс

1

Яшчэ дрэмле змрок зімовай ночы, а на ўсходзе ўжо выразна забялеўся край неба. Блізка раніца. Ад святла, што льецца з вокнаў хат, з вулічных ліхтароў, на свежым пульхным сняжку, на сінюватай заснежанай сцежцы варушацца жаўтлявыя плямы-цені. Золкі раніішні ветрык увішна варушыць пахучы сняжок-пацяруху. Як знакі ягонай заўзятасці, на сцяжынцы сям-там узніклі вычварныя гурбачкі-перакаты. Курыць мяккі пылок пад нагамі.

У цёплых бацькавых бурках, у лёгкім кароткім кажушку, Віктар спрытна пераскоквае снежныя курганкі, кіруючыся знаёмай сцежкай да калгаснага двара. Хлопец стараўся прыйсці на працу рана, каб самому бачыць, як пачнецца працоўны дзень у майстэрні. Але і на гэты раз у варотах ужо стаяў, шырока ўсміхаючыся, плячысты, у зашмальцаванай паддзёўцы трактарыст Васіль Паўлючкоў.

— Здароў, Віктар Васільевіч! — першы прывітаўся з інжынерам Паўлючкоў і моцна, з усяе сілы, пацiснуў цёплую, ужо агрубелую ад частага дакранання да жалеза Віктараву руку.

— Добрай раніцы, — адказаў на прывітанне Віктар, пажартаваўшы: — Як ні стараюся ўстаць рана, а вы ўсё ж раней. Мажліва, і дадому на ноч не хадзілі, Васіль Васільевіч?

— Чаму ж, хадзіў, — ідучы па цаліку побач з інжынерам, гаварыў Паўлючкоў. — Як заўсёды, адмахаў сваю норму — тры кіламетры. — Ён азірнуўся і заўзята ўсклікнуў: — Вунь і Краснецкі, і Пашэда, і Вольскі... Усе сёння раней збіраюцца. Нікому не хочацца ў такія дні асарамаціцца!..

Паўлючкоў паправіў шапку-аблавушку, расправіў плечы і з непрыхаванай урачыстасцю прамовіў:

— Мы, таварыш інжынер, думаем так: паколькі ў Маскве на пленуме ЦК роднай партыі ішла вялікая гаворка пра нашага брата-механізатара, нам трэба, як ніколі, пастарацца па-ўдарнаму... Хочацца, каб наш трактар іменна ў гэтыя дні выйшаў з майстэрні!..

— Гэта добра, Васіль Васільевіч, — ажывіўся Віктар, прыспешваючы крок. — Вельмі добра.

Паўлючкоў з сябрамі накіраваўся ў механічны цэх, дзе на рамонце стаяў яго трактар «ДТ-54», а інжынер пакрочыў у кузню.

Інжынеру прыемна, што людзі стараюцца. Робяць усё, што ад іх залежыць, каб своечасова і дабраякасна падрыхтаваць тэхніку. З раніцы да вечара, не зважаючы на марозы і завірухі, завіхаюцца на рамонце. Падахвочваюць адзін аднаго. Робяць з душой, са шчырасцю.

— Як настрой, Васіль Іванавіч? — спытаўся інжынер зваршчыка Сібілёва.

— Настрой добры, Віктар Васільевіч, — узняўшыся, загаварыў зваршчык. — Раней давялося б з гэтай работай ехаць у РТС а зараз, як бачыце, умомант зварыў. Як, не блага?

— Зусім нядрэнна.

— Пакуль Віктар абышоў усе свае цэхі, дык і дзень скончыўся. Цяпер можна было б адправіцца дадому, але ўспомніў, што ёсць справа да старшыні, і пакрочыў у кантору.

... Прыгадалася пагожая асенняя раніца 1959 года, калі Віктар прыехаў у Яроміна, як сустрэлі яго ў першы дзень на новым месцы. І старшыня калгаса Мікалай Пятровіч Хаванскі і механізатары віншавалі Віктара з новай адказнай пасадай, зычылі яму шчасця на самастойным шляху.



Калгас набыў яшчэ адзін новы трактар — магутны «ДТ-54». Інжынер даверыў яго аднаму з лепшых маладых трактарыстаў Аляксею Арлову. Работу на новай машыне Аляксей пачаў са змазкі ўсіх вузлоў.

Трымаючы рукі ў кішэнях прасторных штаноў-галіфэ, злёгку ўсміхаючыся аднымі куткамі поўных румяных вуснаў, старшыня гаварыў:

— Калгас наш не бедны, мы маем магчымасці цяпер мець свайго інжынера-механіка. Ваша найпершая задача ў тым і заключаецца, каб уся наша багатая тэхніка дзейнічала на ўзроўні, — ён зрабіў шырокі жэст рукой, паказваючы на ладны, абнесены агарожай пляц двара, дзе стаялі і трактары, і аўтамашыны, і камбайны, і паблажліва дадаў. — Вось ваша поле — дзейнічайце!

У той жа дзень з выпадку прыезду маладога інжынера ў кузні ішла гаворка:

— Новага інжынера прыслалі, — як звычайную вясковую навіну паведаміў нехта з малатабойцаў.

— То цяпер, можа, больш дзе чаго дастане, — сказаў малады трактарыст, які заглянуў пад гэты час у кузню. — Няма адхлання з гэтымі запчасткамі...

— А хіба наш Поліх-брыгадзір меншы спрыт у гэтай галіне мае, — падаў голас стары каваль Андрэй Якаўлевіч. — Чалавек ужо зубы з'еў, ездзячы па ўсіх гэтых «снабах»...

— Дзівакі! — крыкнуў маладзейшы з кавалёў Сяргей Марозаў. — Вы ж забыліся, што інжынер — не экспедытар. Інжынер на тое і пасылаецца ў калгас, каб памагчы нам усю нашу складаную тэхніку пусціць на поўны ход, каб падкаваць нас, калгасных спецыялістаў, як кажуць, на ўсе чатыры нагі. Вось для чаго нам патрэбны інжынеры!..

## 2

На асцярожны стук у дзверы з кабінета старшыні пачулася:

— Хто там? А, Віктар Васільевіч, заходзь, заходзь, не саромся, — Мікалай Пятровіч, ідучы насустрач, працягнуў інжынеру абедзве рукі і гаварыў, ківаючы галавой. — Не гожа гэтак, брат, не гожа. Ужо скора паўгода, як жывеш у Яроміне, а смеласці малавата. Ты, брат, прывыкай. Нашы яромінцы не любяць ціхіх, сарамяжлівых. У нас, брат, людзі— арлы. Самі не спяць і другім зяваць не дадуць. Заўсёды, калі што якое, ідзі ў любую хвіліну дня і ночы. Дзверы адчыняй усюды насцеж!



Пасадзіўшы Віктара побач з сабой, старшыня цёпла ўсміхнуўся сваёй харошай, сяброўскай усмешкай (Мікалай Пятровіч, напэўна, у два разы старэй за Віктара) і пачаў распытваць пра справы, пра жыццё-быццё. Віктар таропка, чамусьці хвалюючыся, расказваў.

Старшыня ківаў у знак згоды галавой, збоку пазіраючы на хлопца-інжынера, і было бачна, што ён задаволены ім. Яму падабалася тая адкрытасць і шчырасць, з якой Віктар бярэцца за справу, тая няўрымслівасць, якая свяцілася ў яго шэрых, удумлівых вачах.

— Ну, а як наконт падшыпнікаў? — раптам спытаў старшыня, і Віктару здалося, што ў старшынёвых прыжмураных вачах бліснула хітрынка-насмешка.

«Эх ты, гора-інжынер, нават звычайнага падшыпніка не прыдбаеш!..» — варухнулася трывожная думка.

— Так, Мікалай Пятровіч, патраціў два дні і ўсё дарма, — Віктар зачырванеўся, нібы школьнік.

— Нічога, як-небудзь знойдзем, — спакойна прагаварыў старшыня. — Запчасткі — праблема, якая ўжо вырашаецца. Пасля гэтага пленума ЦК партыі забеспячэнне запаснымі часткамі будзе арганізавана па-новаму. А пакуль што скажы механіку, няхай з'ездзіць да суседзяў, у «Перамогу», яны пазычаць пару падшыпнікаў. Я дамовіўся.

— Мікалай Пятровіч, — усхапіўся Віктар. — Мы ж многае можам рабіць сваімі сіламі. У нашай майстэрні. Нам яшчэ б нажыць хутчэй адзін такарны станок ды новую майстэрню пабудаваць!..

— Наконт майстэрні гэта ты правільна, — уздыхнуў старшыня, прайшоўся сюды-туды па кабінеце,



Інжынер-будаўнік Пётр Маркавіч Чэпікаў (у цэнтры) і брыгадзір комплекснай брыгады Макар Ільіч Касянкоў знаёмяць Віктара Шувалава (справа) з планам будаўнічых работ у калгасе.

потым спыніўся ля Віктара, даверліва паклаў яму руку на плячо і ўпэўнена сказаў: — Майстэрню, Віктар Васільевіч, пабудуем такую, што не сорамна будзе яе і паказаць. Ты ж ведаеш, што праўленне вырашыла той пачаты будынак, непадалёк ад калгаснага двара, дзе думалі раней коней ставіць, аддаць пад майстэрню...

— Дык я пра тое, што трэба хутчэй будаваць яе, каб хоць к наступнай зіме механізатары дзякуй сказалі.

— А гэта ты ўжо і сам на свайго калегу інжынера-будаўніка націскай,—хітраватая ўсмешка зноў мільганула на паўнаватым дабрадушным твары старшыні. — Дарэчы, ты з нашым Пятром Маркавічам пазнаёміўся як мае быць? Вы сустракаецеся, раіцеся?..

— Вядома... Мы знаёмы, — нясмела і разгублена адказаў Віктар. Яму было неяк няёмка перад старшынёй-камуністам, перад самім сабой за тое, што за гэтыя чатыры месяцы працы ён не пазнаёміўся бліжэй з інжынерам па будаўніцтву, якога ў вёсцы, відаць, шчыра паважаюць. Вядома, Віктар з ім сустракаецца, Пётр Маркавіч нават не адзін раз быў у іх на сядзібе, дзе Віктараў бацька, адстаўны афіцэр, будуе дом. І Віктар і нават яго бацька здзіўляліся

той прафесійнай упэўненасці, з якой Пётр Маркавіч даваў ім парады. Здаецца, для Пятра Маркавіча няма нічога складанага і няяснага. А вось у Віктара, у яго працы, яшчэ столькі цяжкасцей, столькі пытанняў, на якія ён сёння не можа даць ясны адказ!

Ну, і хітры ж гэты Мікалай Пятровіч. Толькі крадком, як кажуць, краем вока зірнуў на Віктара, і ўжо хлопец ўвесь у яго, як на далоні.

— Добра! — сказаў старшыня і запрасіў Віктара да стала, заваленага рознымі брашурамі, паперамі, картамі-схемамі. — А цяпер выкладвай, з чым прыйшоў?..

Віктар звыклым рухам рукі прыгладзіў пышныя цёмныя валасы, кашлянуў у кулак і паклаў перад сабой дробна спісаны ручкай-самапіскай лісток, старанна разгладзіў яго.

— У мяне ёсць сякія-такія думкі, — усё больш пераадольваючы няпрошанае хваляванне, загаварыў малады інжынер. — Гэта перш за ўсё думкі, якія падказаны прамовай Мікіты Сяргеевіча Хрушчова на нарадзе энергетыкаў краіны.

— Цікава. Цікава, — Мікалай Пятровіч падсунуўся бліжэй да інжынера, нарыхтаваўшыся ўважліва слухаць яго.

— У нашым калгасе, вядома, электрычнасць ужо трывала ўвайшла ў быт калгаснікаў, — усё больш ажыўляўся Віктар. — Электрычная лямпачка свеціць ва ўсіх дамах. У калгасных людзей — радыёпрыёмнікі, тэлевізары, электрапрыборы. Электрычнасцю на фермах пампуецца вада, здрабняюцца кармы; у майстэрні электрычнасцю прыводзяцца ў рух станкі, у кузні — кавальскія мяхі. Вы ж ведаеце, у нас цяпер 45 электраматораў, амаль усе яны дзейнічаюць. І тым не менш — электрыфікацыя самае, я лічу, надзённае, яшчэ не вырашанае пытанне.

— Цікава, — узняў крутыя бровы Мікалай Пятровіч, а потым пільна ўгледзеўся ў твар Віктара, які цяпер нагадваў заўзятага вясковага хлопца-камсамольца.

— Я агледзеў нашы матары, — Віктар гаварыў ужо больш спакойна, узважваючы сказанае. — Пабываў у будынках, пацікавіўся, як зроблена электраправодка, і павінен сказаць, што нашы электрыкі — зусім безініцыятыўныя людзі. Гэта іх недагляд, што амаль усюды электраматоры не закрыты, на шчытках няма ахоўнікаў. Шмат дзе папсавалася электраправодка. А вазьміце такую рэч, як эканомія электраэнергіі. Прайдзіцеся днём па фермах, і вы ўбачыце, як на двары, на слупах, гараць электрычныя ліхтары. Здаецца, дробязь, а ўрэшце набіраюцца вялікія страты. Вазьміце далей — водазабеспячэнне. На кароўніках зімою, у часе вялікіх марозаў, вада ў трубах замярзае, і паілкі выходзяць са строю. Трэба, Мікалай Пятровіч, прымаць тэрміновыя меры!..

— Згодзен, брат, згодзен, — задумліва прагаварыў старшыня і змоўк, нібы збіраючыся з думкамі. Потым рашуча ўзяў за плечы Віктара, цёплым позіркам акінуў яго шчуплаватую постаць і шчыра дадаў: — Прыходзь, брат, на выязное праўленне. Я думаю, што збярэмся там у вас, у майстэрні, дамовімся аб усім больш канкрэтна. Добра?

— Добра. Абавязкова трэба сабрацца!..

Віктар у добрым настроі, узрушаны і чамусьці крыху разгублены, выйшаў з кабінета старшыні. Ужо ў калідоры заўважыў, што трымае ў руках сваю рыжую шапку-вушанку. Рыўком насунуў яе на галаву і паімчаўся хутчэй у клуб. Там, напэўна, ужо сабралася моладзь на рэпетыцыю.

Камсамольцы на чале са сваім новым важаком Віктарам Шувалавым рыхтуюць невялічкі мастацкі канцэрт — кампазіцыю: «Шчасце калгаснага Яроміна».

У дарозе зноў прыгадалася яшчэ многае з таго, што сёння хвалюе калгаснага інжынера. Узяць хоць бы тое ж пытанне тэхнічнага агляду машыннага парку. Вострая



і надзённая праблема. Тэхнікі ў калгасе многа. Толькі трактароў 15 ды камбайны, ды сеялкі, ды малатарні, а потым жа аўтамашыны, цегачы, розныя карманарыхтоўчыя машыны. Вялікі машынны парк патрабуе гаспадарскіх адносін да яго.

А ў калгасе пакуль што да тэхнікі адносяцца па прынцыпу: «Едзь, пакуль вязе». Пра тэхнічны агляд трактарыст успамінае тады, калі яго машына ўжо стане і ані з месца.

Віктар, праўда, дабіўся сякога-такога пералому, але яму даводзіцца яшчэ не лёгка. Малады інжынер наважыў арганізаваць догляд тэхнікі па-новаму, як рэкамендуе перадавая навука і практыка: трактары ставіць на прафілактыку на аснове расходу паўнай нормы гаручага.

Віктар упэўнены, што трактарысты падтрымаюць яго ініцыятыву і з 1960 года ўсім будуць уручаны кніжкі, па якіх будзе бачна, калі каму трэба рабіць тэхнічны агляд.

... У клубе ўжо было поўна моладзі. Іграў духавы аркестр. На сцэне сталі ў яркіх святочных уборах харысты. У прасторы, залітай электрычным святлом, луналі словы песні, складзенай мясцовым паэтам, аб тым, якія цудоўныя людзі жывуць у Яроміне.

Віктар расхінуў свой кажушок, зняў шапку-вушанку. Накіраваўся да хлопцаў, якія ўселіся на крэслах у зале. Пасля рэпетыцыі, вядома, яны ўгавораць «начальніка духавікоў» Косцю Кускова на якую пару танцаў.

У карагодзе дзяўчат на сцэне Віктар адразу прыкмеціў чарнявую галоўку сваёй жонкі. «А гэты вяночак да твару Галі, яна ў ім, як дзяўчынка», — падумаў ён, і ў сэрцы разлілася прыемная цеплыня.

Галя, тая самая дзяўчына, з якой Віктар шэсць гадоў перапісваўся, прыехала ў калгас следам за ім. На новым месцы жыцця справілі вяселле.

Якраз пад гэты час у Яроміне пачалі ствараць калгасны музей, і Галя з уласцівай камсамолцы



**Нядаўна ў Яроміне створаны калгасны краязнаўчы музей. Загадвае ім мясцовы старажыл заслужаны настаўнік школ БССР Рыгор Васільевіч Сазоненка, а работу метадыста ўзяла на сябе Галя Шувалава, жонка Віктара.**

энергіяй узялася дапамагчы настаўніку-пенсіянеру Рыгору Васільевічу Сазоненку сабраць экспанаты.

Віктар задаволены, што Галя знайшла сабе занятак на новым месцы — яна працуе метадыстам у калгасным музеі.

## 3

Наш час такі, што тэхніка, навука сталі надзённай неабходнасцю ўсіх людзей. Тэхніка прыйшла і ў вёску. Новыя сучасныя машыны сталі надзейнымі сябрамі калгасніка.

Яму, калгаснаму інжынеру, выпала вялікая, пачэсная роля арганізатара і прапагандыста тэхніч-

ных ведаў, якія так неабходны цяпер кожнаму, хто стаіць ля машыны...

Віктар разумее, вядома, сваю ролю, свае задачы. Інакш не прывёз бы ён разам з дыпломам выпускніка Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі трохпудовы чамадан, напакаваны тэхнічнай літаратурай. Інакш не рыхтаваўся б ён да сваіх першых заняткаў так заўзята і з такім захапленнем. Ён не раз выступаў перад студэнтамі, рабіў даклады, абараняў дыплом, але так не хваляваўся, як цяпер, І гэта зразумела. Яму хацелася заахвоціць людзей, паказаць ім у машынах тое, чаго яны не заўважылі, хоць ужо гады пражылі каля іх.

Больш таго, інжынер ведае, што гэтыя людзі, механізатары, у якіх пакуль што недастатковыя тэхнічныя веды, узяліся сёння за вырашэнне небывалых задач. Толькі адна лічба дае яскравае ўяўленне аб тым працоўным гераізме, які праяўляюць яромінцы, штурмуючы рубяжы сямігодкі. У сацыялістычных абавязацельствах, прынятых усімі калгаснікамі на 1960 год, запісана: атрымаць на сто гектараў ворыва па 103 цэнтнеры свініны — у пяць разоў больш, чым атрымана летась. Гэта лічба, якая спачатку планавалася на апошні год сямігодкі. Вось на што здольны нашы людзі, якім родная партыя дала магутныя крылы ініцыятывы!

Па ўсіх паказчыках яромінцы вырашылі сямігодку выканаць за 5 год. У іх такі закон: чалавек — свайму слову гаспадар.

А механізатары, як вядома, заўсёды былі, ёсць і будуць — на пярэднім краі. Яны — заслужаныя гвардзейцы палёў.

Яромінскі калгас, што непадалёк ад Гомеля, смела пракладае на вачах усіх суседзяў прамую і ясную дарогу ў заўтрашні дзень, асветлены прамяністым сонцам камуністычнай будучыні.

Сярод тых, хто ідзе ў радах разведчыкаў заўтрашніх далячынь, малады інжынер — камсамолец Віктар Шувалаў. Са сваімі ведамі, што набыў у сценах акадэміі, з шчырым, адкрытым сэрцам ён прыехаў у калгас і аддае справе ўсю гарачыню юнацкай душы, увесь задор маладосці.

Характэрная рыса ў яго характары — гэта нястомныя пошукі, гарачае імкненне аблегчыць працу людзей, дапамагчы ім здзейсніць велічныя планы сямігодкі.

Яшчэ неяк увосень, разгаварыўшыся з трактарыстам Іванам Вольскім, Віктар даведаўся, што той па прыкладу варонежскага механізатара апрацоўваў 102 гектары кукурузы, і ў інжынера нарадзілася думка — стварыць сёлета два комплексныя звяны па вырошчванню кукурузы. Плошча пад гэтай культурай павялічыцца больш як у два разы і складзе 400 гектараў. Віктар падлічыў, што летась трактарыст Іван Вольскі са сваім напарнікам сэканомілі тры тысячы працадзён. Няцяжка ўявіць, якая будзе выгада калгасу, калі ў комплексных звеннях усё будзе зроблена так, як патрабуе передавая агратэхнічная навука. Інжынера падтрымалі і праўленне, і камуністы, і камсамольцы калгаса.

У зімовыя дні механізатары не толькі рыхтуюць тэхніку да вясны. Яны вучацца. Адзін раз у тыдзень увечары звеннявыя-трактарысты Іван Вольскі і Кастусь Пашэда, іх зменшчыкі-напарнікі і сябры — слухаюць лекцыі, якія чытаюць ім Віктар Шувалаў і аграном Аляксандр Шэхтман. Механізатары вывучаюць вопыт Манукоўскага, каб самім вясною правесці сяўбу па-новаму. Інакш нельга: комплексныя звенні ўзялі высокія абавязацельствы: вырасціць і ўбраць механізаваным спосабам 400 гектараў кукурузы і 300 гектараў бульбы, заваяваць высокі ўраджай гэтых культур.

На занятках можна бачыць, як паміж маладым выкладчыкам і слухачамі разгараюцца спрэчкі, як павялічваецца узаемная цікавасць да тэхнікі. І гэта не дзіўна: у маладога выпускніка свежыя тэарэтычныя веды, а ў яго слухачоў — багатая практыка.



Звычайна сваю лекцыю-расказ Віктар Шувалаў стараецца ілюстраваць: ён прыдбаў патрэбныя таблiцы і схемы, дамогся, каб на кожных занятках дэманстравалі спецыяльныя тэхнічныя фільмы.

Заняткі, як правіла, праходзяць жыва і цікава. Слухачы задаюць шмат пытанняў, дзеляцца думкамі. Асабліва актыўнічаюць звеннявыя. Іх цікавіць кожная дробязь, якая датычыць механізацыі работ па вырошчванню кукурузы. І вельмі важна, што механізатары не проста цікавяцца тым ці іншым пытаннем, яны разам з інжынерам думаюць, як яго лепш вырашыць, як знайсці бліжэйшы шлях да мэты.

Нядаўна пасля размовы аб механізацыі сяўбы кукурузы да інжынера падышоў трактарыст Іван Вольскі.

— Віктар Васільевіч, — звярнуўся ён да Шувалава, — ёсць у мяне адна прапанова. — І механізатар выклаў свой план наконт таго, каб разам з сяўбой праводзіць хімічную апрацоўку глебы — вельмі надзейная гарантыя ад пустазелля...

— А гэта ты вычытаў дзе ці сам надумаў? — запытаўся інжынер.

— Можа дзе пра гэта і напісана, — крыху збянтэжыўся звеннявы. — Але я сам да гэтай думкі прыйшоў. Гэта ж зусім проста. Пры сеялцы прымацаваць бачок і разам з насеннем апырскваць глебу хімікатамі.

Івана Вольскага падтрымалі ўсе: і інжынер і сябры-механізатары. Знайшла агульнае адабрэнне і яго прапанова наконт таго, каб на сяўбе абыходзіцца без мернага дроту. Яго замяніць няхітрая канструкцыя з пруткоў пры сеялцы. Сёлета ўпершыню вырашана ўсю сяўбу кукурузы правесці выключна сеялкамі, апрацоўку міжраддзяў, уборку і сіласаванне — таксама механізаваным спосабам. Механізатары сваімі сіламі (у двух звяннах 10 чалавек) зробяць тое, чым былі заняты сотні калгаснікаў.



**Інжынер Віктар Шувалаў** (злева) **вядзе заняткі на курсах механізатараў. Але і тады, калі заняткаў няма, ён заўсёды гатовы памагчы калгаснікам. Вось ён адказвае на пытанні трактарыста Васіля Паўлючкова, якія ўзніклі пры чытанні ім новай кнігі аб сельскагаспадарчых машынах.**

Фота А. Дзітлава.

Прайшло каля пяці месяцаў, як у калгас імя Сталіна прыехаў малады інжынер. Ён яшчэ, вядома, мала зрабіў. Не паспеў чалавек, як кажуць, яшчэ добра агледзецца, але ўжо знайшоў сваё месца ў вялікай сям'і калгасных спецыялістаў, правільна вызначыў сваю ролю арганізатара тэхнічнага ўзбраення калгаснай вытворчасці.

Сціплы і працавіты, Віктар турбуецца ў майстэрні, на жывёлагадоўчых фермах — там, дзе рыхтуецца заваяванне новых рубяжоў, якія належыць узяць яромінцам у другім годзе сямігодкі. Яго можна стрэць і ля трактара, які толькі што праходзіць абкатку пасля рамонту, і ля станка, побач з токарам, які атрымаў новае заданне і не можа сам як мае быць разабрацца. Яго поўнасцю захапіла ў свае абдымкі тэхніка, яму хочацца давесці яе да ладу.

Віктар не адчувае стомы. У яго добры настрой. Яму лёгка ісці, — побач шмат сяброў. З ім крочыць Галя — любімая спадарожніца.

**Калгас імя Сталіна Гомельскага раёна.**

# Гары, камсамольскі аганёк!

## УКЛАД АЎТАЗАВОДЦАЎ

**Расказ камсорга аддзела галоўнага энергетыка Мінскага аўтазавода Веры Жаўцянковай**

Месяцы са два таму назад на нашым заводзе можна было наглядаць такі малюнак. Па цэхах і аддзелах хадзілі са скруткамі пад пахай камсамольцы і наклейвалі то тут, то там невялічкія рознакаляровыя плакаты, надрукаваныя на звычайнай газетнай паперы. Аб чым гаварылася ў плакатах? Вось некаторыя з іх: «Таварышы аўтазаводцы! Беражліва выдаткоўвайце электраэнергію! Памятайце: аднаго працэнта сэканомленай электраэнергіі па заводу дастаткова для выпрабу 30 аўтамабіляў». «Бярыце прыклад са сталявараў стальцэха, якія кожны квартал эканомяць па 200 тысяч кілават-гадзін»...

Пра тое, што трэба эканоміць электраэнергію, мы гаварылі і раней, і не адзін раз. І не толькі гаварылі, але і сёе-тое рабілі. У першым годзе сямігодкі завод сэканоміў некалькі мільёнаў кілават-гадзін электраэнергіі.

Але па-сапраўднаму, па-баявому ўзяўся ўвесь заводскі калектыў, і ў першую чаргу камсамольцы і моладзь, за гэтую важную справу пасля пісьма Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Савецкага Саюза «Аб рацыянальным выкарыстанні электрычнай энергіі ў народнай гаспадарцы». Гэты выдатны дакумент мы чыталі і абмяркоўвалі на агульных партыйных, камсамольскіх і прафсаюзных сходах. Ён зрабіў на ўсіх нас вялікае ўражанне. Кожны з нас зразумеў, што разумнае выдаткаванне электраэнергіі ў народнай гаспадарцы і быту з'яўляецца задачай агульнадзяржаўнага значэння.

Раней асобныя рабочыя на заўвагі, што яго станок працуе ўхаластую, адказвалі:

— Падумаеш, гэта ж дробязь...

Мажліва, гэта і дробязь. Але з малога складаецца вялікае.

І вось, калі пісьмо Цэнтральнага Камітэта было дэталёва вывучана, увесь наш калектыў рушыў у паход за эканомію кожнай кілават-гадзіны.

За што ж змагаецца калектыў аўтазаводцаў у другім годзе сямігодкі?

Мы вырашылі сэканоміць у 1960 годзе 9 мільёнаў кілават-гадзін электраэнергіі. Гэта вельмі вялікая лічба. За кошт чаго яна будзе дасягнута? Перш за ўсё за кошт поўнай загрузкі і скарачэння халастых ходаў абсталявання, строгага захавання тэхналагічнай дысцыпліны, замены больш магутных электрарухавікоў меншай магутнасцю. Толькі ад сістэматычнай ачысткі шыб светлавых праёмаў, праціркі лямпачак і асвятляльнай арматуры, рацыянальнага выкарыстання электрычных асвятляльнікаў мы зберажэм 300 тысяч кілават-гадзін.

Моладзь нашага завода горача адгукнулася на заклік ЦК ВЛКСМ прыняць актыўны ўдзел у стварэнні за кошт эканоміі электраэнергіі «Усесаюзнай камсамольскай электрастанцыі сямігодкі».

Што ўжо зроблена?

На заводзе створаны агульназаводскі камсамольскі штаб, у склад якога ўваходзяць прадстаўнікі ад камсамольскіх арганізацый усіх цэхаў. Штабы і кантрольныя пасты пачалі дзейнічаць у цэхах. Так, напрыклад, у цэху дробных серый камсамольскі штаб па эканоміі электраэнергіі ўзначальвае токар І. Пасюкевіч. У склад яго ўваходзяць інжынер, эканаміст, электрыкі.



Першых поспехаў дамагліся камсамольцы сталеліцейнага цэха. Сталявары, фармоўшчыкі і рабочыя іншых прафесій сэканомілі за апошнія месяцы сотні тысяч кілават-гадзін электраэнергіі. Сталявары настойліва ўкараняюць перадавую тэхналогію. Так, напрыклад, прымяняецца папярэдні падагрэў шыхты да 200—300 градусаў. Пры гэтым выкарыстоўваецца цяпло, якое захоўваецца ў печы пасля разліўкі металу.

За апошні час значна ажывілася дзейнасць маладых рацыяналізатараў. Камсамолец электраманцёр Мікалай Кісліцын прапанаваў змяніць электрасхему кіравання механізмамі штурхальнай электрапечы. Паводле папярэдняга падліку, укараненне яе ў вытворчасць дасць магчымасць эканоміць штогод больш 66 тысяч кілават-гадзін электраэнергіі.

Вельмі многа выдаткоўваецца электраэнергіі на тэрмічную апрацоўку дэталей. Вось чаму ўвага наватараў накіравана на тое, каб не дапусціць тут непрадукцыйных страт. Комплексная брыгада рацыяналізатараў тэрмічнага цэха ўкараніла на шасці электрапечах высокатэмпературную газавую цэментацыю, што дало магчымасць сэканоміць звыш мільёна кілават-гадзін.

Раней у тэрмічным аддзяленні масла ў гартавальных бачках ахалоджвалася з дапамогай механічных мяшалак. Іх было пяць штук, і кожная прыводзілася ў дзеянне пры дапамозе электраматора магутнасцю 5 кілават. Цяпер масла ахалоджваецца сціснутым паветрам.

У цэху шасі асвятленне будзе пераведзена на арматуру глыбокага выпраменьвання. Гэта яшчэ адзін рэзерв эканоміі — штогод каля 60 тысяч кілават-гадзін.



**Канструктар аддзела галоўнага энергетыка Мінскага аўтазавода В. Жаўцянкова разам з старшым майстрам А. Пуцьковым наладжваюць новы аўтаматычны станок у цэху шасі.**

Фота С. Чырэшкіна.

Пачатак зроблены. Але наперадзе вялікая работа. Ёсць яшчэ выпадкі, калі асобныя рабочыя не разумеюць вялікага дзяржаўнага значэння эканомнага выдаткавання электрычнай энергіі. Допускаюцца яшчэ парушэнні тэхналагічнай дысцыпліны, нярэдка дарэмна трацяцца сціснутае паветра і пара. А гэта вядзе да непрадукцыйных затрат электраэнергіі.

Ва ўсесаюзную камсамольскую электрастанцыю сямігодкі мы ўнеслі першы ўзнос. Будзем змагацца за тое, каб закрыць шляхі непрадукцыйных страт электрычнай энергіі і тым самым зрабіць значны ўклад ва ўсенародную барацьбу за датэрміновае выкананне сямігодкі.

## ДРУЖНА, УСЁЙ СЯМ'ЁЙ

У калгасе імя Леніна святкавалі дажынкі. На полі, сярод залацістых коп збажыны, камбайнеры і жнеі падкідвалі на ўра старшыню, патрабавалі пачастунку.

— Чырвоненькага нам, Іван Мацвеевіч! — хрыплаватым баском крычаў пажылы калгаснік. — Па паўбутэлькі на нос!..

— Кінь ты, дзядзька Хведар, — зашчабяталі дзяўчаты. — Музыку прывязіце!

Дзяўчаты ўсё ж перакрычалі дзядзькоў. Праўленне парашыла, каб лепш адсвяткаваць «Дзень ураджаю», запрасіць у вясковы клуб духавы аркестр з Капыля.

Свята прайшло цікава, урачыста і надоўга запомнілася ўсім.

— Вось нам бы такую музыку, — уздыхалі вясковыя дзяўчаты. — Было б не горш, чым у горадзе.

—Усё гэта ў вашых руках, камсамолія! — адказаў старшыня калгаса. — Збярыцеся і абмяркуйце, як лепш адпачынак наладзіць. А праўленне і партарганізацыя вас заўсёды падтрымаюць.

Камсамольскі сход быў бурны. Выступалі многія, уносілі свае прапановы. І рашэнне прынялі яснае, канкрэтнае: набыць свой духавы аркестр, упарадкаваць клуб, ажывіць работу самадзейнага калектыву.

Пасля сходу зрабілі некалькі нядзельнікаў па вывазцы ўгнаенняў, і старшыня ў адзнаку стараннасці камсамольцаў закупіў музычныя інструменты.

У вёсцы знайшліся і свае музыкі. Кіраваць духавым аркестрам па просьбе камсамольцаў згадзіўся Антон Сяргеевіч Корбут, які ў часе службы ў Савецкай Арміі быў капельмайстрам. З ім у самадзейны калектыў прыйшлі яго дзеці: сыны Алесь і Валерык, дачка Алена.

Нядаўна ў калгасны ансамбль песні і танца прыбыло добрае падмацаванне: з войска зволіўся Іван Каляда — баяніст на ўсю ваколіцу. Хлопец працуе ў калгасе шафёрам, і ў яго заўсёды пры сабе друг-баян.

Клуб у свае рукі ўзялі камсамольцы. Самі выступаюць на сцэне, падбіраюць п'есы, песні, развучваюць інсцэніроўкі, наладжваюць канцэрты.

На сцэну выходзяць тры даяркі-спявачкі Давыдоўскія, свінарка Насця Русаковіч і Соф'я Мецяш. Усе яны—нядаўнія дзесяцікласнікі. Удзень яны добра папрацавалі, а ўвечары паказваюць сваё самадзейнае майстэрства перад сябрамі. Ім апладзіруюць за добрыя песні, за вершы.

На аганёк калгаснага клуба па вечарах спяшаецца моладзь з суседніх вёсак. Здараецца, што на вечар трапляюць і аматары грубых жартаў, хлопцы «пад мухаю». Але іх адразу заклікаюць да парадку свае дзяжурныя дружыннікі.

Яшчэ нядаўна лічылася нармальным, калі хлопец танцуе ў верхняй вопратцы, з цыгаркай, у шапцы набакір. Лічылася дробяззю таксама, калі ў клубе ўся падлога забруджана шалупіннем ад семак...

Цяпер на ўсё гэта звяртаецца сур'ёзная ўвага.

Камсамольцы сур'ёзна ўзяліся за прывіццё моладзі добрага густу, культурных паводзін.

Перад хлопцамі і дзяўчатамі з лекцыямі і дакладамі часта выступаюць мясцовыя настаўнікі, медыцынскія работнікі і іншыя спецыялісты, наладжваюцца тэматычныя вечары, вечары пытанняў і адказаў, якія шмат дапамагаюць выхаванню лепшых рыс нашага маладога сучасніка.

... Часта можна бачыць, як з вёскі Пукава надвячоркам выязджае грузавік, у кузаве якога поўна хлопцаў і дзяўчат. Гэта калгасныя артысты.

— Куды? — кіне хто-небудзь з калгаснікаў.

— На гастролі! — нясецца ў адказ.

І на самай справе, яны не жартуюць. Пукаўскіх артыстаў цёпла прымаюць у суседніх калгасах. І як бы яны далёка ні ад'ехалі ад дому, усюды ў іх добрыя знаёмыя.

— А, з Пукава? — страчаюць гасцей жыхары калгаса «Новы свет». — Калі ласка. Запрашаем!..

— Вельмі рады вашаму прыезду, таварышы, — гаворыць моладзь калгаса імя Суворава.

Пукаўцы, вядома, стараюцца не спасаваць перад суседзямі, выступіць так, каб запрасілі і другім разам. Мажліва, таму ў іх часта абнаўляецца праграма, рэпертуар папаўняецца свежымі рэчамі.

Самадзейнікі з калгаса імя Леніна трымаюць цесную сувязь з Беларускім тэатрам юнага гледача. У калгас прыязджалі артысты тэатра лялек; з канцэртамі самадзейнасці на калгаснай сцэне выступалі госці з аўтазавода, трактарнага завода.

Калгасны клуб стаў добрым, утульным месцам адпачынку вясковай моладзі. Зроблена гэта сваімі сіламі, дружнай камсамольскай сям'ёй.

**М. ЦІМОШАК.**

**Калгас імя Леніна
Капыльскага раёна.**

*Навука - праца - чалавек*

# ПРАНІКНЕННЕ Ў ТАЯМНІЦЫ

Людзі дзівяцца на велізарнейшы дуб, што стаіць стагоддзямі няздломна пад бурамі і навальніцамі, у летнюю спякоту і ў зімовую сцюжу. І рэдка хто задумаецца над іншай вялікай загадкай прыроды: вырасла дрэва з маленькага жалудочка, а той узнік толькі з адной клеткі. Адна клетачка вызначыла і якасць драўніны, і форму ліста, і магутную крону! І сакрэты яе канчаткова не разведаны і да гэтага часу. Яна і цяпер у многім незразумелая і загадкавая. Пранікненне ж у таямніцу клеткі, а гэта значыць і ў таямніцу спадчыннасці, прынесла б вялікую карысць. Чалавек здолеў бы кіраваць жыццём расліны прыкладна так, як зараз кіруе жыццём малекул і атамаў. Ён бы стварыў новыя, нябачаныя да гэтага часу расліны, пачаў бы вырошчваць казачныя ўраджаі.

Праўда, першыя крокі ў гэтым напрамку вучоныя зрабілі. Стымулятары росту — пэўныя хімічныя злучэнні — паскараюць рост і развіццё раслін. Салата, напрыклад, дасягае двухмятровай вышыні, вырастае пудовы бурак, сцябло насеннай капусты дастае аж да трэцяга паверху і г. д. Але гэта адбываецца толькі пасля апрацоўкі раслін і глебы стымулятарамі росту і не перадаецца ад бацькоў да дзяцей. Наступнае пакаленне салаты і бурака самае звычайнае. Да таго ж апрацоўка хімікатамі патрабуе шмат клопатаў. Вось, каб былі расліны, якія б давалі высокія ўраджаі штогод, без дадатковай апрацоўкі! Кінуў насенне і глядзіш — вырас трохсотпудовы ўраджай або двухмятровая салата.

Відаць, трэба змяняць спадчыннасць.

### У глыбіню нязведанага

Несвядома змяняць спадчыннасць раслін чалавек пачаў многія тысячагоддзі назад. Ён з даўніх часоў карыстаўся штучным адборам. З году ў год, са стагоддзя ў стагоддзе адбіралася насенне лепшае, буйнае. устойлівае да хвароб, спякоты і марозу, больш пладавітае, лепшае па якасці. Потым з'явілася гібрыдызацыя — скрыжаванне асобных форм раслін аднаго віду. І ўся тая вялікая разнастайнасць гатункаў культурных раслін, якую мы назіраем зараз, выведзена іменна гэтымі двума метадамі. Адбор і гібрыдызацыя і цяпер з'яўляюцца важнейшымі, але яны маюць ужо сур'ёзнага саперніка, больш магутнага, пры дапамозе якога чалавек хутчэй змяняе ў патрэбным кірунку прыроду. Гэта поліплаідыя — павелічэнне ў ядрах клетачак колькасці асобных элементаў, храмасом. У выніку гэтага расліна становіцца буйнаплоднай, павялічваецца па сваіх памерах, робіцца ўстойлівай да

розных неспрыяльных умоў. За новы метад гавораць такія лічбы. Калі чалавек штучным адборам і гібрыдызацыяй здолеў павялічыць зерне пшаніцы толькі ў два разы за 50 тысяч гадоў, то, карыстаючыся поліплаідыяй, ён зрабіў амаль тое ж за паўвека.

Механізм такой з'явы чалавек вывучыў даволі дакладна. Гэта здарылася таму, што ён здаўна цікавіўся клеткай. Кожны арганізм развіваецца з адной клеткі. І таму толькі ў ёй трэба шукаць матэрыяльную аснову ўсіх працэсаў спадчыннасці. Танчэйшыя даследаванні будовы і работы клеткі, што праводзіліся сотнямі вучоных, прывялі да значных адкрыццяў. Эксперыментатары ўстанавілі, што клетка мае абалонку, пратаплазму, ядро, якому належыць вядучая роля ў абмене рэчываў, у перадачы спадчыннасці. Моцныя мікраскопы дазволілі выявіць у ядры асобныя элементы — храмасомы. Гэтае адкрыццё было зроблена рускім батанікам І. Чысцяковым. Вучоныя ўстанавілі, што ўсе клеткі адной расліны маюць аднолькавую колькасць храмасом пэўнай формы. Яны настолькі адметныя, што толькі па іх можна вызначыць, што за расліна — накшталт таго, як па адной знойдзенай у зямлі костачцы археолагі ўзнаўляюць выгляд пачварных страшыдлаў мінулага.

Храмасом у ядры бывае ад некалькіх штук да сотняў. Пад мікраскопам яны відны, нібы маленькія тоўсценькія чарвячкі. У сваю чаргу храмасомы таксама складаюцца з асобных элементаў, якія можна заўважыць толькі пад вельмі моцным мікраскопам. Даследчыкі прасачылі і розныя стадыі дзялення клеткі. У часе дзялення спецыяльныя нітачкі пачынаюць цягнуць кожную храмасому ў процілеглыя бакі. Усе храмасомы раздвойваюцца і разыходзяцца да розных полюсаў клеткі. Утвараюцца два новыя ядры, вакол якіх збіраецца пратаплазма. Потым клетка дзеліцца канчаткова.

Так, паступова, дзень за днём, утвараюцца новыя клеткі, і, напрыклад, маленькі дубочак узды-маецца ўсё вышэй і вышэй. А праз некалькі стагоддзяў ён, назбіраўшы мільёны клетак, прымушае дзівіцца на сябе чалавека.

### Чалавек пачынае кіраваць спадчыннасцю

Але часам клетка выкідвае фокус. Храмасомы ядра дзеляцца, але не разыходзяцца да розных полюсаў, яны ўтвараюць вялікае ядро адной клеткі. З павелічэннем колькасці храмасом змяняюцца і розныя жыццёвыя працэсы ў расліне, яна павялічваецца па сваіх памерах, на ёй вырастаюць буйныя плады.

Абследаванне раслін прынесла цікавыя вынікі. Чым далей на поўнач, тым больш клетак, якія маюць у сваіх ядрах кратна павялічаную колькасць храмасом — поліплаідных раслін. У флоры Шпіцбергена, далёка ў Ледавітым акіяне, 80 працэнтаў поліплаідаў, Ісландыі — 64, а Даніі і Нарвегіі — толькі 53. Даследчыкі ўстанавілі, што гэта звязана з тым, што поліплаідныя формы больш хутка і лепш прыстасоўваюцца да суровых умоў жыцця. З поліплаіднымі раслінамі мы сустракаемся на кожным кроку. Наша звычайная бульба таксама поліплаідная. Калісьці яна трапіла ў неспрыяльныя ўмовы і паступова павялічвала лік храмасом. Потым чалавек селекцыйнай работай толькі палепшыў яе.

Чакаць, пакуль прырода падняе які-небудзь высокапрадукцыйны гатунак — гэта ўсё роўна, што прадказаць надвор'е. Яна гэта робіць выпадкова і вельмі павольна. А ці нельга павялічыць колькасць храмасом штучна? Вось чалавек і вырашыў сам «перабудоўваць» расліну. Першая спроба была зроблена рускім даследчыкам І. Герасімавым яшчэ ў канцы мінулага стагоддзя. Ён уздзейнічаў на водарасць нізкай тэмпературай і наркотыкамі, парушыўшы тым самым звычайны працэс дзялення клеткі. Ён упершыню ўскрыў важную ролю ядра, паказаў, што спадчыннасць можна змяняць штучна.

Вучоныя ўсяго свету пачалі праводзіць падобныя доследы. Але амаль за паўстагоддзя яны мала чаго дасягнулі. Доследы былі вельмі працаёмкія і часта не давалі ніякіх вынікаў. Аднак штурм клеткі працягваўся. У яго ўключаліся сотні вучоных.

У 1937 годзе вучоныя Блекслі і Айверы ўстанавілі, што пад уплывам калхіцыну расліны часта становяцца поліплаіднымі.

Калхіцын — гэта арганічнае рэчыва, якое здабываецца з цыбуліны своеасаблівай расліны зімоўніка. Ён ядавіты, але медыкі здаўна ўжываюць яго ў вельмі малых дозах для лячэння падагры. У слабай канцэнтрацыі калхіцын разбурае ніці мітатычнага верацяна, пры дапамозе якіх утвараецца ў клетцы два ядры, але ён не перашкаджае росту клеткі, не спыняе раздваення храмасом.

### Праблема пшаніцы

У 1959 годзе першыя эксперыменты з новым прэпаратам пачаў праводзіць беларускі вучоны Антон Раманавіч Жэбрак. Доследы ён рабіў з пшаніцай. Сельская гаспадарка патрабавала, каб ёй далі пшаніцу ўстойлівую да розных хвароб, асабліва да грыбковай, зімастойкую, непатрабавальную да глебы, каб зерне гэтай пшаніцы давала выдатную муку і г. д. Спалучэння гэтых якасцей няма ні ў адным з гатункаў, але кожны мае нешта сваё, выдатнае. Паўдзікая «пшаніца Цімафеева» — дробная, затое не баіцца захворванняў, добра пераносіць марозы, расце на розных глебах; цвёрдая — дае муку вышэйшага гатунку, але вельмі капрызная да глебы і клімату; мяккая — і зімастойкая, і добра ўсюды прыстасоўваецца, толькі не зусім добрай якасці з яе мука. Мяккая пшаніца з прычыны сваёй непатрабавальнасці і высокай ураджайнасці атрымала шырокае распаўсюджанне. Яна займае цяпер 90 працэнтаў усіх пасеўных плошчаў пшаніцы.

У чалавека здаўна ўзнікла думка скрыжаваць розныя віды пшаніцы, каб атрымаць у адным гатунку ўсе патрэбныя якасці. Праводзіліся сотні доследаў, але вынікі былі нярадасныя. Гібрыднае насенне давала праз некалькі год гатункі, падобныя на бацькоўскія. Да таго ж, гібрыды аддаленых відавых форм, напрыклад, паўдзікіх і культурных, наогул не завязвалі зярнят. Колас быў пусты.

Усё гэта таксама залежала ад храмасом. Імення ў іх знайшлі адгадку бунтарскім паводзінам раслін. Адбываўся складаны біялагічны працэс, у выніку чаго гібрыд не прыносіў насення. Даследчыкі спрабавалі нешта змяніць у ім, парушыць яго. Але ён быў настолькі тонкі і складаны, што ўсякае ўмяшанне выклікала гібель расліны. Дарэчы, няма ліха без дабра. Няўдалыя доследы аказаліся карыснымі для практыкі. Ужываючы «няўдалую» методыку, эксперыментатары вывелі вінаград без костачак, бананы і дыні без зярнят, буракі, якія багаты вегетацыйнай масай і не даюць насення.

### Прырода клеткі зменена!

Акадэмік Жэбрак вырашыў умяшацца ў гэты працэс калхіцынам. На працягу некалькіх даваенных год ён паставіў дзесяткі доследаў. Гібрыднае насенне пшаніцы ён вытрымліваў некаторы час у слабым растворы калхіцыну. Прэпарат парушаў звычайны ход дзялення клетак у расліне. З прычыны гэтага адны расліны гінулі, другія перамагалі дзеянне раствору і заставаліся звычайнымі, у трэціх праяўляліся новыя якасці — падвойвалася колькасць храмасом. Антон Раманавіч адбіраў зярняты з новымі ўласцівасцямі і высяваў іх, а потым з году ў год «выраўноўваў» новыя гатункі — вёў такі штучны адбор, каб скараціць вегетацыйны перыяд, каб расліны цвілі адначасова, былі аднолькавыя па розных іншых паказчыках. З'яўлялася ўсё больш і больш новых гатункаў пшаніцы. Яны не толькі спалучалі ў сабе выдатныя якасці бацькоўскіх відаў, але ў дадатак былі буйнаплоднымі, прыносілі

высокія ўраджаі, у пшаніцы стала 56—70 храмасом.

Нельга сказаць, што перамога далася лёгка: скрыжаваў расліны, вытрымаў насенне ў калхіцыне і— атрымаў новы від. У даследчыка было многа няўдач, многа перашкод і цяжкасцей. Узяць, напрыклад, такое пытанне, як дазіроўка калхіцыну. Быў жа вядомы толькі агульны прынцып дзеяння прэпарату. І трэба было прарабіць сотні доследаў толькі для таго, каб вызначыць, якой канцэнтрацыі ўжыць калхіцын, колькі часу ў ім вытрымліваць насенне, каб не ўтварылася залішне поліплаідная, практычна нежыццёвая форма, у якой стадыі развіцця зерне апрацоўваць прэпаратам. Праблем і пытанняў—сотні, і ад кожнай звычайнай недакладнасці дослед чакае няўдача. Эксперыментатар не спыняўся ні перад якімі цяжкасцямі, ён верыў у сваю перамогу. І вось насенне перададзена на гатункававыпрабавальныя ўчасткі — Дзімітраўскі пад Масквой і «Усце»— доследную станцыю Акадэміі сельскагаспадарчых навук БССР.

Вынікі былі радасныя. На працягу некалькіх год новыя гатункі давалі высокія ўраджаі — да 30 цэнтнераў з гектара, былі ўстойлівыя да розных захворванняў. Новая пшаніца ў сваім спаборніцтве перамагла старыя, вядомыя, выпрабаваныя гатункі, выведзеныя метадамі штучнага адбору і гібрыдызацыі.

### Буйнаплодная грэчка

У калгасе «Радзіма» на Маладзечаншчыне расце незвычайная грэчка. Яе ўрадлівасць у двары разы вышэй за звычайную. Летась усе палі засеялі гэтым незвычайным збожжам. У гэты калгас прыязджаюць пасланцы з іншых сельгасарцелей: просяць насенне грэчкі. І грэчка паяўляецца ўсё ў новых і новых мясцінах.

Незвычайная грэчка выведзена лабараторыяй поліплаідыі Інстытута біялогіі Акадэміі навук БССР. Кіраваў гэтай работай акадэмік А. Р. Жэбрак. Тут таксама ўжывалі калхіцын, тут таксама змянялі структуру клетак. Зрабілі так: апрацавалі растворам калхіцыну два гатункі грэчкі: «Церахоўскую» і «Бальшавік», а потым скрыжавалі іх. Сярод звычайнай з'явілася поліплаідная грэчка. Даследчыкі адабралі яе і высеялі. Грэчка проста забушавала. У яе былі тоўстае сцябло, шырокае лісце, белая кіпень буйных кветак.

Работа па ўдасканаленню новага гатунку грэчкі не закончана, А. Р. Жэбрак думае над тым, як зрабіць грэчку самаапыляльнай. Зараз, як вядома, ураджай грэчкі залежыць ад часу цвіцення: у добрае надвор'е пчолы і іншыя насякомыя дружна апыляюць яе, у дождж і холад яны не вылятаюць і многія зярняты не завязваюцца. Антон Раманавіч лічыць, што можна вывесці такія гатункі грэчкі, якія апыляліся б без дапамогі насякомых. У некаторых раслінах знойдзены кветкі, якія могуць апыляцца самі. Пры дапамозе штучнага адбору можна вывесці новы гатунак. Такая работа ўжо распачата, і трэба чакаць, што неўзабаве наша сельская гаспадарка атрымае новы высокаўраджайны гатунак самаапыляльнай грэчкі.

* * *

З кожным годам вучоныя ўсё глыбей і глыбей пранікаюць у нязведанае, пазнаюць адну з самых цікавейшых і загадкавых таямніц — спадчыннасць. Доследы становяцца ўсё больш і больш складаныя. Дастаткова сказаць, што па гэтай праблеме будуць даследавацца найдрабнейшыя часцінкі ўзбуджальніка розных хвароб — віруса, якія ўтвараюцца ў час яго размнажэння. А сам жа вірус можна назіраць толькі ў моцным электронным мікраскопе, які павялічвае ў дзесяткі тысяч разоў.

Няцяжка ўявіць, якія танчэйшыя доследы трэба ставіць, каб пранікнуць у таямніцы прыроды.

**В. ГОВАР.**



# ТАК СТВАРАЕЦЦА НОВАЕ

У дзверы пастукалі. Аляксей не паспеў адказаць, як у пакой зайшла суседка па кватэры цётка Паліна з талеркай гарачай бульбы.

— Зноў зацемна працуеце? — дакорліва сказала яна. — Хіба вам дня мала?

— Хапае і днём, — Аляксей паспешліва пачаў збіраць раскіданыя па стале чарцяжы і кнігі. — А вось для гэтай работы днём так і не выкраіў ніводнай гадзіны.

Учора старшы інжынер-канструктар аддзела механізацыі жывёлагадоўчых ферм сабраўся сесці за чарцяжы з самай раніцы. Не выйшла. Раніцай у Акадэмію сельскагаспадарчых навук БССР заявіўся пасланец з калгаса «Перамога». У іх на свінаферме сапсаваўся агрэгат-кухня. Загадчык аддзела Васіль Навумавіч Мазурка прапанаваў паехаць Аляксею:

— З'ездзіш, Мацукевіч, паглядзіш, што там такое. Тым больш, што ты і сааўтар гэтага агрэгата.

Па дарозе пасланец з калгаса асцярожна сказаў інжынеру:

— Вы, таварыш вучоны, не вельмі накідвайцеся на нашых свінарак. Яны, вядома, любяць тэхніку. Яны вашай Ніне Аляксандраўне Ямец вунь як дзякуюць за цялежкі. Але ж то цялежка, рэч няхітрая: упёрся і пхні, яна сама коціцца. А тут вашы таварышы такую штуку змайстравалі — не кожны і мужчына падступіцца да яе.

«Што такое там?.. — спрабаваў здагадацца Аляксей. — Паламалі ці дэфект які?»

А стары тым часам не змаўкаў:

— Я і кажу, машына дужа спраўная. Як тая жывёліна — сама ежу падхоплівае, сама жуе, сама і пераварвае яе. Ды, мусіць, падавілася, няўрокам кажучы.

У апошніх словах Аляксей улавіў здзеклівую нотку. Не інакш— з дэфектам устаноўка. Няўжо складаны агрэгат «ПКА-5,0», над якім працаваў цэлы калектыў навукова-даследчага інстытута, не апраўдаў сябе? Але ж такія агрэгаты ўстаноўлены ў калгасе «17 верасня» на Нясвіжчыне, працуюць яны ў доследных гаспадарках акадэміі. І, здаецца, нядрэнна працуюць.

Аляксей яшчэ і яшчэ раз перабіраў у памяці ўсе секцыі і вузлы агрэгата. Марка «ПКА-5,0» сведчыць, што гэты перасоўны кормапрыгатавальны агрэгат за гадзіну можа нарыхтаваць да пяці тон кармавой сумесі. І абслугоўвае яго ўсяго адзін чалавек. Па транспарцёру бульба паступае ў спецыяльнае прыстасаванне, якое старанна вылоўлівае і аддзяляе камені, а адтуль — у чан, дзе яна адначасова мыецца і запарваецца. Для гэтага сюды падведзены трубы з халоднай і гарачай вадой. Запараная бульба апускаецца ў так званую бульбамялку. Сюды ж пры неабходнасці падаюцца іншыя прадукты, якія змешваюцца з бульбай.

Выскачыўшы на хаду з машыны, Аляксей спытаў у свінаркі, якая несла на каромысле вёдры:

— Стаіцё?

— Няма калі стаяць. Нацешыліся вашай машынай. Зноў старым спосабам бульбачку варым.

Непаладка аказалася зусім дробязнай: атрымаўся перакос аднаго звяна ў транспарцёры. Але інжынер задумаўся над другім. Вынайшлі яны добрую, разумную машыну. Яна замяняе цяжкую ручную працу людзей. А вось нязначную дробязь самі калгаснікі

не заўсёды выправяць. А хутка ж агрэгаты будуць шырока ўкараняцца на калгасных фермах. Трэба будзе абавязкова выдаць звычайны папулярны дапаможнік са схемамі, — і тады кожная свінарка сама здолее разабрацца ў непаладках.

Аляксей вырашыў заглянуць у кароўнік. Тут таксама ўстаноўлены механізмы, распрацаваныя нядаўна іх аддзелам. Вось, напрыклад, агрэгат па апрацоўцы бульбы скарачае затраты працы ў пяцьсем разоў, а нарыхтаваныя ім кармы лепш падабаюцца жывёле, чым прыгатаваныя ўручную.

Праходзячы ўздоўж станкоў, Аляксей любаваўся новымі кармушкамі-паілкамі. Яшчэ зусім нядаўна на вучоным савеце інстытута ішла размова аб пошуках найлепшай будовы паілак. Справа ў тым, што ўкараненне клапанных аўтапаілак ішло вельмі марудна, бо на іх абсталяванне патрабавалася вялікая колькасць дарагіх металічных труб, ды і клапанныя механізмы часта псаваліся. Акрамя таго, шмат працы затрачвалася на ацяпленне труб у зімовы час.

Аляксей прыпамінае, як на працягу некалькіх месяцаў «варажылі» над чарцяжамі «вадавозы». Так у аддзеле называюць групу супрацоўнікаў на чале з Сяргеем Анісімавічам Кадоўскім, якая працуе над праблемай водазабеспячэння жывёлагадоўчых ферм.

Калі праект новых паілак быў гатовы, помніцца, многія старшыні калгасаў пачалі ўпірацца: усё баяліся, што дорага абыйдзецца іх абсталяванне. Пераконвалі, даказвалі. Спасылаліся на прыклад калгаса «Перамога» Лагойскага раёна. Там невялікія затраты на аўтапаенне акупіліся вельмі хутка. Толькі за паўтара года карыстанне новымі паілкамі дало эканомію ледзь не ў дзве тысячы працадзён.

І вось новы тып самацечных паілак-кармушак устаноўлены ў кароўніку. Уздоўж стаяць цагляныя ражкі, злучаныя паміж сабою ганчарнымі трубамі. У ражках з дапамогай размеркавальнага абсталявання заўсёды падтрымліваецца аднолькавы ўзровень вады. Для такіх паілак не трэба дарагіх металічных труб, амаль усё зроблена тут з мясцовых матэрыялаў.

На момант малады інжынер спыніўся ў канцы кароўніка, дзе працаваў транспарцёр па ўборцы гною. Гэтая тэхнічная навінка таксама распрацавана ў іх аддзеле маладым інжынерам-канструктарам Яўгенам Барысёнкам.

— Прывітанне навуцы, — пачуў Аляксей басавіты вокліч старшыні арцелі Пятра Сцяпанавіча Уса. — Транспарцёр, значыць, запрацаваў?

— Працуе, як бачыце. Невялікі перакос быў.

— Нічога не скажаш, добрая машына, — старшыня працягнуў інжынеру пачак папярос. — Хоць і памуштравалі нас вашы хлопцы, пакуль усталявалі яе. Можна сказаць, увесь свінарнік на дыбкі паставілі.

— Можа яшчэ не раз прыдзецца памуштраваць, — усміхнуўся Аляксей.

Старшыня насцярожыўся.

— А што, прыдумалі што-небудзь новенькае?

— Пакуль не прыдумалі, але прыдумваем. Перасоўную даільную ўстаноўку.

— Хутка? — коратка кінуў старшыня.

— Ды месяцы два яшчэ прыйдзецца папрацаваць...

— А колькі каштаваць будзе?

— Тысяч дзесяць-пятнаццаць.

— Не пойдзе.

— Чаму?

— Дорага. За стацыянарную ўстаноўку ўбухалі каля сямі тысяч, а тут — удвая даражэй. Не, не пойдзе. Ды і нашто перасоўная?

Аляксей тут жа, на пяску, пачаў крэмзаць нейкія лічбы і схемы, каб пераканаць старшыню ў перавагах новай устаноўкі.

Тыя даільныя ўстаноўкі, што



працуюць зараз на фермах, зручныя толькі зімою. А вось як летам? Ды яшчэ ў тых калгасах, дзе далёкія пашы? Даенне праводзіцца там толькі ўручную. Не ганяць жа жывёлу гарачынёй у кароўнік... Вось Аляксей Мацукевіч і задумаў сканструяваць перасоўную даільную ўстаноўку. Вядома, яна не з'яўляецца адкрыццём. Такія ўстаноўкі выпускае наша прамысловасць. Але яны вельмі грувасткія, непрактычныя. Да таго ж і дарагія.

— Так што, у параўнанні з фабрычнай, наша ўстаноўка ў тры разы дзешавейшая, — растлумачыў Аляксей. — І лягчэйшая. Перамяшчаць яе здолее адзін чалавек.

— Чакай, чакай, — відаць, што старшыня ўсё ж зацікавіўся думкай маладога чалавека. — А як яна будзе выглядаць?

Новая даільная ўстаноўка не вельмі складаная. На цялежцы — шэсць бітонаў. Над кожным з іх устаноўлены малакамер. Зверху — бак з цёплай вадой. Ад яго адыходзяць шлангі-распыляльнікі. Падкаціла даярка цялежку, навяла шланг і абмывае вымя ў кароў. Потым прымацоўвае даільныя апараты ўсім шасці каровам адначасова. Праз пяць-шэсць хвілін даенне заканчваецца і цялежка можа ехаць да наступнай групы кароў. І не трэба пераносіць малако з аднаго канца кароўніка ў другі, не трэба яго мераць. Усё гэта робіцца аўтаматычна. Калі ў кароўніку ёсць падвесная дарога, — устаноўка з дапамогай ролікаў прымацоўваецца да каната, і перамяшчаць яе яшчэ лягчэй. Улетку на цялежку можна паставіць рухавік, і агрэгат самаходам можа вандраваць па выпасах.

Вярнуўся Аляксей у інстытут у другой палавіне дня. Думаў засесці за праекты, але зноў падаспела паездка. На гэты раз — у саўгас «Вішнёўка», дзе інстытут манціруе механізаваны цэх па нарыхтоўцы кармоў для птушкі.

Толькі позна ноччу Аляксей асцярожна, каб не разбудзіць суседзяў, адамкнуў дзверы свайго пакоя. Некалькі гадзін паспаў — і знарок прачнуўся раней, каб папрацаваць над новым агрэгатам. Пасля размовы ў калгасе захацелася хутчэй убачыць сваё вынаходніцтва ў дзеянні. Шкада вось, што многа даводзіцца ездзіць у калгасы па зусім нязначных рамонтных справах. Правільна ўзнімаюць у друку пытанне — час мець калгасу свайго інжынера. У вёсцы ўкараняецца ўсё новая і новая тэхніка, а знаўцаў яе не хапае. Адзін толькі іх аддзел за апошні час распрацаваў для жывёлагадоўчых ферм гэтулькі разумных агрэгатаў і прыстасаванняў! У бліжэйшыя два-тры гады на фермах беларускіх калгасаў тэхніка павінна поўнасцю замяніць ручную працу жывёлаводаў. Над здзяйсненнем гэтай задачы і працуюць маладыя вучоныя Інстытута механізацыі і электрыфікацыі Акадэміі сельскагаспадарчых навук БССР. І сярод іх — малады інжынер-канструктар Аляксей Мацукевіч.

**П. БЕРАЗНЯК.**

„Маладосць" вядзе рэпартаж...

# ...З ГОМЕЛЯ СТУДЭНЦКАГА



Тэкст і фота **А. Дзітлава**

## ЯНЫ БУДУЦЬ ВУЧЫЦЬ ПРАЦАВАЦЬ

Студэнт на занятках... Як гэта можа выглядаць?.. Мы прывыклі бачыць яго ў аўдыторыі—слухае лекцыю, канспектуе неабвержныя ісціны, якія выкладае прафесар. Прызвычаіліся мы і да вобраза маладога чалавека—юнака або дзяўчыны—ля высокага лабараторнага стала, ля выцяжной шафы, сярод штатываў з рэтортамі і прабіркамі. Нарэшце, усе мы ведаем, як выглядае студэнт, штудзіруючы кнігу ў чытальнай зале бібліятэкі. Але студэнт ля слясарных ціскоў, студэнт, які пад прыдзірлівым вокам выкладчыка пацее над пакоўкай будучага малатка,—гэта крыху незвычайная карціна. А іменна гэта мы і ўбачылі, увайшоўшы ў адно з вучэбных памяшканняў Гомельскага педагагічнага інстытута.

У сёлетнім навучальным годзе тут пачалася падрыхтоўка спецыялістаў зусім новага профілю. Улічваючы патрабаванні сярэдняй школы на новым этапе яе жыцця, у інстытуце адкрыўся індустрыяльна - педагагічны факультэт. Тыя, хто скончыць яго, прыдуць у школу выкладчыкамі асноў вытворчасці, настаўнікамі працоўнага выхавання. А для гэтага яны перш за ўсё і самі павінны быць добрымі ўмельцамі. Яны павінны не толькі мець выразнае ўяўленне аб прафесіях, скажам, токара, электраманцёра, трактарыста або чырвонадрэўшчыка. Яны і самі павінны ўмець многае рабіць, мець вытворчы разрад.

Вось перад намі студэнтка першага курса новага факультэта Святлана Баерка. У свой час яна, скончыўшы сярэднюю школу і, не атрымаўшы пры гэтым ніякай спецыяльнасці, сутыкнулася з пытаннем жыцця: а што ж далей? Яна, пісьменная дзяўчына, не магла ўзяцца за работу нават звычайнай сакратаркі ў канцылярыі. Яна не магла падступіцца ні да пішучай машынкі, ні да арыфмометра, ні нават да лічыльнікаў. Не магло быць гаворкі і аб рабоце на заводзе: Святлана не магла адрозніць такарнага станка ад піларамы, не ведала, як узяць у рукі рубанак ці пласкагубцы..

*Вось яна і вырашыла па*высіць сваю сярэднюю адукацыю—*паступіла ў тэхнічнае* вучылішча. Закончыла яго токарам пятага разраду. Неўзабаве яна была ўжо ў *рабочым калектыве аднаго* з буйнейшых прадпрыемстваў рэспублікі — «Гомсельмаша».

У цэху *побач з ёю пра*цавалі сяброўкі Тамара Карчэўская, Люба Капылова. З заводскім абсталяваннем яны *асвоіліся лёгка*, хутка заваяваўшы рэпутацыю здольных перадавых работніц.

*Даведаўшыся пра новы*





факультэт, токар Святлана Баерка і абедзве яе сяброўкі вырашылі стаць педагогамі. Яны добра падрыхтаваліся да ўступных экзаменаў, паспяхова вытрымалі іх і цяпер вучацца ў інстытуце.

На першым фотаздымку—дзяўчына ў халаце і касынцы, якая ўстанаўлівае свердзел, і ёсць Святлана Баерка.

Тут жа, у слясарнай майстэрні, быў зроблен і другі здымак. Заціснуўшы ў ціснах пакоўку малатка, працуе напільнікам былы матрос-электрык Васіль Глушак. Ён не толькі адзін з лепшых студэнтаў індустрыяльна-педагагічнага факультэта, але і добры актывіст.

Па суседству з Глушаковым, за тым жа варштатам, займаецца Пётр Трусаў (на здымку ў цэнтры). Да яго падышоў выкладчык слясарнай справы Мікалай Уладзіміравіч Парух.

— Ну, а як у вас?—звярнуўся ён да студэнта.

— Вось глядзіце, здаецца, усё ў парадку.

— Выдатна, — ацаніў выкладчык работу Трусава.

А інакш яно і не магло быць. Пётр Трусаў да паступлення ў інстытут паспеў ужо стаць тэхнікам па аўтамабілях, паспеў папрацаваць. І ён, і яго настаўнікі бачаць, што курс у жыцці ўзяты ім правільны. Трусаў, як і яго таварышы-аднакурснікі, сапраўды стане добрым педагогам. Прабягуць гады, і ў настаўніцкія калектывы школ прыбудзе цудоўнае папаўненне,—прыдуць людзі, якія здолеюць не размовамі, а практычнымі справамі спалучаць навучанне з працай.

## І ХАРАКТАР МОЖА БЫЦЬ МАЦНЕЙ ЗА СТАЛЬ

Летась група маладых гамяльчан, якая рабіла турысцкі паход па Закарпаццю, на адной з горных вяршынь каменнямі выклажыла надпіс «БІІЖТ». Гэта былі студэнты. У завоблачнай вышыні яны пакінулі візітную картку свайго інстытута — Беларускага інстытута інжынераў чыгуначнага транспарту.

Спецыялістаў-транспартнікаў, якія атрымалі падрыхтоўку ў Гомелі, можна сустрэць амаль на ўсіх сталёвых магістралях Саюза. Цікава жывуць студэнты гэтага інстытута. У інстытуце іх вучаць не толькі спецыяльным дысцыплінам, але даюць рознабаковае выхаванне. Напрыклад, спартыўную кафедру не без падставы называюць малым інстытутам фізкультуры. Многія маладыя інжынеры, ад'язджаючы з Гомеля да месца сваёй работы, вязуць разам з дыпломам і спартыўныя разрады.

Многім, вельмі многім з першых студэнцкіх год прывіваюць тут любоў да даследаванняў, да ўдасканалення тэхнікі. Шматлікія самадзейныя творчыя калектывы ўзмацняюць у будучых інжынераў цягу да літаратурнай творчасці, музыкі, жывапісу, тэатра.

Зойдзем у БІІЖТ, як тут называюць скарочана інстытут. Калідор першага паверху. Направа на адных з дзвярэй таблічка: «Камітэт камсамола». У невялікім вузкім пакоі цесна ад людзей і вельмі шумна ад іх не зусім арганізаванай дыскусіі. Удалося зразумець, што ідзе абмеркаванне песень, якія павінны быць уключаны ў зборнік для масавага выканання на маладзёжным свяце.

— Гэту песню і так кожны ведае. Яе будуць спяваць і без зборніка!

— Правільна! Трэба больш новых!

— А дзе іх узяць?

— Правільна! Дзе?

— Даручым Францу! Ён хутчэй за ўсіх знойдзе ўсё, што трэба.

— Францу, дык Францу.

Член камітэта, студэнт IV курса Франц Дабрынеўскі прысутнічае тут жа. Ён не адмаўляецца ад даручэння, бярэцца прадставіць тэксты трох новых песень заўтра, толькі просіць вызваліць яго ад далейшай размовы, бо праз некалькі хвілін у суседнюю аўдыторыю павінен прыйсці выкладчык, пад кіраўніцтвам якога Франц вядзе навуковую работу. Трэба праканcультавацца. Тэма вельмі важная—«Прымяненне дрэвапластыкаў у машынах на чыгуначным транспарце».

Мы выходзім у калідор следам за Дабрынеўскім. Ён не вельмі гаваркі, але ўсё ж да прыходу выкладчыка-кансультанта мы паспелі даведацца, што вучыцца ён на пяцёркі і атрымоўвае таму павышаную стыпендыю. Мы даведаліся, што, займаючыся ў навуковым гуртку пры кафедры асноў марксізма-ленінізма, ён цікава распрацаваў тэму «Камсамол Гомельшчыны ў грамадзянскую вайну». Як няштатны лектар абкома камсамола, ён выступае цяпер, напярэдадні 40-годдзя ЛКСМ Беларусі, з лекцыямі на гэтую тэму.

Франц удзельнік танцавальнага і драматычнага калектываў. Па нядзелях ён



наведвае універсітэт мастацкага выхавання ў Палацы культуры чыгуначнікаў.

— Ці лёгка даецца вам навука?

— Я шмат займаюся. Прывык да гэтага яшчэ ў школе, а затым у тэхнікуме. Тэхнікум я закончыў з адзнакай і ў інстытут быў прыняты па-за конкурсам. Таму я, уласна кажучы, і не маю права дрэнна вучыцца...

Размова абарвалася — у канцы калідора паявіўся выкладчык, якога чакаў наш субяседнік. Праз чвэрць гадзіны Франц Дабрынеўскі (здымак на папярэдняй старонцы) быў ужо цалкам захоплены ходам даследаванняў новага матэрыялу, што складаецца з драўнінага пілавіння і сінтэтычных смол, якім ён збіраецца выцесніць сталь. З яго характарам ён гэтага, безумоўна, даб'ецца.

## ПРЫЕМНАЕ ЗНАЁМСТВА

Яшчэ вітаючыся, мы былі ўражаны бляскам яго вачэй.

— На якім вы курсе?

— На чацвёртым.

— Кім вы будзеце пасля заканчэння тэхнікума?

— Тэхнікам-механікам па рамонту дарожна-будаўнічых машын.

— А што вы рабілі да тэхнікума? Вучыліся ў школе?

— Вучыўся, вядома. Але гэта было даўно. А непасрэдна перад тым, як паступіць у тэхнікум, я пяць гадоў працаваў.

— Пяць гадоў?

— Так. Шафёрам. У Магілёве на заводзе пад'ёмна-транспартнага абсталявання. У мяне другі клас.

Так пачалася размова са студэнтам аўтадарожнага тэхнікума, намеснікам сакратара камітэта камсамола Аляксандрам Гузавым.



Потым ён, рослы, кучаравы хлопец, з чорнымі, вельмі бліскучымі вачыма, падобнымі на два кавалачкі антрацыту, расказаў пра грамадскае жыццё калектыву. Перш за ўсё загаварыў аб водным спорце, па чкім каманда тэхнікума займае ў вобласці другое месца. Потым ён расказаў аб паездках студэнцкай агітбрыгады ў калгасы. Хор студэнтаў, гурток мастацкага чытання, танцавальная група, драматычны калектыў — усе яны вельмі старанна змагаюцца за права на выезд у вобласць.

— Вось да вясны мы рыхтуем новую праграму. У ёй удзельнічаюць і выкладчыкі. Да паездкі яшчэ прыкладна месяц, а ўжо цяпер пачынаюцца ўзаемныя падазрэнні — каго возьмуць, а каго не. У баку ж заставацца нікому не хочацца, — расказвае Гузаў.

— Ну, і як жа будзе?

— Зробім так, што ўсе паедуць. Некалькі вучэбных аўтамабіляў самі пераробім у агітмашыны. Шафёраў і механікаў нам не трэба, свае ёсць. Слесараў таксама хапае. Зробім такі агітпоезд, толькі трымайся!

І пра ўсё гэта Алесь расказвае з такім захапленнем, а ў вачах яго бляск набывае такую сілу, што мы міжволі прыплюшчваем вочы.

## ДНЁМ І ВЕЧАРАМ

Адзін з пакояў ніжняга паверху тэхнікума механічнай апрацоўкі драўніны выглядае пакуль што даволі несамавіта. Беспарадкава стаяць адзін каля другога станкі, на падлозе раскіданы камякі тынкоўкі, відны прабітыя ў бетоннай падлозе барозны, са столі і сцен звісаюць канцы правадоў... Што гэта?

Тут будзе сталярна-мэблевая майстэрня.

Будзе?..

Так. Будзе. Майстэрню гэтую робяць самі студэнты. У тэхнікуме стала правілам мантаж і ўстаноўку машын, на якіх прыдзецца вучыцца, рабіць самім. У вучэбнай частцы тэхнікума гэта лічаць адной з характэрных новых рысаў у жыцці студэнцкага калектыву.

А самі студэнты сцвярджаюць, што на сабраных сваімі рукамі станках лягчэй вучыцца. Вось (здымак справа ўверсе) трое з іх — Валянціна Кулаковіч (злева), Давід Ліўшыц і Святлана Трафімава перабралі рукамі кожную дэталь гэтага шыпарэзнага станка, падганялі адну да другой, удзельнічалі ў наладцы складанай машыны. Не дзіва, што цяпер станок не з'яўляецца для іх загадкай.

Валя Кулаковіч расказвае:

— З асаблівым захапленнем працуюць на станках тыя студэнты, якім не давялося да тэхнікума самастойна папрацаваць. Цяпер, вучачыся разам з людзьмі бывалымі, якія прайшлі не толькі адукацыйную школу, але і працоўную, яны адчуваюць сябе адсталымі і стараюцца нагнаць упушчанае. А ў студэнтаў-вячэрнікаў — наадварот.

— Што наадварот?

— А вось схадзіце да іх на заняткі — убачыце.

Студэнткі вячэрняга аддзялення Ніна Анікеенка





(справа) і Ліля Гершгорына вучацца лічыць на лагарыфмічнай лінейцы (здымак унізе). Выкладчыца матэматыкі Валянціна Платонаўна Радыёнава (злева), гаворыць не без гонару:

— Удзень яны працуюць. Ліля — работніца завода электраапаратуры, Ніна — дрэваапрацоўчага камбіната. Вечарамі ж абедзве са здзіўляючай упартасцю вывучаюць тэорыю.

— У нашай брыгадзе пятнаццаць чалавек, — дадае Анікеенка. — Кожны з нас можа працаваць на дзевяці розных станках... А вось навукам падвучыцца трэба. І не як-небудзь, а добра...

У той жа вечар мы сустрэліся яшчэ з адным студэнтам-вячэрнікам — Анатолем Круглікам. Калі гутарка зайшла аб тым, што больш за ўсё яго хвалюе сёння, ён сказаў:

— Справы ў цэху. Дакладней, пытанні энергетыкі. Не хочацца адставаць ад іншых. Мы ўзяліся сэканоміць за год 50 тысяч кілават-гадзін. Наш план канкрэтны. У адной з асноўных машын няспынны ход ленты ў адпаведнасці з тэхналогіяй мяняем на цыклічны. Так ліквідуецца работа электраматораў ухаластую. Для ўсіх станкоў дакладна вызначаем неабходную магутнасць, і маторы ўстанаўліваем у строгай адпаведнасці з патрэбамі. На асвятленні будзем эканоміць так: устанаўліваем толькі люмінісцэнтныя лямпы, а ўсё абсталяванне, падаконнікі і сцены афарбоўваем у белы колер.

— Скажыце, кім вы працуеце ў гэтым цэху?

— Я яго начальнік.

Студэнт — начальнік цэха. Прыемнае знаёмства!

Веды, атрыманыя ў тэхнікуме, дапамаглі Анатолю Кругліку стварыць новы унікальны станок для нанясення клею на сталярныя вырабы. Гэта значна павялічыла прадукцыйнасць працы ў цэху і зрабіла яе зусім бяспечнай.



Закончыўшы гутарку, Анатоль Круглік накіраваўся ў чытальную залу, каб выбраць патрэбную кнігу для выканання чарговага дамашняга задання.



## ПА СУБОТАХ

Кожную суботу, не зважаючы на тое, ці то стаіць непагодны дзень, ці выдалася яснае надвор'е, студэнты сельскагаспадарчага тэхнікума наладжваюць урачыстыя вечары. Два разы ў месяц гэтыя вечары прысвячаюцца літаратуры; другія дзве суботы тут прысвячаюць падзеям міжнароднага жыцця, пытанням

маралі, культуры мовы і іншым. Да студэнтаў далучаюцца і выкладчыкі.

Ці то зайшла гаворка аб паездцы М. С. Хрушчова ў Амерыку або адзначаецца юбілей А. П. Чэхава, ці прыехаў на вечар нехта з беларускіх пісьменнікаў або заняў месца дакладчык, — у зале наступае цішыня. Увага, з якой будучыя паляводы і жывёлаводы слухаюць даклады на сваіх суботніх вечарах, адзінадушна лічыцца ўзорнай. Затое які шум узнімаецца ў зале пасля заканчэння даклада або лекцыі! Гукі адабрэння, воплескі, пытанні ляцяць з усіх бакоў, у тым ліку і з-за спіны дакладчыка, з боку арганізатараў вечара, якія размяшчаюцца за сталом прэзідыума. І гэтая рэакцыя слухачоў таксама прызнана ў Гомелі ўзорнай. Ці трэба гаварыць пра тое, што далейшыя паводзіны тых, што сабраліся на вечар, атрымліваюць ужо атэстацыю паказальных: выступленні самадзейных артыстаў, агульныя танцы, уся атмасфера весялосці і дружбы.



На нашым фотаздымку (унізе) група ўдзельнікаў суботняга вечара, прысвечанага 100-годдзю з дня нараджэння А. П. Чэхава. Называем па парадку злева направа гэтых вясёлых сяброў: Марыя Шаўчэнка, выкладчык Фёдар Георгіевіч Колчын, аўтар даклада аб жыцці Чэхава Тацяна Бондарава, Мальвіна Муха, аўтар даклада «Пісьмы Чэхава» Фёдар Церахаў, Галіна Сталярова.



## ІНТЭРНАЦЫЯНАЛЬНАЯ, 16

Пазнаёміўшыся з тым, як вучацца гомельскія студэнты, нам захацелася даведацца і як яны жывуць. Кароткі адрас: Інтэрнацыянальная, 16 прывёў нас у інтэрнат будаўнічага тэхнікума.

Зграбны двухпавярховы будынак. Чыста на лесвіцы, чыста ў калідорах. Камендант інтэрната, прыветная, гасцінная жанчына Юлія Іванаўна Губкіна, вядзе нас у пакой, дзе жыве старшыня бытавога савета Дзмітры Пірагоў.

— Пайшоў, — гаворыць адзін са студэнтаў, адараваўшыся ад чарцёжнай дошкі. — Пайшоў у чырвоны куток падводзіць вынікі.

Пасняваем бегла агледзець пакой: вельмі чыста. На сценах — каляровыя рэпрадукцыі з карцін. Яшчэ б, тут жа жыве сам старшыня!.. Аднак пра якія вынікі ідзе гутарка?

Юлія Іванаўна тлумачыць:

— Спаборніцтва на лепшае ўтрыманне пакоя. У нас жа, як і ўсюды, самаабслугоўванне.

У цэнтральным пакоі другога паверху, адведзеным пад чырвоны куток, сабралася чалавек пятнаццаць (здымак уверсе). У многіх у руках сшыткі. Гэта — старасты пакояў са сваімі дзённікамі. Дзяжурныя па інтэрнату і спецыяльныя правяральнікі штодзень заносяць у гэтыя дзённікі ацэнку санітарнага стану:

«У пакоі чыста»;

«У пакоі вельмі чыста. Толькі ў попельніцы недакуркі»;

«У пакоі ўзорны парадак. Жыхары пакоя не пазбаўлены эстэтычнага густу».

І так далей. Абсалютная большасць запісаў станоўчая.



— Які ж трэба набраць бал, каб заняць прызавое месца?

— Мінулы раз ніжэйшы з прызавых балаў быў чатыры і чатыры дзесятых.

— А цяпер у нашага пакоя ўжо чатыры і восемдзесят сем сотых, — гучна паведамляе чарнавалосы юнак.

Ого! Вылічэнне ідзе з дакладнасцю да адной сотай. Спаборніцтва сур'ёзнае!...

— Якія ж бываюць прызы?

— Мінулы раз тры лепшыя пакоі ўзнагароджваліся вялікімі люстэркамі. Сёння будуць прысуджацца насценныя гадзіннікі... Усе сабраліся? — старшыня савета абводзіць вачыма прысутных. — Тады можна пачынаць.

Члены савета ўсаджваюцца за доўгі стол. За спіной у кожнага па два-тры «асістэнты» — для дапамогі ў падліку балаў і для таварыскага кантролю. Разгортваюцца дзённікі. З кішэняў дастаюцца алоўкі, аўтаручкі. Савет паглыбляецца ў работу.

А мы, зрабіўшы гістарычны здымак «Пасяджэнне бытавога савета», у чаканні вынікаў адправіліся па пакоях. Сапраўды, усюды парадак, усюды адчуваецца, што «жыхары не пазбаўлены эстэтычнага густу». Паветра ўсюды свежае. Мы без цяжкасці пераканаліся, што пакой, дзе жыве старшыня савета, не з'яўляецца выключэннем. Цяжкавата прыйдзецца савету, выбіраючы лепшых сярод выдатных!



У пакоі нумар дваццаць два перад вялікім люстэркам бачым старасту Станіслава Бабенку, які намыльвае падбародак. Па выразу яго твару няцяжка здагадацца аб двайным задавальненні: прыемна галіцца перад вялікім люстэркам і адчуваць, што гэтае люстэрка — ганаровая ўзнагарода...

Прыкладна праз гадзіну ў чырвоным кутку пачуўся выбух... усхваляваных галасоў. Вынікі спаборніцтва былі падведзены. Вялікі насценны гадзіннік прысуджаны пакою нумар дваццаць сем. Жывуць у ім гідратэхнікі; староста — Дзмітры Сіліцкі. Яны набралі вышэйшы бал — чатыры і дзевяноста дзве сотых.

Другое месца з такім жа прызам заняў пакой дваццаць адзін, які адстаў на тры сотых бала. Электрамеханікі, што жывуць у ім, на чале са старастам Анатолем Северынцам, відаць, у які-небудзь непагодны вечар недастаткова старанна выцерлі ногі або, засцілаючы раніцай ложкі, не ўзбілі як след свае падушкі. Вось і страта трох сотых! Тым не менш, іх таксама горача віншавалі з поспехам.

*Давайце пагаворым...*

# ЯК ВЫ АДПАЧЫВАЕЦЕ?

Сярод мноства пытанняў, якія хвалююць моладзь, не апошняе месца займае і пытанне аб уменні цікава, змястоўна, культурна адпачываць.

Вядома, што адпачываюць людзі па-рознаму. Адны, прыйшоўшы пасля работы дамоў, уключаюць радыё, тэлевізар, другія чытаюць творы любімага пісьменніка, трэція спяшаюцца на канцэрт, чацвёртыя выпраўляюцца на паляванне ці на лыжную прагулку... Што ні чалавек, то свой густ, сваё жаданне.

Але, як правіла, людзі не абмяжоўваюць сябе адным відам адпачынку. Самыя заўзятыя балельшчыкі футбола любяць хадзіць у кіно і тэатр, а самыя гарачыя прыхільнікі сімфанічнай музыкі не адмовяцца павальсаваць або паслухаць эстрадны канцэрт. І гэта зусім зразумела: духоўныя запатрабаванні людзей шырокія і разнастайныя. Але гэта тых людзей, якія працуюць, для якіх праца—надзённая патрэба і асалода. Тыя ж маладыя людзі, асноўным заняткам якіх з'яўляецца гультайства, а ўвесь надзённы клопат пачынаецца і канчаецца пошукамі пустых забаў — не могуць пахваліцца цікавым і разнастайным адпачынкам.

Іх, гэтых сучасных абломавых, вельмі мала сярод нашай моладзі. І не пра іх тут пойдзе гаворка.

А пра тых дасціпных і вынаходлівых у працы юнакоў і дзяўчат, якія часам аказваюцца бездапаможнымі там, дзе справа датычыць умення адпачываць і весяліцца.

Здавалася б, каму, як не моладзі, бадзёрай і жыццерадаснай, весела арганізаваць свой заслужаны адпачынак? Для гэтага ў нас ёсць усе ўмовы — палацы, тэатры, канцэртныя залы, клубы. Наша дзяржава паклапацілася аб тым, каб моладзі было дзе культурна адпачыць, задаволіць свае духоўныя запатрабаванні. Аднак гэтыя магчымасці выкарыстоўваюцца далёка яшчэ не так, як трэба.

Адным з найбольш папулярных відаў адпачынку з'яўляюцца маладзёжныя вечары. Аб іх арганізацыі нам і хацелася б тут пагутарыць.

Аднойчы вечарам мы з таварышам накіраваліся на студэнцкі вечар у інстытут народнай гаспадаркі. «Студэнты ўмеюць весяліцца, — падумалася нам. — Гэта народ энергічны і з фантазіяй».

У запрашальным білеце было напісана: «Спартыўны вечар». Гэта нас асабліва зацікавіла.

Прыйшлі, як было назначана ў білеце, а сёмай гадзіне. У калідорах і фае ўжо сабралася моладзь. Адны стаялі групкамі, другія, аб нечым нудна гутарачы, сланяліся з кутка ў куток. Усе чагосьці чакалі.

— Калі ж пачнецца вечар? — запыталіся мы.

— Ці ж вы не ведаеце: калі ў аб'яве напісана, што пачатак у 7 гадзін, трэба прыходзіць у 8, — задаволілі нашу цікаўнасць студэнты.

Ніякіх прыкмет таго, што вечар мае быць спартыўны, не адчувалася: ні спартыўнай газеты, ні фотаздымкаў чэмпіёнаў і рэкардсменаў інстытута, ні стэндаў з паказальнікамі спартыўных дасягненняў, рэкордаў, з заваяванымі ганаровымі граматамі і кубкамі...

...У фае гучала музыка. Пад шыпенне радыёлы пары таўкліся ў такой цеснаце, што міжволі думалася: тым селядцам з традыцыйнай бочкі, відаць, было куды вальней...

Тыя, хто не адважыўся ўціснуцца ў круг танцораў, сланяліся па лесвіцы, туляліся па кутках у пошуках якога-небудзь занятку.

«Вечар жа спартыўны, — успомнілася



нам. — Трэба заглянуць у спартыўную залу».

Зала была перапоўнена. На ўзвышэнні сядзела некалькі маладых людзей у сарочках, без пінжакоў. Яны выціскалі з інструментаў нешта дзіўнае. На музыку гэта было мала падобна, затое вельмі добра імітавала гукі хатніх жывёл.

Мы пакідалі вечар, так і не дачакаўшыся спартыўных выступленняў — гадзіннік паказваў 10.00.

Гэта не адзіны сумны вечар, на якіх нам выпала пабываць. Даволі частым госцем нудота бывае і на вечарах у рабочых клубах і нават у Палацы культуры прафсаюзаў.

У чым жа справа? Няўжо так цяжка арганізаваць цікавы вечар, дзе панавала б весялосць, дзе смех не спыняўся б ні на хвіліну?

Хто ж павінен выганяць сум адусюль, дзе адпачывае моладзь? Дырэктары клубаў, дамоў культуры? Вядома, у нейкай меры і яны. Але галоўным чынам гэта павінны рабіць самі юнакі і дзяўчаты, сама моладзь, самі камсамольцы.

Не барадатым жа дзядзькам займацца арганізацыяй адпачынку тых, у каго шмат энергіі, запалу! Вопыт паказвае, што там, дзе гаспадарыць ініцыятыва і выдумка моладзі, сум знікае назаўсёды.

Дзяўчаты з фабрыкі імя Крупскай вырашылі: прэч нудоту з вечароў! Трэба весяліцца па-сапраўднаму.

Сказалі і зрабілі. І першы вечар, наладжаны імі, надоўга застаўся ў памяці.

... У залу нібы прыйшла вясна. Здаецца, і не памяшканне гэта, а адкрытая летняя веранда ў сонцы і зеляніне. На сцэны, калоны, на твары і сукенкі танцораў падаюць рознакаляровыя промні пражэктараў.

Цесным колам акружыла моладзь дзяўчыну і юнака, якія стараюцца ператтанцаваць адно другога. Цяжка вызначыць, хто ж лепшы танцор — работніца пашывачнага цэха Дора Цыркун ці механік Міхаіл Балашоў. Вялікі смачны торт абяцаны таму, хто пераможа ў конкурсе.

«Барыня, барыня, сударыня барыня»— стараюцца музыкі. Усё хутчэйшым становіцца тэмп музыкі, усё з большым запалам танцуюць сапернікі.

І вось ужо не вытрымлівае нехта з аркестра і пад воплескі выскоквае на круг.

Няма ў гэтую хвіліну ніводнага абыякавага гледача ў зале. Дружна ўхваляецца паведамленне аб тым, што торт атрымліваюць усе тры танцоры.

Яшчэ не ўляглося ўзбуджэнне, выкліканае танцам, а ўжо зноў гучыць музыка.

— Дзяўчаты, запрашайце на танец гасцей, — гаворыць вядучы.

Так, усе юнакі на сённяшнім вечары— госці, іх запрасілі работніцы фабрыкі на адкрыццё свайго клуба дзяўчат. З двух з паловай тысяч людзей, якія працуюць на фабрыцы, толькі 200 мужчын. Так што клуб дзяўчат адкрыт не без падставы.

Развітальны вальс. А дзяўчатам і гасцям не хочацца разыходзіцца.

— Вось каб заўсёды так было, — гаварылі яны на развітанне свайму камсоргу Раі Шуб.

— А цяпер свой адпачынак будзеце арганізоўваць самі, — адказала Рая.

Новая форма культурна-масавай работы — маладзёжныя клубы — апраўдала сябе. Такія клубы многа зрабілі ў наладжванні культурнага адпачынку моладзі і ў Адэсе, і ў Ленінградзе, і ў нас у Мінску.

Цікавыя, змястоўныя вечары можна праводзіць, калі ёсць дружны творчы калектыў — запявалы культурна-масавай работы. Тут і розныя балі, і карнавалы, і тэматычныя вечары... Як цікава, напрыклад, можна правесці вечар на тэму: «З культурай у нагу». На вечар запрашаюцца работнікі Дома мадэляў, настаўнік танцаў, майстар-цырульнік, праводзіцца гутарка аб культуры паводзін, конкурс на лепшае плацце, прычоску...

Захапляючымі і павучальнымі могуць быць і вечары на такія тэмы, як «Майстры мастацтва ў майстроў вытворчасці», «Пуцёўка ў будучыню», «Беражы свой рабочы гонар», «Ім сёння па шаснаццаць», «Пагутарым аб каханні» і іншыя. Знойдзецца шмат хвалюючага для дзелавой сяброўскай гутаркі ў моладзі горада і вёскі на вечары-сустрэчы «Серп і молат».

Маладых усё цікавіць: і сустрэчы са старымі камуністамі — удзельнікамі Кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, і з першымі камсамольцамі — зачынальнікамі слаўных спраў камсамола, з пісьменнікамі, артыстамі, вучонымі, мастакамі; і абмеркаванне новых фільмаў, спектакляў; і дыспут па пытаннях камуністычнай маралі і быту; і змястоўная лекцыя-канцэрт.

А ці толькі ў памяшканнях, у чатырох сценах, можна праводзіць вечары? Ці не лепш, скажам, правесці з сябрамі вольны час на свежым паветры?

Лета — цудоўная пара года. Як правіла, у гэты час людзі пакідаюць душныя памяшканні. І гэта зразумела — вабяць да сябе рака, азёры, паркі, сады, скверы, адкрытыя танцверанды. Здавалася б, туды і трэба перанесці ўвесь цэнтр выхаваўчай работы і культурнага адпачынку моладзі.

На жаль, робіцца наадварот: паркі і танцверанды з году ў год старанна ахоўваюць нядобрую славу «самых сумных месц».

Але і тут варта моладзі ўзяцца за справу — як атрымаецца зусім іншая карціна.

Актывісты Цэнтральнага камсамольскага клуба г. Мінска задумалі арганізаваць у парку імя Горкага вялікае маладзёжнае гулянне, прысвечанае Дню савецкай моладзі.

Маляўнічая афіша, расклееная па горадзе, заклікала: «Весяліцеся і адпачывайце! У гонар твайго Дня, моладзь, у нас сёння...», і далей ішла праграма гуляння.

І сапраўды, юнакі і дзяўчаты, што прыйшлі ў гэты вечар у парк, змаглі добра павесяліцца і адпачыць.

*Весялосць панавала на пляцоўцы* атракцыёнаў. Самым смелым прапаноўваўся атракцыён «Людзі, якія лятаюць». Раўнамерна гудзела дзіцячая карусель, на якой сядзелі маладыя мамы і таты, атрымліваючы, відаць, не меншае задавальненне, чым іх дзеці. На качэлях час ад часу спалохана ўскрыквала дзяўчына, якую вясёлы кавалер занёс пад самае неба. Ля більярдаў няспынна гучалі ўдары кіёў аб шары. І толькі ў шашачна-шахматным павільёне ды ў чытальнай зале стаяла цішыня: тут сядзелі сур'ёзныя, строгія людзі. Што ж, кожны знаходзіць занятак паводле свайго густу!

Музыка ў гэты дзень не сціхала ў парку. Адзін аркестр склікаў ля веранды аматараў патанцаваць на свежым паветры, другі даваў канцэрт на эстрадзе. На алеях парку ігралі баяністы, вакол якіх збіраліся аматары паспяваць.

Толькі канчаўся канцэрт на эстрадзе, а дыктар ужо звяртаўся па радыё да наведвальнікаў: «Ці ведаеце вы, што дае адзін працэнт зніжэння сабекошту прадукцыі ў дзень па нашай рэспубліцы?»

І цікаўныя імгненна займалі летнюю эстраду. Хто ж, сапраўды, адмовіцца паслухаць цікавую, змястоўную гутарку, а пасля яе паглядзець канцэрт мастацкай самадзейнасці?

У той час, як адны наведвальнікі парку глядзелі канцэрт, другія забаўляліся з вясёлым масавіком ля велатрэку і на цэнтральнай алеі.

Незвычайна было на гэты раз і на спартыўнай пляцоўцы: камандзе валейбалістаў, якая выйдзе пераможцам, уручаўся смачны прыз — торт. Ахвотнікаў да гэтага прыза было хоць адбаўляй.

Дыктар запрашаў прыняць удзел у конкурсе асілка па падняццю 2-пудовай гіры, і тут *таксама было завозна.*

Прызы пераможцам уручалі дзяўчаты, актывісткі Цэнтральнага камсамольскага клуба. Баяніст іграў туш. Гледачы з месц жадалі прыемнага апетыту, асілкі да болю пацiскалі Святлане і Лоры рукі, а валейбалісты частавалі іх тортам.

Каля летняй эстрады гучаў смех — гэта пачаўся розыгрыш шчаслівай латарэі. Пад дружныя апладысменты хлопцу ўручылі распашонкі, а дзяўчыне — пінеткі. Некаму дасталася шампанскае, а яшчэ некаму — кефір. Зноў — смех!

Да поўначы гуляла моладзь. І хоць не ўсё атрымалася так, як хацелі арганізатары, але гэта быў наглядны прыклад таго, што і ў парках можна наладжваць адпачынак весела і цікава. І не толькі ўлетку, але і зімой. Хіба тую ж праграму вечара нельга перанесці на заснежаныя дарожкі парку, на прыгожую паляну ў бары, на каток?

Мы не прэтэндуем на поўнае і падрабязнае асвятленне пытанняў культурнага адпачынку моладзі. Мы ўзялі толькі найбольш папулярную форму культурна-масавай работы — маладзёжныя вечары. Але пачаўшы гутарку аб вечарах, нельга не сказаць аб танцах.

Танцы — любімы адпачынак моладзі. І мы перакананы, што пры ўдумлівай і правільнай арганізацыі танцы могуць стаць сапраўднай школай культуры. Сапраўды, якія вялікія магчымасці даюць танцавальныя вечары для эстэтычнага выхавання. Дзе лепш, чым у танцы, можна навучыцца культуры паводзін, ветліваму і ўважліваму абыходжанню з дзяўчынай, уменню весці ў антрактах свабодную і змястоўную гутарку, крытычна разбірацца ў танцавальнай музыцы. З гэтай мэтай карысна праводзіць танцавальныя вечары з тэматычнымі антрактамі, калі ў перапынках кваліфікаваныя спецыялісты праводзяць гутаркі па пытаннях маралі, этыкі, культуры, калі моладзь сустракаецца з кампазітарамі, пісьменнікамі, артыстамі. Можна запрасіць на вечар у танцавальную залу і работнікаў дома мадэляў, якія знойдуць тут чулую аўдыторыю для прапаганды новага і прыгожага, для прывіцця добрых густаў.

Трэба часцей практыкаваць маладзёжныя балі са светлавымі эфектамі, феерверкам, арыгінальнымі гульнямі і атракцыёнамі, з канфецi і серпантынам, каралевамі балёў, з пераапранутымі вядучымі і чытальнікамі-гумарыстамі, выканаўцамі папулярных песень.

Уявіце сабе, што вас запрасілі на баль ударнікаў камуністычнай працы. У руках у вас маляўнічы білет з арыгінальным жартоўным тэкстам.

*З'язджаюцца госці. Гэта юнакі і дзяўчаты, якія вырашылі* жыць і працаваць па-камуністычнаму.



Гукі аркестра змяняюцца вясёлымі прывітаннямі:

**Заходзьце, госці любыя,**
**Гаспадары імклівыя,**
**Вы самыя харошыя,**
**Вы самыя шчаслівыя!**

Па радыё дыктар аб'яўляе аб прыездзе таго ці іншага ганаровага госця — славутага рабочага.

Ля ўваходу на лесвіцы вас сустракае пераапрануты Несцерка ў сваім традыцыйным касцюме. Ён, размахваючы бычыным пухіром, папярэджвае:

**Пойдзеш налева —**
**Танцы і спевы!**
**Пойдзеш направа —**
**Гэткая ж справа!**

І хітра дадае:

**Да буфета — ўніз,**
**Без усякіх віз!..**

На вас кідаюць канфецi, серпантын, запрашаюць у «пакой цудаў».

Ля ўваходу ў фае — кіёск сувеніраў. Калі вы прыйшлі з дзяўчынай, абавязкова купіце ёй у падарунак сувенір — гэта ўмова балю. За прылаўкам не проста прадаўшчыца, а цудоўная Беласнежка.

Калі дзяўчына прыйшла на вечар без юнака, не бяда! Ёй тут жа, ля гардэроба, памогуць зняць паліто і правядуць у залу ветлівыя кавалеры, апранутыя, як сем гномаў.

Вам прапаноўваюць выпрабаваць шчасце на «шчаслівых вагах»: юнак і дзяўчына з аднолькавай вагой атрымліваюць прыз.

Стаяць па кутках і сумаваць вам не дазволіць той жа Несцерка. Ён выцягне вас за рукі на круг са словамі:

**У баку не стойце ўдвух,**
**Лепш у наш ідзіце круг,**
**Бо, вядома, між людзей**
**І святлей і весялей!**

А ў перапынку паміж танцамі адбываюцца розныя конкурсы, наладжваюцца атракцыёны. Для мужчын — атракцыён «Ці смелы ты?», а для дзяўчат — конкурс на лепшую хатнюю гаспадыню.

Калі вам не пашанцавала ў гульні, вы можаце паспытаць шчасце ў латарэі. Абавязкова пашанцуе!

Вас клічуць: «Прымайце ўдзел у латарэі!»

**Выпіўка панская —**
**Савецкае шампанскае!**
**Не бярыце лішку —**
**Піце па кілішку!**

**А як будзе мала —**
**Напаўняй бакалы!**
**А на закусь, юнакі,**
**Выйгравайце агуркі!**

І магчыма, вы выйграеце вялікую банку марынаваных гуркоў.



Але што гэта?.. Гучыць урачыстая мелодыя — паявіўся прынц са світай, яны выбіраюць каралеву балю.

Цяпер яна распараджаецца балем: запрашае танцаваць, уручае прызы пераможцам.

Паміж танцамі можна заскочыць у буфет, дзе маладая «чараўніца» пачастуе вас за 40 капеек «прываротнымі зёлкамі» — газіраванай вадой, падфарбаванай сіропам.

Добры настрой не пакідае вас увесь вечар.

Хор на развітанне спявае «Бывайце здаровы». Госці разыходзяцца крыху стомленыя, але задаволеныя.

Такія тэатралізаваныя балі — не фантазія. Яны праводзяцца ў Маскве, у Ленінградзе і іншых гарадах. Могуць яны арганізоўвацца скрозь.

Цяжка, вядома, даваць нейкія рэцэпты для весялосці. І ўсё ж хочацца выказаць некаторыя меркаванні, падказаныя практыкай.

Рыхтуючы вечар, трэба памятаць, што калі «тэатр пачынаецца з вешалкі», дык вечар — з запрашальнага білета. Білет — гэта кароткая праграма вечара. І ўсё, што там абяцана, павінна быць выканана.

Вельмі важна добра сустрэць гасцей. Як кажуць, цяжкі толькі пачатак.

Павінна быць рэжысура вечара. І даручыць яе трэба найбольш здольным людзям, якія валодаюць фантазіяй, выдумкай, творчым падыходам да справы.

Рэжысёр вечара прадумвае яго форму, увесь яго ход, складае рэжысёрскі план, у якім распісаны ўсе дэталі: калі, дзе і што адбудзецца, вызначаецца — хто за што адказвае, хто праводзіць.

Рэжысёр павінен прадугледзець, як тая ці іншая фарба, штрых, прыём будуць пасаваць з агульным настроем вечара, яго тэмай.

Трэба памятаць, што мастацкае, светлавое афармленне стварае святочны настрой.

Цікавыя забавы — самы складаны і цяжкі элемент вечара.

Танцавальныя праграмы лепш за ўсё складаць загадзя. Абавязкова на вечары павінны быць вопытныя кіраўнікі танцаў, гульняў, атракцыёнаў — запявалы весялосці. І, вядома, з асяроддзя самой моладзі, а не платныя дзядзькі даволі сталага ўзросту.

Тэматычную частку і канцэрт не варта зацягваць. Канцэрт павінен быць у адным аддзяленні і займаць не больш гадзіны, а тэматычную частку лепш пабудаваць у форме цікавай сустрэчы. Калі ў сустрэчы ўдзельнічае некалькі чалавек, дык загадзя кожны бярэ сабе пэўную падтэму, якая раскрывае асноўную тэму вечара.

Трэба памятаць і пра тых, хто не танцуе. Для іх трэба арганізаваць захапляючыя гульні, шахматныя спаборніцтвы, прагляд цікавага фільма. Але нельга, каб гэта шкодзіла інтарэсам асноўнай масы моладзі, якая любіць патанцаваць.

І, нарэшце, вечар, калі добра пачаўся, ён добра павінен і закончыцца. Калі мы сказалі, што вечар пачынаецца з запрашальнага білета, дык канчаецца вешалкай. Штурханіна і мітусня, беспарадак ля гардэроба можа стаць той «лыжкай дзёгцю», якая сапсуе цудоўны настрой.

Усе гэтыя «правілы» вядомыя тым, хто з'яўляецца арганізатарам вечароў, але далёка не заўсёды выконваюцца. Таму мы і парашылі напомніць аб гэтым.

Моладзь павінна ўзяць арганізацыю адпачынку ў свае рукі. Кожны юнак і дзяўчына могуць навучыцца нескладанай, але неабходнай справе — весела, цікава, культурна адпачываць.

**В. ГРУША.**

# ТАМ, ДЗЕ КАМАНДУЕ ДОЛАР

### «Нацыянальная славутасць» церпіць паражэнне

Гэта адбылося ўвечары 11 сакавіка 1957 года. Мільёны амерыканцаў чакалі пачатку тэлевізійнай віктарыны «21 пытанне». Іх нецярплівасць можна было зразумець: у віктарыне прыймаў удзел славуты Чарлі — 33-гадовы выкладчык Калумбійскага універсітэта Чарльз ван Дорэн. Ужо некалькі месяцаў ён нязменна перамагаў сваіх сапернікаў. «Героем», «цудам» ахрысцілі яго амерыканскія газеты. І амерыканцы не маглі не згадзіцца з гэтым. Так, іх Чарлі сапраўды быў цудам Амерыкі. Ён адказваў на самыя цяжкія пытанні з гісторыі, літаратуры. Праўда, часам ён задумваўся. Але тэлегледачы бачылі, як Чарлі напружваў памяць і волю, каб нарэшце знайсці правільны адказ. Мільёны амерыканцаў перажывалі разам з ім, спадзяваліся на яго, верылі ў яго сілы. Яны не надавалі асаблівага значэння той акалічнасці, што пры кожным паяўленні ван Дорэна на экранах тэлевізараў нязменна паяўлялася і рэклама, якая славіла цудадзейныя ўласцівасці касметычных тавараў, што выпускае фірма «Рэўлон»: «Рэўлон» — лепшы сродак ад пацення ног!»

У той сакавіцкі вечар амерыканцы доўга не маглі супакоіцца. Іх любімец, іх надзея, іх мілы Чарлі не здолеў адказаць на самае, здавалася, простае пытанне — хто з'яўляецца каралём Бельгіі? Праўда, ён правільна назваў каралёў пяці іншых краін, але калі чарга дайшла да Бельгіі, ён задумаўся, а потым сумна сказаў: «Кароль Бельгіі — Леапольд, але я ведаю, што памыляюся». Так, на гэты раз яму не пашанцавала: імя караля Бельгіі Бадуэна правільна назвала канкурэнтка Чарлі пані Вівіан Нірынг.

Цяжка перадаць расчараванне, якое ахапіла амерыканскіх тэлегледачоў, якія сталі сведкамі нечаканага паражэння Чарлі, таго самага «мілага», «сімпатычнага», «разумнага» Чарлі, што паходзіць з вядомай літаратурнай сям'і (гаспадар гэтай сям'і атрымаў за свае творы прэмію Пулітцэра).

А якой папулярнасцю ён карыстаўся сярод моладзі! Як піша амерыканская газета «Уоркер», Чарлі атрымаў некалькі дзесяткаў пісьмаў ад прыгожых дзяўчат з прапановай уступіць у шлюб, 20 тысяч чалавек захапляліся ў сваіх пісьмах яго талентам. За 14 тыдняў выступленняў у тэлевіктарынах Чарлі выйграў 129 тысяч долараў і стаў, паводле слоў газеты «Нью-Йорк таймс», «нацыянальнай славутасцю».

Адразу ж пасля паражэння ван Дорэна радыё- і тэлекампанія «Нэйшнл бродкастынг карпарэйшн» заявіла, што, улічваючы яго бліскучыя здольнасці, яна назначыць яго сваім кансультантам і каментатарам з гадавым акладам у 50 тысяч долараў.

І зноў амерыканскія тэлегледачы маглі бачыць «мілага» Чарлі.

Цяжка сказаць, кім бы цяпер стаў Чарлі, калі б не адна акалічнасць...

### У Стэмпеля не вытрымліваюць нервы

З некаторага часу ў другога ўдзельніка віктарыны «21 пытанне» Герберта Стэмпеля пачалі не вытрымліваць нервы. Ён заўважыў, што ўсё гэта пачалося са снежня 1956 года.

Да таго фатальнага дня Стэмпелю і гора было мала. Ён ужо «зарабіў» 49 тысяч долараў. Але чаму ж не зарабіць больш?! Асаблівых жа намаганняў для гэтага прыкладаць не трэба.

У тую раніцу Стэмпель быў дома і, як звычайна, глядзеў тэлеперадачы. Трафарэтныя рэкламы мала прыцягвалі яго ўвагу: ён ведаў, чаго яны варты. Але калі дыктар, звяртаючыся да тэлегледачоў, запрасіў іх пры-

няць увечары ўдзел у чарговай тэлевіктарыне і пры гэтым, як здалося Стэмпелю, з відавочным сумненнем спытаў: «Ці пяройдзе Герб Стэмпель рубеж у 100 тысяч долараў?», ён адразу ж сказаў сабе: «Гэта канец». У Стэмпеля заняло дух, задрыжалі рукі. Можна было падумаць, што гэтая думка аб немінучым паражэнні прыйшла яму ўпершыню. Але не!

Яшчэ ўчора Стэмпель сустрэўся з Энрайтам, адным з арганізатараў віктарыны «21 пытанне» і ўласнікам рэкламнага агенцтва ў Нью-Йорку. Энрайт адкрыта сказаў яму, што «ў інтарэсах справы» ён павінен прайграць. Газета «Нью-Йорк таймс» 8 кастрычніка 1959 года словамі Стэмпеля так апісвае гэтую размову: «Энрайт расказаў аб праграме віктарыны. Я павінен быў не адказаць на пытанне аб кінакарціне, якая атрымала ў 1955 годзе прэмію Акадэміі мастацкіх фільмаў, і на пытанне па гісторыі Амерыкі, нягледзячы на тое, што я бачыў гэты фільм тры разы, а пытанне па гісторыі мы вывучалі ў каледжы за два дні да перадачы».

5 снежня 1956 года адбылася чарговая тэлевіктарына «21 пытанне». Яна была разыграна як свайго роду «барацьба паміж каледжамі». Стэмпель прадстаўляў гарадскі каледж Нью-Йорка. Яго супернікам ад Калумбійскага ўніверсітэта быў Чарльз ван Дорэн. У той вечар на небасхіле амерыканскага тэлебачання ўпершыню з'явілася новая зорка — вядомы нам Чарльз.

А што сталася з Гербертам Стэмпелем? Ён страціў лёгкі заработак. Выйграныя ім долары пачалі таяць. Абяцанне Энрайта даць яму работу так і засталося пустым абяцаннем. А новыя «пераможцы» віктарын працягвалі заграбаць дзесяткі тысяч долараў. Было ад чаго прыйсці ў роспач! У жніўні 1958 года Стэмпель даволі ясна намякнуў прадстаўнікам друку, што яго «перамогі» і «перамогі» другіх у віктарынах былі несумленнымі. Так пачаў наспяваць скандал.

Прыкладна ў гэты ж час Хілгемейер — удзельнік другой віктарыны пад назвай «О'Дота» заўважыў, што перад пачаткам віктарыны нейкая міс Він тайком ад усіх вельмі старанна заглядвала ў запісную кніжку. У час паказу праграмы Хілгемейер зайшоў у гардэробную, выцягнуў запісную кніжку з кішэні паліто Він і знайшоў там пытанні віктарыны з гатовымі адказамі на іх. Ён вырваў старонку з запісной кніжкі і перадаў яе пані Кімвал, якая прайграла ў той раз міс Він. Пані Кімвал пад прысягай заявіла, што яе ашукалі. Копіі заявы былі накіраваны ў федэральную гандлёвую камісію ЗША, якая сочыць за рэкламай, і ў пракуратуру Нью-Йорка. Аднак у абедзвюх урадавых установах заявы былі сустрэты з халадком. Больш таго, нехта пастараўся паведаміць аб іх арганізатарам віктарыны, і тыя падкупілі Хілгемейера і Кімвал, даўшы ім па 1500 долараў за тое, каб яны не ўзбуджалі судовай справы супраць тэлекампаніі, рэжысёраў і арганізатараў віктарыны.

Каб супакоіць амерыканскую грамадскасць, якая патрабавала расследавання, нью-йоркскія ўлады выклікалі ўдзельнікаў віктарыны і за зачыненымі дзвярыма дапытвалі іх. Большасць выкліканых катэгарычна адмаўляла, што яны былі падкуплены. Пад прысягай адмаўляў свой удзел у жульніцкіх тэлеперадачах і Чарльз ван Дорэн. Дзевяць месяцаў разбіралася ў Нью-Йорку справа з ашуканствам у тэлебачанні. Кідалася ў вочы тое, што ў гэты час з экранаў амерыканскіх тэлевізараў пачалі знікаць самыя папулярныя віктарыны. К леташняму году з 14 віктарын на экранах паяўляліся толькі дзве. Здавалася, усё абышлося без вялікага скандалу. Іменна гэтага хацелі, па крайняй меры, тэлекампаніі, рэкламныя агенцтвы і карпарацыі. Але наперадзе іх чакалі новыя непрыемнасці...

## Механіка ашуканства раскрываецца далей

У кастрычніку 1959 года ў Вашынгтоне пад націскам грамадскасці жульніцтвам у тэлебачанні зацікавілася камісія палаты прадстаўнікоў па расследаванню дзейнасці ўрадавых устаноў. Адзін за другім паўсталі перад ёю ўчарашнія «героі», «пераможцы» шматлікіх віктарын. Усе яны, за выключэннем ван Дорэна і некаторых іншых, прызналіся ў тым, як іх трэніравалі перад віктарынамі. Мільёны амерыканцаў убачылі агідную карціну подкупаў, зразумелі ашуканства з боку ўсіх тых, хто трымае ў сваіх руках амерыканскае тэлебачанне.

Першымі сведкамі былі ўжо знаёмыя нам Герберт Стэмпель і Джэймс Снодграс, удзельнікі віктарыны «21 пытанне». Яны расказалі, што ім загадзя даваліся пытанні і адказы на іх, указвалася, як паводзіць сябе, што апранаць і калі прайграваць.



У спецыяльных пісьмовых інструкцыях рэжысёры вучылі іх «рабіць 5-секундныя паўзы, каб узрасло напружанне, кусаць вусны, чухаць галаву, церці бровы».

18-гадовая студэнтка нью-йоркскай кансерваторыі Фальке расказала, што ёй загадзя давалі адказы на пытанні, і, пасля таго, як яна «выйграла» 800 долараў, ёй прапанавалі прайграць.

Удзельнікі віктарыны «О' Дота» Хашл і Хілмэн заявілі, што яны загадзя знаёміліся з пытаннямі і адказамі. На гэтай «справе» яны зарабілі адпаведна 15 200 і 1460 долараў.

Майстэрству ашуканства вучылі бізнесмены і дзяцей. 12-гадовая Рэці Д'юк «зарабіла» 32 тысячы долараў за «правільныя» адказы ў віктарыне пад назвай «Выклік на 64 тысячы долараў». 15 працэнтаў сумы перапала тым, хто вучыў яе гэтаму ганебнаму рамяству.

Жульніцтву і ашуканству навучылі таксама 10-гадовую Сторма, 8-гадовую Шанд і іншых. «Гэта марадзёрства ў адносінах да дзяцей», — такімі словамі адна з удзельніц віктарыны як нельга лепш ахарактарызавала атмасферу, якая пануе ў джунглях амерыканскага тэлебачання.

З паказанняў дзесяткаў людзей высветлілася, што ўсе віктарыны былі ашуканствам. Пасля выкрыцця гэтых махлярстваў уладальнікі тэлевізійных кампаній і рэкламных агенцтваў на Мэдзісон-авеню, а таксама кампаніі, якія рэкламавалі свае тавары, публічна заявілі, што яны «абураны» і «здзіўлены» усім гэтым і не маюць ніякіх адносін да ашуканства. Віцэ-прэзідэнт радыё- і тэлекампаніі «Нэйшнл бродкастынг карпарэйшн» Эрвін сказаў, што яго кампанія была ашукана рэкламнымі агенцтвамі і арганізатарамі віктарыны. Ён дадаў, што ван Дорэн гатоў пад прысягай зноў пацвердзіць, што заявы Стэмпеля і іншых — хлусня. Знаёмы нам Энрайт назваў Стэмпеля «вар'ятам» і выказаў упэўненасць, што расследаванне дакажа яго невіноўнасць. Віцэ-прэзідэнт фармацэўтычнай кампаніі ў Нью-Йорку Клейстэр са здзіўленым выглядам чалавека, які ўпершыню даведаўся аб ашуканстве, сказаў: «Гэта проста ўдар».

Эрвін нездарма спаслаўся на ван Дорэна. Чарлі ўсё яшчэ карыстаўся давер'ем сярод тэлегледачоў. Яны глядзелі на яго, як на апошнюю надзею, і чакалі, што ўжо ён іх не падвядзе. І сапраўды, у пачатку кастрычніка ад ван Дорэна ў Вашынгтон паляцела тэлеграма, у якой ён цвёрда паўтараў: «Мне ніколі не давалі ніякіх пытанняў і адказаў у віктарынах «21 пытанне». Мне не дапамагалі ні ў якой форме, і я нічога не ведаю аб якой-небудзь дапамозе, што аказвалася іншым удзельнікам».

Камісія палаты прадстаўнікоў запатрабавала яўкі ван Дорэна ў Вашынгтон для дачы паказанняў, бо яго дадзеныя супярэчылі заявам іншых асоб. Але ван Дорэн таемна знік. На працягу шасці дзён ніхто не ведаў, дзе ён. Пазней Чарлі сцвярджаў, што ўсе гэтыя дні, будучы ў дрэнным настроі, ён без усякай мэты раз'язджаў у сваёй машыне з аднаго горада ў другі ў пошуках якога-небудзь выхаду. Цяжка сказаць, так гэта ці не. Але вядома адно, выхад яму падказалі другія, тыя, што доўгі час прымушалі Чарлі адмаўляць, ды яшчэ пад клятвай, свой удзел у жульніцкіх тэлевіктарынах.

## «Ваўкі» здраджваюць Чарлі

Прайшло ўсяго некалькі дзён, і адбылося нечаканае. Энрайт прызнаўся, што з яго згоды перадаваліся некаторым удзельнікам віктарын пытанні і адказы, і гэта было «шматгадовай практыкай». Арганізатар віктарын «Выклік на 64 тысячы долараў», «Назаві гэтую мелодыю», «За каханне або грошы» Фелшар таксама прызнаўся ў такіх махінацыях. Больш таго, ён заявіў, што прасіў удзельнікаў віктарын не гаварыць судовым уладам Нью-Йорка праўду і не выдаваць тайны. Яго ўгаворы (а можа і подкуп) дзейнічалі добра. Як заявіў пракурор Нью-Йорка Хосэн, з 150 апытаных асоб толькі прыкладна 50 далі правільныя паказанні.

Але самы цяжкі ўдар чакаў амерыканскую грамадскасць наперадзе. 25 кастрычніка іх «мілы» Чарлі прызнаўся, што на працягу трох год ён хлусіў, хлусіў свядома і беспардонна для таго, каб раслі прыбыткі манаполій.

З лістапада 1959 года ван Дорэн прадстаў перад камісіяй палаты прадстаўнікоў і пачаў даваць паказанні. Гэта была сенсацыя гіганцкіх маштабаў. 120 рэпарцёраў і 17 фатографаў асадзілі залу, дзе ішло пасяджэнне камісіі. Амаль усе газеты, у тым ліку і такая салідная, як «Нью-Йорк таймс», адвялі для справаздачы аб паказаннях ван Дорэна па 2—3 старонкі.

Што ж паказаў ван Дорэн? А вось што:



Малюнак з газеты «Уоркер» (Нью-Йорк).

«Я ашукаў мільёны амерыканцаў... Фрыдмэн, рэжысёр віктарыны «21 пытанне», гутарыў са мною ў 1956 годзе. Ён прасіў мяне перамагчы ў віктарыне і абяцаў дапамогу. Мне ён гарантаваў тысячу долараў. Гэта паслуга ўсяму грамадству, гаварыў ён. На наступны дзень ён перадаў мне пытанні.

Ён інструктаваў мяне, як даваць адказы на пытанні: спачатку крыху пачакаць, затым збівацца, зноў вяртацца да пытання, сумнявацца, ствараць уражанне няўпэўненасці.

Аднойчы Фрыдмэн сказаў, што я выйграю наступную віктарыну і буду новым чэмпіёнам. Яго гарантыя была павялічана да 8 тысяч долараў. І я перамог Стэмпеля, які быў непапулярным...

Я атрымліваў тысячы пісьмаў і дзесяткі просьбаў выступіць з прамовамі, здымацца ў кіно і г. д. Мяне называлі «чалавечай кнігай ведаў», «хадзячай энцыклапедыяй».

11 лютага 1957 года Фрыдмэн сказаў, што я буду пераможаны ў драматычнай сітуацыі і што мяне пераможа Вівіан Нірынг. Праз месяц я прайграў і атрымаў 129 тысяч долараў. Энрайт ведаў усё.

Потым мне далі работу у «Нэйшнл бродкастынг карпарэйшн». Кожную раніцу я на працягу пяці мінут гаварыў аб навуцы, паэзіі, гісторыі і вядомых людзях. Я быў адзіным чалавекам, які чытаў паэзію XVII стагоддзя па тэлебачанню — гэта адрознівалася ад звычайнай порцыі забойстваў і гвалтаў. У ліпені 1958 года мяне зрабілі ад'юнкт-прафесарам».

Паказанні ван Дорэна дапоўнілі тое, чаго не хапала раней. Усім стала ясна, чаму судовыя ўлады Нью-Йорка стараліся замяць расследаванне справы аб тэлевіктарынах, чаму Чарлі ўпарта адмаўляў паказанні другіх. Гэтага хацелі яго гаспадары, якім ён за долары прадаў сваё сумленне.

Але чаму ж так доўга чапляліся за імя ван Дорэна тыя, хто ператварыў тэлебачанне ў адзін са сродкаў нажывы? Разгадка, як кажуць, вельмі простая. З імем ван Дорэна яны звязвалі свае надзеі на тое, што ўдасца замяць скандал, схаваць галоўных віноўнікаў грандыёзнага ашуканства.

Ну, а што, калі скандал усё ж выплыве на паверхню?

Тым горш, у першую чаргу, для таго ж Чарлі. Ім захапляліся мільёны амерыканцаў, і на яго перш за ўсё абрушыцца гнеў і абурэнне ашуканых людзей. А тыя, хто дзейнічаў за спіной Чарлі, так і застануцца ў ценю.

З гэтага поваду нью-йоркская газета «Дэйлі ньюс» пісала: «Ваўкі спалохаліся і здрадзілі нарэшце ван Дорэну». Так, «ваўкі» здрадзілі «міламу Чарлі». З-за іх ён страціў работу ў тэлекампаніі і ў калумбійскім універсітэце. Яны прымусілі яго прызнаць хлуслівасць яго ранейшых паказанняў, тым самым паставіўшы яго перад непазбежнасцю турэмнага зняволення за ілжывыя паказанні.

Але ці спалохаліся «ваўкі»? Зусім не. Ды ім і няма чаго баяцца. У воўчым абліччы дзейнічаюць буйнейшыя манаполіі, банкі, фінансавыя тузы, якія кіруюць сённяшняй Амерыкай.

### У гэтым храме гаспадарнічаюць мянялы

Добра вядома, што ні ў адной капіталістычнай краіне свету ўлада манаполій не адчуваецца з такой сілай, як



у ЗША. Амерыканскія манаполіі, як спруты, трымаюць у сваіх шчупальцах літаральна ўсе банкі і ўрадавыя ўстановы, заводы і гандлёвую сетку, радыё і тэлебачанне.

Цяпер у ЗША налічваецца больш 50 мільёнаў тэлевізараў. Штодзённа ў 42 мільёнах дамоў уключаюцца тэлеўстаноўкі, якія ў сярэднім працуюць па 5 гадзін у дзень. З васьмі гадзін раніцы і да двух ночы 561 тэлевізійная студыя няспынна перадае свае праграмы.

Але галоўную ролю ў тэлебачанні адыгрываюць тры кампаніі — «Нэйшнл бродкастынг карпарэйшн», «Калумбіа бродкастынг сістэм», «Амерыкен бродкастынг кампані». У іх руках або пад іх кантролем знаходзіцца большасць усіх іншых тэлестудый, яны вызначаюць тэматыку праграм фактычна на ўсёй тэрыторыі ЗША. Галоўная мэта гэтых праграм даволі прымітыўная — прымусіць амерыканскага спажыўца купляць тавары, якія трэба збыць, прымусіць яго наведваць тыя ці іншыя відовішчы і г. д. Адным словам, прымусіць амерыканца траціць як мага больш долараў, каб павялічыць прыбыткі манаполій. Гэта параўнальна лёгка рабіць, бо ўладальнікі тэлекампаній, усе, без выключэння, адначасова з'яўляюцца і членамі праўленняў буйнейшых банкаў і карпарацый.

Памяркуйце самі. Дырэктар «Нэйшнл бродкастынг карпарэйшн» Робінсан з'яўляецца дырэктарам буйнейшага банка «Мэньюфакчарэрс траст» і кампаніі «Кока-кола». Дырэктар банка «Геранці траст» Стывенс з'яўляецца дырэктарам буйнейшай манаполіі «Джэнерал электрык», якая наладжвала многія тэлевіктарыны. Ф. Стэнтан — прэзідэнт «Калумбіа бродкастынг сістэм» і дырэктар страхавой кампаніі «Нью-Йорк лайф іншуранс». Гэты пералік можна было б прадоўжыць.

Дзякі ад тэлебачання нават не хаваюць сваіх поглядаў. Адзін з кіраўнікоў тэлестудыі «XX стагоддзе фокс» Петэр Леватас адкрыта гаворыць: «Нам трэба рэалістычна глядзець на сённяшняе тэлебачанне. Ініцыятар купляе прадстаўленне, каб прадаць свой тавар. Асноўная мэта тэлебачання ў тым і заключаецца, каб прадаць чый-небудзь тавар».

Газета «Нью-Йорк геральд трыбюн» даволі трапна пісала аб амерыканскім тэлебачанні: «У гэтым храме гаспадарнічаюць мянялы, і ад гэтага месца ўжо даўно патыхае цвіллю».

А для мянялаў, як вядома, няма больш любімага занятку, чым «мейк моні» — «рабіць грошы». Для дасягнення гэтай мэты ўсе сродкі добрыя, — так разважаюць яны.

### Як жа рабіліся тэлевіктарыны

Газета «Трыбюн», якая выходзіць у Мінеапалісе, пісала нядаўна, што «народ добра чуе носам, што адбываецца за зіхатлівым фасадам тэлебачання. Адтуль пахне, мякка кажучы, не зусім прыемна».

Гэта цалкам адносіцца і да тэлевіктарын. Іх арганізоўвалі такія карпарацыі, як «Колгейт», «Рэўлон», «Армур», «Нэйшнл бісквіт», «Джэнерал фудс», «Джэнерал моторс» і многія іншыя. Яны нездарма стварылі рэкламу вакол тэлевіктарын, назначалі прызы «пераможцам» у выглядзе аўтамабіляў «Кадзілак», гадавога запасу харчавання або зубной пасты, але часцей за ўсё ў выглядзе грошай. І выдаткі акупляліся.

На падрыхтоўку і паказ 14 тэлевіктарын манаполіі выдаткавалі 80 мільёнаў долараў. А прыбыткі толькі адной касметычнай фірмы «Рэўлон» выраслі дзякуючы тэлевіктарынам, як сведчыць віцэ-прэзідэнт гэтай фірмы, з 33 мільёнаў 604 тысяч долараў у 1954 годзе да 110 мільёнаў 363 тысяч у 1956 годзе. Якой мізэрнай на гэтым фоне выглядае сума ў 129 тысяч долараў, выплачаных ван Дорэну!

Хто павінен выйграць або прайграць, якія павінны быць дэкарацыі, касцюмы, які парадак віктарыны — усё гэта залежала ад нораву гандляроў. А іх крытэрый поспеху таго ці іншага ўдзельніка віктарыны быў просты — долары. Калі пасля паказу чарговай віктарыны павялічваўся продаж крэму ад вяснушак або зубной пасты — значыць, віктарына мела поспех і пераможца мог разлічваць на тое, што ў наступны раз ён заробіць таксама немалыя грошы. Калі ж гандаль ішоў не вельмі жвава, лёс удзельніка віктарыны, нягледзячы, што ён быў самым разумным, быў вырашаны: яго выключалі з далейшых перадач.

Для ашуканства даверлівых амерыканцаў былі запрошаны і банкі. Тэлегледачоў пераконвалі ў тым, што пытанні і адказы захоўваюцца ў бяспечным месцы, у банкаўскіх сейфах пад аховай паліцыі, а ў той жа час рэжысёрам уручалі ключы ад гэтых сейфаў. Так, напрыклад, нейкая пані Бернстайн прызналася, што ў яе быў ключ ад сейфа ў «Чэйз манхэтэн бэнк» і ў любы момант яна магла атрымаць там пытанні і адказы.

Усё было прадумана да самых дробязей. Для таго, каб адхіліць непажаданага ўдзельніка з віктарыны, былі наняты нават прафесар Эванс, які мог прыдумаць складанае пытанне ў апошнюю мінуту. Прычым гэтае пытанне выдавалася за тое, якое захоўвалася ў банку.

Такі ў агульных рысах малюнак «самага вялікага ашуканства», як называюць амерыканскія газеты леташні скандал у тэлебачанні.

### Хранічная хвароба капіталізма

Скандал з віктарынамі прыўзняў заслону над многімі гнайнікамі так званага «амерыканскага ладу жыцця». Буржуазная прапаганда трубіла і трубіць аб «свабодзе творчасці» ў ЗША, а на справе гэтая «свабода» прадаецца і купляецца за долары.

Было ад чаго збянтэжыцца трубадурам амерыканскага імперыялізма! Адкрылася ж тое, што так старанна захоўваецца ад вачэй грамадскасці. І ў ход была пушчана машына, каб неяк замяць скандал, накіраваць абурэнне мільёнаў амерыканцаў па рэчышчы, якое патрэбна для вялікага бізнесу.

Кідаецца ў вочы тое, што ў цэнтры ўвагі расследавання і газет працягвае заставацца ван Дорэн, хоць ён быў толькі адным з паслухмяных выканаўцаў чужой волі. Амерыканская газета «Уоркер» пісала: «На пасяджэннях камісіі кангрэсу грыміць гром і ўспыхвае маланка, але сапраўдныя жулікі знаходзяцца ў бяспечным месцы».

Афіцыйныя ўрадавыя органы робяць выгляд, што нічога асаблівага не здарылася. Старшыня федэральнай камісіі па сродках сувязі Дэрфер адкрыта заявіў, што ён не прыме ніякіх дзеянняў супраць тых, хто ашукваў даверлівых людзей, бо гэта было б парушэннем «канстытуцыйнай гарантыі свабоды слова і забароны цэнзуры». Часам неабходна цярпець зло, усё не можа быць ідэальным».

Як бачым, у Дэрфера свае ўяўленні аб «свабодзе слова». «Свабода слова» для яго гэта свабода хлусні і ашуканства. Што ж датычыць яго спасылкі на «забарону цэнзуры» ў ЗША, то гэты довад па меншай меры смешны. Кангрэсмен Міцмэн так гаворыць: «Па сутнасці, ужо існуе вялікая цэнзура. Рэальная цэнзура — гэта ўладальнікі перадач. Ні слова не будзе перададзена ў эфір, калі яно можа пашкодзіць яго гандлёвым інтарэсам».

Цяпер у ЗША многа гавораць аб неабходнасці «рэформ» у тэлебачанні. Пад гэтым разумеюць некаторыя меры, якія павінны прадпрыняць самі тэлевізійныя кампаніі. Але ці можна чорнага сабаку вымыць, каб ён стаў белым?

Амерыканская грамадскасць разумее, што скандал у тэлебачанні — гэта толькі слабае адлюстраванне таго разлажэння, якое адбываецца ў грамадстве, дзе кіруе долар.

Газета «Газет энд дэйлі» піша, што ашуканства не з'яўляецца нечым новым для амерыканцаў. Неўміручыя махляры Марка Твэна, указвае газета, — кароль і герцаг з «Прыгодаў Гекльберы Фіна» прадавалі толькі бутэлечкі з простай вадой, выдаючы іх за лякарства, якое вылечвае ўсе хваробы. А цяпер «штогод мільёны долараў і велізарныя разумовыя здольнасці трацяцца на спробы ашукаць грамадскасць».

І гэта ашуканства далёка не абмяжоўваецца тэлебачаннем. Часопіс «Нью-Йорк таймс мэгэзін» сумна канстатуе: «У палітыцы і бізнесе, у адукацыі і ўвесяленні майстэрства ашуканства заняло пэўнае ганаровае месца». Так замыкаецца кола. Маючы на ўвазе ўсё гэта, салідная буржуазная газета «Нью-Йорк таймс» ужывае выраз «сімптомы хваробы». Газета ўсё яшчэ цешыць сябе ілюзіяй, што гэтыя сімптомы можна аблегчыць.

Памыляецеся, паны з «Нью-Йорк таймс»! Гэта не сімптомы, а самая сапраўдная хранічная хвароба, якая, нібы рак, раз'ядае буржуазнае грамадства. Ці ж гэта сімптомы, калі адзін з амерыканскіх рэжысёраў назваў усплыўшае на паверхню махлярства з тэлевіктарынамі «струменем свежага паветру» ў параўнанні з «забойствамі і гвалтамі, якімі прасякнута тэлебачанне»?

Хваробу гэтую можна вылечыць, але толькі тады, калі справяць хаўтуры капіталізму.

**Г. НАВІЦКІ.**

## З блакнота падарожніка



Найпрыгажэйшы куток Алтая — возера Алтын-Коль.
Фота аўтара.

Яўген ЛОГІНАЎ

# НА АДХОНАХ АЛТАЯ

Летась мне давялося пабываць у ненаселеных месцах горнага Алтая, сустрэцца там з геадэзістамі, геолагамі і іншымі разведвальнікамі таёжных нетраў. Многа дзівосных гісторый пачуў я ад іх ля вячэрніх вогнішчаў.

### Незвычайнае вітанне

...Нехта падкінуў у агонь сухога кедравага галля. Весела зашугала полымя і асвяціла барадаты твар тапографа Максіма Ягоравіча.

— Раскажу вам яшчэ адну цікавую гісторыю, — пачаў ён. — Вось што са мною аднойчы здарылася.

...Чацвёртыя суткі прабіраўся праз тайгу наш невялікі тапаграфічны атрад. Ісці было цяжка. На кожным кроку сустракаліся непралазныя буряломы і густыя заснікі высокай травы. Мы амаль увесь час ішлі пехатою, ведучы за сабою зморных коней і працярэбліваючы дарогу сякерамі.

Але не кожны раз выручала і сякера. Там, дзе сяк-так прабіраліся людзі, не заўсёды маглі прайсці нагружаныя коні. Нам падоўгу даводзілася разведваць мясцовасць у пошуках абходаў. У адной з такіх разведак і адбылася гэтая дзіўная сустрэча, пра якую я, мусіць, не забуду ніколі.

Пакінуўшы коней у адным месцы, разведчыкі разышліся ў розныя бакі. Пайшоў і я. Прабіраючыся праз гушчар, я натрапіў на зарослую сцяжынку. «Дай, — думаю, — прайду па ёй, пагляджу, што там уперадзе».

Праз некалькі дзесяткаў метраў дарогу мне перагарадзіў вялізны стары кедр, паваленьі ветрам, а можа і проста старасцю. Да вывернутых карэнняў ляснога гіганта прыліплі вялізныя глыбы абымшэлага грунту. Абходзіць гэтую нечаканую перашкоду я не захацеў, а вырашыў пералезці. Ухапіўшыся рукамі за карэнні, што тырчэлі над галавой, я падцягнуўся, як на турніку. Намацаў нагамі апору, падцягнуўся яшчэ раз і раптам адчуў, што на маю правую руку лягло нешта цёплае, але шурпатае. «Няўжо мядзведзь?» — мільганула думка. Цяжкае сапенне ледзь не над самым маім вухам пацвердзіла гэтую здагадку.

«Гэй, ты! — крыкнуў я тады. — Чаго ты тут, шэльма!»

Касалапы спужаўся крыку, падаўся ўбок, але на развітанне так моцна паціснуў мне руку, што і да гэтага часу знак застаўся.

Максім Ягоравіч працягнуў да агню руку: на ёй бялеліся тры шырокія рубцы.

### Трайное сальта

Холадна раніцай у гарах. Рэдкія воблачкі туману павольна плывуць адно за адным. Навокал дрыготкая цішыня, але я настойліва ўслухоўваюся ў гэтую затоеную маўклівасць тайгі, бо хвіліну назад да майго слыху данёсся нейкі незразумелы шум. Ён і прымусіў мяне выйсці з палаткі ў такі ранні час. А можа гэта мне здалося?.. Неўзабаве зноў чуецца трэск, мусіць, паваленага дрэва... Выйшаў з палаткі і Стась, мой спадарожнік і добры сябар. Ён таксама са стрэльбай. Узводзім куркі, асцярожна расхінаем густыя зараснікі. На самым краі схілу спыняемся і, схаваўшыся ў высокай траве, слухаем, адкуль ідзе такі незвычайны шум. Туман парадзеў. Перад намі на працілеглым баку неўшырокай лагчыны ясна вырысоўваецца даволі высокая абрывістая сцяна. На самым версе яе адбываецца нейкая валтузня. Праз некалькі хвілін вялізны ствол лістоўніцы ссоўваецца ўніз, цягнучы за сабою каменне і пясок. Стась злёгку штурхае мяне локцем: над самым абрывам паказваецца руды, як купіна, мядзведзь. Нейкі час ён з цікавасцю глядзіць, як спаўзае дрэва, а потым даволі жвава падаецца да таго месца, дзе ляжыць напалову струхнелая калода. Нам усё стала зразумела: перадранішні спакой парушыў сам лясны гаспадар. Ён завіхаўся ля трухлявых дрэў і ламачча, здабываючы сабе на снеданне лічынкі і жучкоў.



Імклівая, нарavістая рака Уймень.

З цікавасцю назіраем мы за зверам. Яго шырокая калматая спіна то паяўляецца над самым абрывам, то знікае ў кустах. Вось ён абнюхвае старую абымшэлую калоду, частка якой павісла над скалістым адхонам. Сапхнуць яе ўніз, відаць, не пад сілу мішку. І ён бярэцца за работу іншым чынам: узбіраецца верхам на аброслы мохам ствол і, упіраючыся заднімі лапамі ў зямлю, пярэднімі павольна выштурхоўвае калоду з-пад сябе. Штуршок, яшчэ штуршок... Фыркаючы, мядзведзь паварочвае морду то ў адзін бок, то ў другі. Палавіна ствала ўжо вісіць над абрывам. Мішка робіць невялікую перадышку, і вось зноў пачала згінацца і выпроствацца рудая спіна незвычайнага работніка. Нарэшце апошняе намаганне. Доўгі канец ствала пераважыўся і рэзка слізгануў уніз. У гэты ж момант мішка, высока падкінуты другім канцом калоды, тройчы перакуліўся ў паветры і, равучы ад страху, плюхнуўся ў кусты следам за спарахнелым дрэвам. Не перастаючы раўсці, ён кінуўся наўцёкі і з усіх сіл пачаў караскацца па абрывістаму адхону. Мы са здзіўленнем глядзелі яму ўслед. Як толькі застаўся жывы гэты «рэкардсмен», аказаўшы сабе такую, сапраўды «мядзведжую паслугу»!

### Аб чым шумеў стары кедр...

Перад вечарам пачало распагоджвацца. Косыя прамені сонца рассунулі зялёны змрок тайгі. У лісці замітусіліся, заціўкалі птушкі, застракаталі ў высокай траве нястомныя конікі, заварушылася, ажыла прырода. Падбадзёраныя, мы закрочылі далей... Нялёгкі дзённы пераход набліжаўся к канцу. Уперадзе ўжо быў чуцён шум імклівага Уйменя.

Мы прыбавілі кроку і неўзабаве спыніліся на беразе горнага вадаспаду. Высока ўзнімаліся пырскі,ззяючы ў промнях вячэрняга сонца. Сівыя грывы хваль разбіваліся аб падножжа скал. У спакойных плёсах падскоквалі, палюючы на камароў, жвавыя серабрыстыя харыусы... Дзівосны Уймень! Чаго тут толькі не ўбачыш!

*Мы прайшлі яшчэ крыху ўніз па* рацэ, шукаючы зручнай палянкі для начлегу. Нехта з хлопцаў паказаў на велізарны кедр, пад якім была роўная пляцоўка, густа ўсыпаная пружыністым пластам шыпулек. Закіпела работа. Умомант паставілі палаткі, расклалі агонь. У рабоце не адразу заўважылі адмеціну на ствале дрэва. Нехта акуратна высек сякерай трохвугольнік кары і прыбіў яго побач, светлым бокам наверх. Два белыя трохвугольнікі — так робяць таёжнікі, калі хочуць аб чым-небудзь паведаміць. Аб чым жа? Я ўзяў галавешку, паднёс да кедра. Мігатлівы агеньчык асвятліў на трохвугольніках надпіс, зроблены алоўкам:

«Ідзі прама. На водмелі ляжыць

Стракалаў

Перлаў.

...мая, 1959».

Па чарзе падыходзілі хлопцы да старога кедра, чыталі загадкавыя словы і моўчкі адыходзілі назад. Усім было ясна: зусім нядаўна на гэтым месцы здарылася няшчасце. Ціхім і нейкім таямнічым быў для нас гэты вечар. Мы доўга не разыходзіліся па сваіх палатках. Маўчалі, нікому не хацелася гаварыць. Толькі аднастайна булькатала рака ды задуменна шумеў стары кедр.

...Назаўтра мы зноў у паходзе. Ідзём далей па цячэнню Уйменя. Звычайныя паходныя клопаты, вясёлае сонца, рознагалосае шчабятанне птушак над галовамі заглушылі невясёлыя ўчарашнія думкі. Наша група, стомленая цяжкімі пераходамі па глухіх горна-таёжных нетрах, праходзіла апошнія дзесяткі кіламетраў. Праз некалькі дзён мы сустрэнемся з другім атрадам.

Аднак гэтая сустрэча адбылася ў той жа вечар. Спачатку воддаль пачуўся стрэл. І я стрэліў у адказ са сваёй дубальтоўкі. Хутка мы ўбачылі тры вялікія палаткі і стрыножаных коней каля іх. Гэта быў лагер геолагаў. Радасна віталі нас маладыя хлопцы з шчырымі ўсмешкамі на зарослых тварах. Гасцінна запрасілі ў сваё ўтульныя, абжытыя палаткі. Каля палатак хутка запалаў касцёр. Геолагі рупліва ўвіхаліся каля крывабокіх чайнікаў і каструль, гатуючы вячэру і нейкі асаблівы, «таёжны чай». Чай і сапраўды быў смачны: моцны, густа-зялёнага колеру, з дымком. А калі пустыя, яшчэ гарачыя кубкі былі складзены ў пачарнелыя каструлі, горкае воблака махорачнага дыму паплыло над палянай.

Пасля вячэры гутарка яшчэ больш ажывілася. Мы ўспомнілі загадкавы надпіс на старым кедры і запыталіся, ці не чуў хто з геолагаў пра гэтае здарэнне.

І вось што нам расказалі.

...Было гэта вясной, у маі, калі тайга скідае з сябе снежны зімовы ўбор, белаю пенаю ўскіпаюць горныя рэкі, ажываюць таёжныя дарогі і сцежкі. У такі час вельмі небяспечна хадзіць па крутых, размытых вадою сцежках, ведучы на повадзе цяжка наўючаных коней, пераходзіць убрpath імклівыя горныя рэчкі.

Такой парою вялікі атрад геолагаў ішоў вярхоўем Уйменя. Уперадзе конна ехалі Перлаў са Стракалавым — дужыя смелыя мужчыны. Яны часта разведвалі дарогу. Сцежка віхляла між агромністымі ствраламі дрэў, гублялася ў каменных абвалах або нечакана ўпіралася ў стромкія скалы. Тады імклівы Уймень даводзілася пераходзіць уброд. На пошукі броду зноў хадзілі тыя двое, смельчакі. І ў той раз яны пад'ехалі да ракі, Стракалаў скіраваў каня ў ваду, намацваючы брод. Конь неяк няўпэўнена ступіў некалькі крокаў і,



Вадаспад Корбу.

спатыкнуўшыся, нырнуў у бурны паток. З берага Перлаў крычаў свайму таварышу, каб той вызваліў са страмёнаў ногі. Стракалаў спачатку не надаў гэтаму значэння, а потым ужо было позна. Конь, павалены магутным патокам, падмяў сабой неасцярожнага ездака. Дарэмна спрабаваў Перлаў дапамагчы свайму таварышу. Толькі праз некалькі кіламетраў выкінуў Уймень знявечанае цела Стракалава на водмель. Тут і знайшоў яго знясілены Перлаў. Ледзь перастаўляючы ў сцюдзёнай вадзе скарчанелыя ногі, Перлаў пабрыў да таго месца, дзе застаўся яго конь. З надыходам ночы пачало падмарожваць. Мокрая вопратка Перлава зрабілася калянай і, здавалася, аж звінела, калі ён высякаў на ствале старога кедра памятку-трохвугольнік.

...Рыжабароды геадэзіт змоўк. Ціха патрэсквалі галавешкі ў амаль што датлелым кастры. Аднастайна шумеў халодны Уймень, які так жорстка пакараў чалавека за яго неасцярожнасць. Я паглядзеў на прыціхлага расказчыка. Яго рашучы пагляд быў скіраваны да ракі і быццам гаварыў: «Нічога, прыдзе час, і цябе мы прыбярэм да рук... Будуць нам служыць і рэкі і горы Алтая».

### Мядзведжы банкет

Гэты цікавы выпадак адбыўся ля вярхоўя невялікай горна-таёжнай рачулкі. Падраздзяленне тапографаў усё далей пранікала ў глыб тайгі. Часта па некалькі дзён праводзілі яны ў гарах, дзе рабілі патрэбныя замеры і вылічэнні. Адпраўляючыся ў тайгу, Аляксей Дзярабін і два яго памочнікі бралі з сабою самае неабходнае. Асноўныя запасы знаходзіліся ў лагеры, на своеасаблівай базе атрада. На гэтай базе заставалася Зіна, руплівая і смелая памочніца тапографаў. Не раз ужо дзяўчыне даводзілася адной каратаць трывожныя таёжныя ночы ў простай брызентавай палатцы. Адзінай уцехай у яе нялёгкім дзяжурстве быў невялікі радыёпрыёмнік, які даносіў у далёкую тайгу родны голас Масквы.

Даўно ўжо звыклася дзяўчына з ляснымі шорахамі ночы, з сярдзітым рокатам магутных кедраў, з няспынным журчаннем горнай рэчкі. Дні праходзілі весялей у нескладаных, але патрэбных клопатах па гаспадарцы. Аднак у тую памятную ліпеньскую раніцу не да гаспадарскіх спраў было дзяўчыне. Новая «гаспадыня» з'явілася на палянцы. Чапляючыся калматымі лапамі за нацягнутыя вяроўкі палаткі, мядзведзіца тупала паблізу і, здавалася, з цікавасцю абнюхвала і разглядала дзіўныя для яе рэчы. Не выходзячы з палаткі, Зіна пачала стукаць і крычаць. Але мядзведзіца не вельмі збаялася гэтага. Яна ненадоўга знікла ў зарасніках і хутка вярнулася ўжо з двума сваімі калматымі сябрамі. Адзін з іх адразу ж зацікавіўся кругленькімі бляшанкамі згушчонага малака, што ляжалі пад кедрам, а другі, відаць, далікатнейшага «выхавання», усеўся за дашчаты, груба збіты стол у імправізаванай лагернай сталоўцы.

Мядзведзіца і адзін з яе «сяброў» лёгенька, нібы семкі лузгаючы, расціскалі бляшаныя банкі з малаком і ў ахвоту ласаваліся салодкай цягучкай. А «далікатны госць» тым часам апаражніў вялікую каструлю халоднага супу, потым адзеў пустую пасудзіну на сваю задраную ўгору морду.

Зіна спалохана сачыла за няпрошанымі «гасцямі» і нічога не магла зрабіць. Надзейнай зброі ў яе на гэты раз не было, толькі дробнакаліберка. А «гулякі» працягвалі частавацца і весяліцца. Неўзабаве кампанія іх павялічылася яшчэ на аднаго.



Яны тут зусім асвоіліся і знаходзілі ўсё новыя ласункі. Нарэшце, завяршыўшы частаванне маслам і цукрам, пачалі абдымацца, стоячы на задніх лапах, дужацца і «танцаваць».

На другі дзень сярод «старых гасцей» Зіна заўважыла і «навічкоў». Былі сярод іх нават і «тонкія цаніцелі музыкі». Яны ўселіся каля прыёмніка, які другія суткі не змаўкаў, і з асалодай слухалі пяшчотныя гукі скрыпкі, час ад часу ляскаючы сябе па баках.

Тры дні хрусцелі кансервавыя банкі ў магутных сківіцах мішак, трое сутак не ведала спакою Зіна. Толькі на чацвёрты дзень удалося дзяўчыне выскачыць з палаткі і схавацца ў лесе.

Вечарам таго ж дня ў лагер вярнуліся мужчыны. І толькі пасля таго, як адзін мядзведзь быў паранены, спынілася баляванне чацвераногіх. Мядзведзі пакінулі лагер, апошні ж з іх нават захапіў з сабою мяшок мукі. Вось які запаслівы «гаспадар»!

Гэты незвычайны баль здзівіў нават такіх таёжнікаў, якія ўсё жыццё правялі ў тайзе і гарах. Спрактыкаваныя людзі тлумачылі гэтую з'яву мядзведжым гонам (вясельны перыяд), калі мядзведзі збіраюцца на сваіх аблюбаваных палянах у глухіх кутках някранутай тайгі.

### Чым быў здзіўлены радыст

Бадзёрасць і ажыўленне пануюць сёння ў далёкім лагеры тапографаў. На базу павінен вярнуцца атрад, які больш двух месяцаў працаваў у глухіх, цяжка даступных таёжных «квадратах». З нецярпеннем чакаюць сваіх сяброў, клапатліва рыхтуюцца да цёплай сустрэчы. А колькі новых, цікавых вестак і расказаў прынясуць тапографы ў лагер!..

Але, мабыць, больш за ўсіх чакаў сваіх таварышаў радыст Бора. Яго ўвесь час непакоіла загадкавая радыёграма, у якой гаварылася: «Твайго турыста здаў Мікалаю. Ён ледзь шаптаў. Казакевіч».

Казакевіч — начальнік атрада. Некалькі дзён назад ён адправіўся ў тайгу насустрач людзям, якія вярталіся з нялёгкага паходу.

Ніхто не ведаў, аб якім турысце паведамляў Казакевіч у сваёй радыёграме. А словы **«твайго** турыста» ні на хвіліну не выходзілі з Боравай галавы.

Нарэшце ўсе прыгатаванні да сустрэчы былі закончаны. У вёдрах дымілася згатаванае мяса марала, пасвісталі парай гарачыя чайнікі.

І вось дачакаліся. Радасныя воклічы разнесліся па лесе:

— Едуць, едуць!..

У адказ ужо зусім блізка адсалютавалі некалькі стрэлаў, расекаціўшыся рэхам у гарах.

Хутка змораныя, але вясёлыя барадачы трапілі ў абдымкі сваіх сяброў. Разам разгружалі не менш змораных і ўспацелых коней. Пытанням і адказам не было канца.

Начальнік атрада, разгарнуўшы тут жа на траве карту, нешта расказваў тапографам, якія абступілі яго з усіх бакоў. А там ужо кухар з ручніком на плячы ўвіхаўся каля стала і ветліва запрашаў усіх перакусіць. Толькі радыст стаяў збоку і разгублена азіраўся, трымаючы ў руцэ лісток з загадкавым паведамленнем. Калі ж начальнік атрада паклаў, нарэшце, у планшэт складзеную карту, радыст падышоў да яго і нясмела спытаў:

— А дзе ж турыст, які... шаптаў?

— А-а-а... — Казакевіч хутка развязаў адзін з цюкоў і перадаў Бору нейкі скрутак, загорнуты ў брызент. — Дрэнна, браток, ты накарміў у дарогу свайго турыста, — дадаў ён.

Бора разгарнуў брызент. Вясёлы рогат пракаціўся над палаткамі. Лагодная ўхмылка асвяціла і твар маладога радыста, — у руках ён трымаў паходны батарэйны прыёмнік з залацістым надпісам «Турыст».



Геолагі зноў сабраліся ў паход.

*Размова аб майстэрстве*

**Алег ЛОЙКА**

# БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ ВАЛАДАР

## ФАЛЬКЛОРНЫЯ ТРАДЫЦЫІ Ў ЛІРЫЦЫ ЯНКІ КУПАЛЫ

Слухай жа, сэрца,
песняў і казкаў.
**Янка Купала.**

Янка Купала з першага да апошняга дня сваёй творчасці не парываў сувязей з вуснай паэзіяй. Яна была для яго апорай у творчых пошуках, арсеналам вобразаў і матываў, узорам, раўняючыся на які, ён тварыў новае. І гэтае яднанне таленту паэта з талентам народа — адна з традыцый, якія нам у спадчыну пакінуў Я. Купала і якія наша паэзія творча развівае.

Сувязі Я. Купалы і народа, Я. Купалы і фальклору былі глыбокімі і шматграннымі. Пачаліся яны яшчэ ў дзяцінстве. Будучы паэт захапляўся дзівоснымі казкамі, песнямі, чутымі ў полі, на вяселлі, на вячорках. Прычым, калі гаварыць аб песнях, то гэта былі беларускія, рускія, украінскія, польскія народныя песні.

Пачаўшыся ў дзяцінстве, любоў да фальклору ніколі не пакідала паэта. Праўда, стаўленне Купалы да фальклору на розных этапах яго творчасці будзе розным: у дакастрычніцкі час— звязанае з рэвалюцыйным дэмакратызмам паэта, з ростам яго агульнаадукацыйнага ўзроўню, паэтычнага майстэрства; у савецкую пару — са станаўленнем на рэйкі сацыялістычнага рэалізма, з апяваннем новай сацыялістычнай явы.

З самага пачатку адносіны Я. Купалы да народнай паэзіі былі творчымі, наватарскімі. Яны складваліся як філасофскае пераасэнсаванне народнага сюжэта, матыва, вобраза. Паэт напаўняў традыцыйныя вобразы і матывы новым зместам, выкарыстоўваў іх дзеля мастацкага вырашэння надзённых тэм і праблем. Ён імкнуўся да з'яднання ў арганічным мастацкім цэлым фальклорных традыцый з традыцыямі класічнай паэзіі, да спалучэння народна-песеннай плыні з рамантычнай.

Ужо дакастрычніцкі зборнік вершаў «Жалейка» — паказны ў гэтых адносінах. Напоўненыя подыхам рэвалюцыі, вершы «Жалейкі» па форме падачы думкі, па вобразна-выяўленчых сродках можна падзяліць на народна-песенныя (песня, плач, сказава-песенныя творы, дзе пераважаюць выяўленчыя сродкі, характэрныя для вуснай паэзіі) і ўласна-лірычныя (маналагічны роздум, заклік, зварот, дзе большасць выяўленчых сродкаў ідзе ад класічнага верша).

Такая «двухстылёвасць» «Жалейкі» абумоўлена маладосцю, няспеласцю паэта. Але ўжо тады ім былі напісаны некаторыя выдатныя вершы («Мужык», «А хто там ідзе?..»), сіла якіх — у арганічнай еднасці класічных традыцый і нацыянальнай народна-песеннай асновы.

Будучаму паэту, які з дзяцінства адчуў на ўласнай спіне ўсе цяжкасці паднявольнага жыцця ва ўмовах сацыяльнай няроўнасці, перш за ўсё запамяталіся тады і палюбіліся на ўсё жыццё народныя творы з ярка выражанай антыпамешчыцкай накіраванасцю. Гэта ж невыпадкова адной з любімых песень Купалы была:

Зайшло сонца,
Узышоў месяц.—
А нашага пана
Вядуць вешаць.
Няхай жа ён праветрае,
Можа заўтра палепшае.

З фальклорнай спадчыны Я. Купала браў найбольш тое, што імпанавала яму, па-першае, як рэвалюцыйнаму дэмакрату, па-другое, як таленту лірычнаму.

Нельга не прыкмеціць, як паступова расшыралася выкарыстанне традыцыйных вобразаў у Купалы. У «Гуслярах» іх больш, чым у «Жалейцы»: да вобразаў светлых і цёмных сіл далучаюцца вобразы жывой вады, крыніцы, лірніка, гусляў-самаграяў і іншыя. А класічны дарэвалюцыйны зборнік вершаў Купалы «Шляхам жыцця» дае наогул энцыклапедычнае іх багацце.

Да адбору традыцыйных вобразаў і матываў фальклору Купала падыходзіў крытычна. У беларускім фальклоры пачатку XX стагоддзя хапала, напрыклад, перажыткаў старажытнага светаразумення, рэакцыйнай хрысціянскай маралі, забабонаў, народжаных цемрай і невуцтвам простага люду. Я. Купала падхопліваў і развіваў менавіта здаровую плынь фальклору. Як лірык, ён шырока абапіраўся на сучасную яму беларускую народную песню, а не на архаічныя пласты фальклору. Выбар Купалы-лірыка, такім чынам, цалкам падаў не на казачна-фантастычныя вобразы, а на песенна-паэтычныя. Казачна-фантастычныя сустрэнуцца часова ў рамантычнай, драматызаванай паэме «Сон на кургане», але Купала-лірык, аднак, захапляцца імі не будзе.

Песенна-паэтычная вобразнасць лірыкі дарэвалюцыйнага Купалы ўзнікала са спалучэння традыцыйных вобразаў і ўстойлівых эпітэтаў (горкая доля, чорная нядоля, здрадныя хмары, пот крывавы, зялёны садочак, яснае сонейка, белы свет, конь вараны), з шырокага выкарыстання эпітэтаў, выражаных назоўнікам - прыдаткам (слёзы-іскры, слёзы-росы, дудар-званар, ягада-рабіна), з ужывання падвойных дзеясловаў (успамінаць-праклінаць, ідзе-брыдзе, плача-галосіць), таўталагічных выразаў (вольная воля вострым востра, шумна шуміць) і інш.

Гэтыя фарбы відавочна блізкія з вобразнасцю беларускіх народных песень. Але калі ў народнай песні знойдзеш словы аб нядолі і цёмнай ночцы, дык наўрад ці сустрэнеш у ёй словы аб чырвоным поце і дыме чырвоным, слёзах-іскрах і шумным шуме, песнях хмары хмурней і да іх падобных.

Такім чынам, у духу народнай творчасці, па яе ўзору, на грунце купалаўскага таленту расцвіталі новыя эстэтычныя формы, народнае ўзбагачалася фантазіяй паэта, даючы непаўторную вобразнасць.

Абапіраючыся на народную песню, Купала шырока выкарыстоўваў і яе матывы. У яго дарэвалюцыйнай лірыцы знойдзеш матывы народных любоўных, сямейных, чумацкіх, рэкруцкіх, гумарыстычных і іншых песень. І тут перш за ўсё кідаецца ў вочы творчае абнаўленне ў Купалы традыцыйнага матыву, пераасэнсаванне яго, наданне яму сацыяльнага падтэксту.

Як на характэрны прыклад, спашлемся на верш Купалы «Былі ў бацькі тры сыны» (1907). Прывядзем адзін з варыянтаў аднайменнай беларускай народнай песні ў запісу Я. Раманава.

Было ў бацькі тры сыны—іх-вох!
А ўсі ж яны Васілі—іх-вох!
Адзін конікаў пасець,
Другі лапцікі пляцець,
Трэці сядзіць на каменю
Дяржыць дуду на раменю.
Атарвалася дуда, пайшла яна
кульгаючы,
На тры пядзі ступаючы.
А ці дудка ж была, весялушка была,
Весяліла ж мяне
На чужой старане.

Гумарыстычная ў сваёй аснове, гэтая народная песня з'явілася своеасаблівым прататыпам вядомага верша Я. Купалы «Былі ў бацькі тры сыны». У ім, нібы ў народнай песні, той жа матыў трох сыноў, такі ж рытміка-інтанацыйны склад. Ды як непадобны яны зместам — гумарыстычная песенька і верш аб сурова-трагічным лёсе беларускага дарэвалюцыйнага селяніна, лёсе цэлага тагачаснага маладога пакалення працоўнай вёскі!

Былі ў бацькі тры сыны,
Ды ўсе ж яны Васілі.
Адзін служыць у двары,
Поле панскае арэ;

Другі стражнікам з іх стаў,
Куляй, шабляй засвістаў;
Трэці згінуў у баю
За свабоду і зямлю.

Бацька ў вёсцы сваёй спіць
І дуда пры ім ляжыць;
Ён часамі дзьме ў яе,
Песню нудную пяе:

Ой ты, дудка, ой, дуда!
Бяда жыці мне, бяда!
Не вяселіш ты мяне
У маёй беднай старане.

Ад зборніка да зборніка адносіны Я. Купалы да выкарыстання народна-песенных матываў змяняліся. Паэт ішоў ад тэкстуальнай блізкасці народнай песні з яго вершам да арганічнага растварэння народнага матыву ў лірычнай стыхіі песень-зваротаў, плачаў, роздумаў, заклікаў, ад паглыбленай апрацоўкі матываў адной песні ў адным вершы да арганічнага зліцця — зрошчвання шэрагу матываў розных песень у адным вершы.

Цікавым узорам зліцця-зрошчвання ў адным сюжэце некалькіх народна-песенных матываў з'яўляецца верш «Над ракою у спакою»:

Над ракою у спакою
Зацвітала каліна;
У сяле за ракою
Вырастала дзяўчына.

Да зялёнай каліны
Прылятала зязюля;
Да дзяўчыны-маліны
Удаваўся Януля... і г. д.

Поруч з відавочнай сувяззю гэтага верша з любоўнай народнай песняй адзначым сувязь яго з рэкруцкімі, ваеннымі песнямі, падобнымі той, што прыведзены ў Раманава:

Што і ў лузе каліна стаяла,
На каліне зязюля сядзела,
Усім гусарам перамену пела...

Тэкстуальным супадзенням вершаў Купалы з народнай песняй, якія сустракаліся на пачатку паэтычнага шляху Купалы, спадарожнічала шырокае ўключэнне у тэкст лірычных песень прыказак і прымавак. Пазней ад увядзення ў лірыку падобных эпічных элементаў Я. Купала безумоўна адмаўляецца.

Характэрна, што на некаторыя вершы Купалы поруч з народнай песняй уплывала народная казка з яе традыцыйнымі выслоўямі, прыёмамі апавядання. У зборніку «Гусляр» адзін з вершаў так і называецца — «Песня-казка». Сама яго назва паказвае на яднанне ў ім песеннага і казачнага. І сапраўды — казачны сюжэт, характэрная для казкі манера выкладання зместу ў «Песні-казцы» ўдала спалучыліся з песенна-народнай вобразнасцю, з адмоўным паралелізмам і іншым.

Сюжэтамі нешматлікіх дарэвалюцыйных эпічных ці ліра-эпічных вершаў Купалы ў большасці выпадкаў з'яўляюцца сюжэты народных песень, народнае паданне. Як правіла, паэт сацыяльна завастрае іх («Канюх», «Жыў на свеце Лявон...», «Братка і сястрыца»).

Адным з архітэктанічных прыёмаў народнай песні, з самага пачатку шырока ўжываных Купалам, быў так званы паралелізм. Купала, успрыняўшы гэты ўстойлівы кампазіцыйны прыём, поўны экспрэсіўных мажлівасцей, зноў жа выкарыстоўваў яго дзеля раскрыцця надзённай тэматыкі, рэвалюцыйнай мэтанакіраванасці («З песень аб няволі», «Плачуць мае песні», «Зашумеў лес разгуканы»).

Дзеля тых жа мэт выкарыстоўваў Купала шырока распаўсюджаны ў народных песнях прыём паэтычнага звароту (да кагосьці ці чагосьці). Але ёсць вялікая розніца ў выкарыстанні гэтага прыёму ў народнай песні і Купалам.

У народных песнях пяецца:

Мароз мой, мароз, не змарозь мяне:
баюся я цябе,
З паходу ідучы, каня ведучы, збрую
несучы.
Збруечка мая сярэбраная, долечка мая
нешчаслівая...

Або:

Ой, палын ты мой, палын, палын—
горкая трава,
Што гарчэй цябе, палын, у чыстым
полі няма...

І ў Купалы можна знайсці падобныя звароты. Аднак паэт не абмяжоўваецца імі, не захапляецца, як народная песня, зваротамі да прадметаў, скажам, земных, а то і зусім прыземленых. На крыллях натхнення ўзлятае ён над зямлёю, як брат сонцу, ветру, зорам, высям паднебным. Узлёты лірычнага героя Купалы, яго запанібрацкасць з сусветам надаюць паэтычным зваротам рамантычнае харастьво, не парушаючы народнасці формы верша, што вырасла з фальклорнай традыцыі. Адзін з характэрных прыкладаў таму — верш «За свабоду сваю»:

Гэй ты, гэй, вецер, пей
А свабодзе маей!.. і г. д.



Асваенне архітэктонікі народнай песні ў Купалы ішло ад першапачатковага захаплення знешнімі атрыбутамі народнай песні, тым, што ляжала ў ёй на паверхні, да глыбокага пранікнення ў красу народных форм. Звязана гэта было з развіццём таленту паэта, з ростам яго эрудыцыі і паэтычнага майстэрства.

Паралелізм у страфе, пытанне-адказ, як яе аснова, пераважаюць у «Жалейцы». У паэтычную задуму вершаў сіметрыя тут пакуль што яшчэ не пранікае.

Сутнасць большасці паэтычных задум вершаў «Жалейкі» — у нараканнях на горкую долю, паднявольнае жыццё, пададзеных з пэўным нарошчваннем эмоцый. У канец верша заўсёды выносіцца найбольш эфектыўнае нараканне ці праклён.

У вершах, пабудаваных па сіметрыі пытання-адказу, таксама ідзе паступовае напластаванне вобразнага матэрыялу паводле яго важкасці і эмацыянальнага накалу, а ў канцы даецца заключны, магутны акорд («А хто там ідзе?»).

Пазней з'яўляюцца ў Купалы вершы больш ускладнёнай кампазіцыі: пытанне-адказ-рэзюмэ, як у вершы «А хто маю долю пойме»; страфа з паралелізмам пачынае раскрываць не толькі перажыванні лірычнага героя, а і пэўныя падзеі, узаемаадносіны герояў, як у вершах «Выйду, выйду...», «Бяжыць шыбка ручаінка...».

Як сведчанне мастацкай спеласці, глыбіннага разумення Купалам сіметрычнай гармоніі народнай песні ўзнікаюць яго шматлікія вершы са зборніка «Шляхам жыцця» («Зоркі», «Падсякайце тое дрэва...», «Ты прыдзі...» і іншыя).

Адзін з характэрнейшых — «Зоркі»:

Ночкай, як толькі выходзіў я з хаты,
Зоркі на небе страчаў я чатыры;
Кожны раз зводзіў іх вогнік крылаты,
Хоць к ім з малітвай узносіўся шчырай.

Першая—бацькава зорка яснела,
Маткі—другая глядзела ў свет горка,
Трэцяя мне мігацела нясмела,
Роднай зямелькі—чацвертая зорка.

Першая згасла навекі не ў часе,
Звольна губляе бліск свой другая,
Трэцяя сумнаю мглой спавілася,
Толькі чацвёртая лепей міргае.

Сіметрыя тут — у самой паэтычнай задуме верша. Класічнасць гэтага верша — у яго грамадзянскім пафасе і чалавечнасці, у зліцці народна-вобразных традыцый з лірычнай тэмай, рамантычнай узнёсласцю.

Трэба яшчэ раз падкрэсліць, што майстэрства ў аваладанні фальклорнымі традыцыямі вырастала ў Купалы з расшырэннем яго кругагляду.

Віленскі перыяд жыцця, праца ў бібліятэцы «Знание» і, асабліва, рэвалюцыйны ўздым 1912 — 1914 гадоў, курсы Чарняева, уплыў Б. Эпімах-Шыпілы, чытанне беларускіх фальклорных матэрыялаў, расшырыўшы кругагляд Купалы, унутрана падрыхтавалі паэта да напісання лепшых вершаў зборніка «Шляхам жыцця», вершаў 1914 — 1915 гадоў. І сярод іх перш за ўсё трэба назваць «Маладую Беларусь», «Я ад вас далёка...», «Зоркі», «З кутка жаданняў», «Не судзіла доля», «Мусіць трэба было», «Вясна 1915-ая», санеты 1915 года і іншыя. Менавіта ў іх арганічна зліліся беларуская фальклорная, песенна-народная традыцыя, лірычная ўсхваляванасць, драматычная напружанасць, рамантычная ўзнёсласць Купалы і традыцыі высокай класічнай паэзіі Пушкіна, Міцкевіча.

У названых вершах фальклорная традыцыя глыбока адчуваецца ў кожным вобразе і матыве, у самой задуме вершаў, у гармоніі іх частак, у мелодыцы радка. У гэтым арганічным яднанні фальклорнай традыцыі і творчай фантазіі было вышэйшае дасягненне дакастрычніцкага Купалы-лірыка.

Новыя шырокія магчымасці асэнсавання і мастацкага асваення фальклорнай традыцыі адкрыліся перад паэтам у савецкі час у сувязі з росквітам пасля Кастрычніка беларускай літаратуры, з ростам яе ідэйна-мастацкіх якасцей.

Новае стаўленне да фальклору прыйшло да Я. Купалы не адразу. Яно адбывалася ў сувязі са станаўленнем Я. Купалы на пазіцыі сацыялістычнага рэалізма. У гэты час з'яўляецца шэраг вершаў паэта — «На смерць Сцяпана Булата», «Арлянятам», «Дзве сястры», «Шляхам гадоў», «З угодкавых настрояў», «Сыходзіш, вёска, з яснай явы...», «Дыктатура працы», як сведчанне таго, што ў песнях Я. Купалы «павыраслі крыллі».

У гэтых вершах зусім прыкметны новы працэс пераасэнсавання традыцыйных для Купалы вобразна-выяўленчых сродкаў, напаўнення іх новым сацыяльна-гістарычным зместам. Цяпер пераасэнсоўваўся не толькі сам традыцыйны народны вобраз, матыў, а ўсе вобразна-выяўленчыя сродкі дакастрычніцкай паэзіі.

Побач з пераасэнсаваннем раман-

тычных вобразаў ішло пераасэнсаванне і звязаных з песенна-народнай традыцыяй больш ці менш рамантызаваных вобразаў долі (цяпер яна паэтызуе долю — шчасце народа), сонца, сакалінай славы, арлоў-сакалоў.

Такім чынам, на працягу 20-х гадоў у стылі Я. Купалы складаўся новы комплекс вобразнасці — вобразаў арлянят, вярнігораў, вольных сейбітаў, новых казак-баек, «дум палаючых цвету», «нечувалых яснот», «чарадзейнага карагоду», «неабсяжнай свабоды», «волі агняцветнай», «агністых сярпа і молата» і іншых. У іх, кажучы словамі А. В. Луначарскага, выражалася рэвалюцыйная радасць беларускага паэта. Ім супроцьстаялі вобразы, што ўвасаблялі паднявольнае мінулае, ворагаў Краіны Саветаў — вобразы «крыўды векавечнай, вечнага цярпення», «катаванняў, пагромаў, шыбеніцаў, пажараў», пут-кайданаў, разбойнікаў-катаў, «благой цьмы», ліхалецця, крыжоў, сох, барон, курных хат, прасніцы і кудзелі і іншых. Як відаць, пераважная большасць гэтых вобразаў была звязана з песенна-народнай традыцыяй.

Этапным, як бы праграмным, у новым стаўленні паэта да фальклору з'явіўся верш «Сыходзіш, вёска, з яснай явы...» (1929). Паэт упісваў у паэзію беларускага народа новыя вобразы, сцвярджаў іх усёй сілай свайго таленту, насуперак усялякім «паэтычным традыцыям» супастаўляў «жалеек спеў гаротны» «трактарнаму колу», што іх патопча; лясуна, русалак, і вадзяніка—сонцу ў срэбных шыбах, электрыцы ўладарнай». І гэтым электрыка і трактар станавіліся вобразамі нашай паэзіі — не толькі словамі з пэўным лексічным значэннем, а менавіта паэтычнымі вобразамі, увасабленнем новага жыцця, новага лёсу народа.

Як сон маркотны, нежаданы,
Сыходзіш, вёска, з яснай явы...
...Тваіх жалеек спеў гаротны
Патопча трактарнае кола,
А сейбіт твой, дасюль самотны,
Абцёршы сонцам воблік потны,
Пад крыж не пойдзе енчыць квола.

Традыцыйны вобраз жалейкі, а поруч — трактар, прадмет, здавалася б, далёкі ад паэзіі, ад народнай песні, на якой выхоўваўся Я. Купала. Але паставіў яго паэт поруч са спрадвечнай «паэтычнай» жалейкай, поруч з рамантычным «абцёршы сонцам воблік потны», і слова «трактар» зайграла бляскамі паэзіі, увайшло ў песню, як роднае ёй, стала цэнтральным вобразам, выражаючы задуму паэта, стала эстэтычным адкрыццём, наватарскім у самой аснове.

Таксама ж арганічна ў народнасць купалавай паэзіі ўвойдуць вобразы дыктатуры працы, «чырвоных абозаў з хлебам», «смелай рэканструкцыі», што ішла «па заводах, па полі, па думках», бальшавіцкай партыі, соцспаборніцтва, камбайнаў і сіласных вежаў — усяго таго, што вызначала сабою воблік новай, савецкай Беларусі. Гэта здарыцца на парозе 30-х гадоў. Вершы Я. Купалы стануць узорамі сацыялістычнага рэалізма, нацыянальныя па форме, сацыялістычныя па зместу. Прычым сама нацыянальнасць іх форм будзе ў значнай ступені і перш за ўсё абумоўлівацца фальклорнымі традыцыямі.

Паэзія Я. Купалы, услаўляючы сацыялістычную Беларусь, абнаўляючы сваю вобразнасць, і на новым этапе жыве ўсё той жа стыхіяй усхвалявана лірызму, раматычна-ўзнёслым пафасам, напружанай драматычнасцю лірычнай споведзі, заклiку, роздуму, развагі, звароту.

Мабыць, рамантычная ўзнёсласць вершаў Я. Купалы савецкага часу больш за ўсё праявілася ў «абыгрыванні» ім вобраза сонца:

З усмешкай мы жыццю глядзім у вочы,—
Судзіла доля шчасце на вяку, —
Збіраем кветкі папараці ўночы,
Днём з ясным сонцам ходзім пад руку...
(«А мы сабе сеем і сеем...»)

Мы ідзем у сонцы з сонцам
Маладым паходам.
Слава бацькаўшчыне нашай
І яе народам!
(«Нашаму святу»).

Як набралася моцы
Матчына дачушка,
Паляцела да сонца
Пералётнай птушкай.
(«Алеся»).

У вадзіцы ў крынічнай
Чысценька памыйся,
Прыбярыся ў кветкі-краскі,
Сонцам атуліся...
(«Беларусі ардэнаноснай».)

Рамантычны пафас, «сонечны» лірызм гэтых вершаў арганічна зліўся з песенна-народным «судзіла доля», з традыцыйнымі вобразамі пералётнай птушкі, крынічнай вадзіцы, кветкі-папараці, з так уласцівай фальклору памяншальнай формай «чысценька», з



кантраснасцю ночы і дня, такой незвычайнай у новых умовах, бо і дзень і ноч дораць шчасце народу, з паралелізмам кампазіцыі «Алесі», з такім уласцівым народнай песні зваротам да кагосьці... І ці не ў гэтым увесь Купала — паэт арыгінальны, пясняр народны?..

Асобна хочацца спыніцца на рытме і інтанацыях гэтых вершаў.

Суладная народная песеннасць радкоў з «Беларусі ардэнаноснай» мяжуе з каламыйкавай танічнасцю «Алесі», «складаў раскацісты ход» верша «А мы сабе сеем і сеем...» — з урачыстай бадзёрасцю марша ў песенным «Нашаму святу».

Гэтыя «рытму мастацкія звівы», «гармонія... у песельным складу», іх разнастайнасць, багацце, класічнае гучанне — яно стала ўласцівым Купалу савецкага часу. Параўнайце вершы Я. Купалы да- і паслярэвалюцыйнага перыяду. Нават тыя, аб якіх мы гаварылі, як аб найлепшых узорах дакастрычніцкага часу, маюць рытмічныя перабоі, абцяжараны перагрузкай слоў у радку, зацямняюцца часам збегам-скопішчам зычных. Падобныя агрэхі цяжка знайсці ў вершы Я. Купалы 30-х гадоў — гарманічным, празрыстым. Бо як майстар Я. Купала вырас, як вырасла па сваіх ідэйна-мастацкіх якасцях і ўся беларуская савецкая літаратура.

У дакастрычніцкі час сувязі Я. Купалы з фальклорнай традыцыяй ішлі па лініі шырокага асваення вобраза, матыву і кампазіцыйнай гармоніі беларускай народнай песні. У гэтым жа напрамку ішлі яны і ў савецкі час, толькі што з яшчэ большай актыўнасцю, узносячы паэта да вяршынь яго лірыкі («Лён», «Вечарынка» і іншыя).

Новае, чым вызначалася цяпер стаўленне да народнай песні, было ў паглыбленай цікавасці паэта да рытміка-інтанацыйнага складу песні. У аснову паэтычнай задумы верша «Лён» — гэтага апафеозу працы і кахання, што нараджаецца ў натхнёнай працы, — лягла ўж даўно прыкмечаная паэтам кампазіцыйная схема, якую ён выкарыстоўваў яшчэ ў вершах «Гусляра». (У яе аснове цыклічнасць падзей, звязаная са зменай пор года, з сельскагаспадарчай працай.) Але толькі ў савецкі час, калі свабодная праца стала сапраўднай радасцю, мог з'явіцца «Лён» — твор светлы і аптымістычны. Ён прасякнуты лірычнай цеплынёю і сяброўскай усмешкай. І ўсё гэта — песенна-народная традыцыя ў яе класічным, купалаўскім пераўвасабленні.

А як слала я лянок
На зялёным на лугу,
Дзе папаўся Міхасёк,
Цалавала набягу.

Сэрцу лёганька было,
Цэлы свет—вясёлы рай,
Хоць і восень, а свята
Так і льецца цераз край.

Ой, лянок, лянок мой чысты,
Валакністы, залацісты!..

Аднак сама гармонія частак, падказаная архітэктанічнымі традыцыямі народных песень, у гэтым вершы засталася б мёртвай схемай, каб не плоць і кроў верша — яго рытм, мелодыка, эмацыянальная насычанасць, паэтычная барвнасць. І паглядзіце, колькі тут ад народна-песеннай традыцыі: паралелізм першага чатырохрадкоўя, кантраснасць вобразаў у другім, прыём звароту ў заключных радках, традыцыйны «зялёны луг», памяншальныя «лянок», «Міхасёк», «лёганька», запеўнае «ой!» і, нарэшце, сам вольнапльінны песенны лад.

Такога верша не магло быць у дарэвалюцыйнага Купалы.

Істотна розным, чым у дакастрычніцкую пару, было выкарыстанне Купалам і традыцыйных матываў. Цяпер часцей за ўсё той ці іншы матыў, традыцыйны сюжэт народнай песні заахвочваў паэта да стварэння новай песні. Так узніклі «Сыны» — красамоўны верш аб лёсе народа, разнявоlенага рэвалюцыяй, несумненна падказаны паэту народнай песняй, у прыватнасці, песняй «Было ў бацькі тры сыны», аб якой мы ўжо гаварылі. Так узніклі эпічна-песенныя «Выпраўляла маці сына...», «Як у госці сын прыехаў...», якія ўжо сваёю назвай выяўляюць блізкасць да матываў народных песень.

У змест вершаў Я. Купалы матывы народных песень пранікалі цяпер толькі ў адным выпадку — калі паэт пісаў для дзяцей. «Бай», «Лявоніха», «Юрачка» — усё гэта вершы арыгінальнай паэтычнай задумы, але ў кожным з іх жыве рэха народнай песні, яе матываў, лагічных ходаў і рытму. Выкарыстоўваючы народныя вобразы і матывы ў дзіцячых вершах, Я. Купала гэтым як бы ўказваў на адзін са шляхоў, дзе традыцыйны народны вобраз і матыў могуць і сёння ўдзячна паслужыць паэту. І пра гэта не павінна забываць наша паэзія.

Цікава тое, што некаторыя матывы беларускіх дарэвалюцыйных народных песень, і асабліва вобразы, падказаныя Я. Купалу народнай трады-

цыяй калісь, да рэвалюцыі, яшчэ раз непасрэдна, хаця і на момант, ажылі пад пяром Купалы 30-х гадоў. Гэта здарылася ў векапомным верасні 1939 года, калі, уславіўляючы радасць уз'яднання, паэт з болем апавядаў аб панскай няволі («Верасень месяц...», «Ой, павей, вецер!..», «Калыханка», «Ты мне песню спей, дзяўчына...», «З новай думкай»).

Уставала рана,
Лажылася позна,
І ў сне чула панаў
Голас хрыплы, грозны.

З горкай, цяжкай долі
У пякельнай нетры,
Як былінка ў полі,
Гнулася ад ветру.

Чытаючы радкі верша «Ты мне песню спей, дзяўчына...», нельга не адчуць, сувязь яго з беларускай народнай песняй. Ды і само параўнанне з былінкай, што гнецца пад ветрам, — як яно знаёма па народных песнях, якія апявалі колішнюю жаночую долю!..

Цікава, што адзін з вершаў на заходне-беларускія матывы («З новай думкай») напісаны памерам дарэвалюцыйнага верша Я. Купалы «Не пагаснуць зоркі ў небе». Факт, нам здаецца, не выпадковы. Верш «Не пагаснуць зоркі ў небе» ва ўмовах барацьбы працоўных Заходняй Беларусі за ўз'яднанне з Краінай Саветаў стаў народнай песняй, мастацкім выражэннем веры народа ў светлую часіну. Усенароднасць верша-гімна як бы парадзіла купалаўскі верш-адказ, песню здзейсненых мар, якая жыла традыцыямі песень барацьбы і надзей.

У адным са сваіх вершаў 30-х гадоў Я. Купала гаворыць, што песня яго

...ад казак, чароўных тых сноў,
Што сталіся яваю нашага дня...

Гэтым паэт як бы лішні раз сцвярджаў пераемную сувязь сваёй паэзіі савецкага часу з рамантычнымі ўзлётамі-марамі сваёй дарэвалюцыйнай творчасці. Рамантычная мара колішняга Купалы стала явай, ява — новай песняй Купалы, у якой рамантыка, казачнасць—рэальныя. Беларусь «цёмная, убогая», аб шчасці якой колісь сніў-марыў Я. Купала,

Выцерла слёзы, пайшла ў свет дарогаю
Побачкі з сонцам, дарогаю слаўнаю.
...Воля і доля над доламі, горамі
Госціць у нас цудатворнаю казкаю...

Сцверджанне рамантычнымі вобразамі не мар аб лепшым будучым, а раскрыццё праз іх рэальнага сонечнага сёння, раскрыццё ў непарыўнай сувязі з духам народнай творчасці беларусаў — ці не ў гэтым тое асноўнае, што характарызуе рэалізм Я. Купалы як рэалізм сацыялістычны, як паэзію, сацыялістычную па зместу, нацыянальную па форме?..

Аналізуючы паэтыку Купалы 30-х гадоў, нельга, вядома, не прыкмеціць шэрагу ўстойлівых прыёмаў і выяўленчых сродкаў, традыцыйных для народнай паэзіі: адухаўленне з'яў; кантраснае іх супастаўленне: паралелізм; прыём звароту; традыцыйныя гай, доля, воля і інш.; азначэнне, выражанае прыдаткам; формы «позна-рана», «ночкай ці днём», «ад краю да краю», «ці то ўзімку, ці то летам», «ці сонца ці зоры» і іншыя.; запеўнае «ой!» і іншае.

Аднак пералічаныя вобразна-выяўленчыя сродкі толькі адна з характэрных стылёвых адзнак паэзіі Я. Купалы, і не ёю вымяраецца ўся глыбіня яднання таленту Я. Купалы з фальклорам.

Красамоўнейшым прыкладам непарыўнай сувязі Я. Купалы з самім духам народнай творчасці з'явіўся і адзін з апошніх яго вершаў — песня-заклік «Беларускім партызанам».

Мужны рытм. Суровая інтанацыя. Натхнёныя словы звароту:

Партызаны, партызаны,
Беларускія сыны!
За няволю, за кайданы
Рэжце гітлерцаў паганых,
Каб не ўскрэслі век яны.

Змрочны рамантычны малюнак фашысцкай навалы, разбурэнняў, і зноў той жа заклік помсціць:

...Хай груган іх косці ліча,
На бяседу соваў кліча,
Баль спраўляюць на касцях,
Няхай Гітлеру-вампіру
Клююць сэрца, смокчуць кроў!..

Нібы з чумацкіх, рэкруцкіх песень — песень колішняй народнай нядолі — ажылі гэтыя вобразы груганоў і соў!.. Гітлер-вампір!.. І вы ўжо ненавідзіце яго, як ненавідзелі крыважэрнага упыра — страшылішча з беларускіх народных казак, ненавідзіце гэтую дзікую здань-патарочу, што ажыла на момант з сярэдневяковых забытых паданняў, гэтую чорную ноч, што захіліла песенны дзень-сонца. «Дык хай жа гіне ліхадзей!» — усклікаеце вы за паэтам.



Колькі нянавісці, веры ў перамогу і сілы ў гэтым вершы — нянавісці, веры, сілы народнай! Еднасць паэта з жыццём народа падказалі яму цяпер, як падказвалі і заўсёды раней, патрэбныя словы, што адразу ж западалі ў душу народа, бо былі яны ад яго, народа, душы...

Сапраўды шматгранным і глыбінным было яднанне Я. Купалы і народа, лірыкі паэта і фальклорнай традыцыі. Гэта яднанне — непаўторная з'ява, як непаўторны ў сваёй велічы быў талент Я. Купалы, непаўторны ў сваёй гістарычнай векапомнасці быў яго жыццёвы і творчы шлях.

Вопыт купалаўскага асваення фальклору вучыў, вучыць і будзе вучыць не адно пакаленне нашых паэтаў. Развіваючы гэтую купалаўскую традыцыю, вядомымі самабытнымі паэтамі сталі П. Броўка, А. Куляшоў, М. Танк, П. Панчанка, М. Лужанін, А. Вялюгін і другія. Прычым, і гэта вельмі характэрна, кожны з іх, ідучы ад Купалы, знаходзіць сваю лінію поступу: імкнецца спалучыць фальклорную традыцыю з пэўнай стылёвай плынню, так ці інакш дэфармуючы ўжо бачаныя каларыт і адценні вобразнасці, чутыя рытмы, інтанацыі і іншае.

Так, П. Броўка песенна-інтанацыйны народны склад яднае з выключна крыштальнай лірычнай плынню, і ў гэтым самабытнасць яго паэзіі. Ён жа не парывае сувязей з традыцыйнымі вобразамі, з прыёмамі адухаўлення з'яў прыроды, любіць параўнанні, падслуханыя з вуснаў народа («Паэзія», «Пахне чабор», «Белы барабаншчык»). Як і Купала, вобразна-выяўленчыя сродкі, падказаныя фальклорнай традыцыяй, П. Броўка паднавальвае раскрыццю тэм высокага грамадзянскага гучання («Размова з небам», «Праца»).

Сваім шляхам у паэзіі ідзе А. Куляшоў. Інтанацыйны лад народнай песні ён яднае з эпічнаю гутарковаю манерай, арганічна ўключае традыцыйныя вобразы ў сваю палітру яркіх, канкрэтна-ўяўных, з абавязковым падтэкстам вобразаў (паэмы «Сцяг брыгады», «Прыгоды цымбал»).

Багатае праламленне фальклорная традыцыя знаходзіць у паэзіі М. Танка. Майстар лірычнага верша, ён услед за Купалам шырока выкарыстоўвае традыцыі народнай песні. У яго знойдзеш вершы, пабудаваныя на паралелізме («На ўзгорку», «Не сячы сасны», «А што гэта за даліна...»), на пераасэнсаванні традыцыйнага вобраза, матыву («А колькі ў вас?..», «Падкова»). Часам у верш М. Танка арганічна ўплятаюцца радкі народнай песні. Поруч з традыцыйна-народнымі вобразамі вяснянкі:

Ой, зорка,
Ты бяры ключы звонкі,
Час зямлю адмыкаці,
Час расу выпускаці,

становяцца вобразы, калі можна так сказаць, тыпова танкаўскія:

Час будзіць гром у хмарах,
Ліст зялёны на вецях,
І каханне пажары
Час запаліць у сэрцы!..

І гэты прыклад — красамоўнае сведчанне яднання вобразна-інтанацыйнага складу народнай песні з рамантычна-каларытнымі вобразамі паэта.

Некаторыя з нашых паэтаў, захапляючыся фальклорнай традыцыяй, яднаюць традыцыйныя народныя вобразы з вобразамі рамантызаванымі, пабудаванымі на складаных асацыяцыях. Характэрныя ў гэтых адносінах вершы М. Лужаніна «Стукну-грукну», «Ручай» і А. Вялюгіна «Песня пры вогнішчы».

Такім чынам, пад пяром лепшых майстроў сучаснай нашай паэзіі купалаўскі запавет яднання з традыцыямі фальклору развіваецца з поспехам.

Імкнуцца ўнаследаваць яго і маладыя паэты, але іх намаганні недастаткова яшчэ актыўныя. Маладым перашкаджае, як нам здаецца, адсутнасць глыбокага разумення купалаўскіх традыцый і механічнае капіраванне фальклорных узораў, а таксама ўжо знойдзеных форм выкарыстання фальклорных традыцый. Вельмі рэдка чамусьці маладыя паэты «абыгрываюць» у сваіх вершах кампазіцыйную гармонію народнай песні.

Калі мы гаворым аб нацыянальных традыцыях нашай паэзіі, дык сярод іх самая адметная і яркая — яе сувязь з фальклорам. Сучасная беларуская паэзія, развіваючы і гэту традыцыю, зможа і надалей забяспечыць сабе вартае месца ў скарбніцы многанацыянальнай савецкай культуры.

## Выйшлі ў свет

**У Дзяржаўным выдавецтве Беларусі выйшлі з друку новыя кнігі:**

**Алесь Шашкоў. Сонца тушыць зоркі.** Апавяданні. 144 стар. Тыраж 6000 экз. Цана 2 руб. 40 кап.

Многія апавяданні зборніка прысвечаны жыццю калгаснай вёскі, узнімаюць праблемы дружбы, кахання, сям'і, маралі, этыкі. Героі іх — нашы сучаснікі.

**Мікола Лупсякоў. Ля пераправы.** Апавяданні. 152 стар. 10000 экз. Цана 1 руб. 65 кап.

У новы зборнік пісьменнік уключыў апавяданні аб мужнасці савецкіх людзей у гады Вялікай Айчыннай вайны і творы аб жыцці нашых сучаснікаў — моладзі калгаснай вёскі.

**Міхась Скрыпка. Мая хата не з краю.** 176 стар. Тыраж 10000 экз. Цана 1 руб. 65 кап.

Гэта зборнік сатырычных апавяданняў і гумарэсак пісьменніка, які вядомы ўжо чытачу па кніжцы баек і вершаў «Сатыра і гумар».

Апавяданні і гумарэскі М. Скрыпкі з поспехам могуць быць выкарыстаны гурткамі мастацкай самадзейнасці.

**А. Зенчанка. Вось яно, новае калгаснае сяло Сноў.** Нарыс. 32 стар. 7000 экз. Цана 30 кап.

Героі нарыса — звычайныя працаўнікі калгаса імя Калініна Нясвіжскага раёна, якія пакінулі хутары і пабудавалі новую, калгасную вёску.

**Павел Бранавец. Мацней за агонь.** Нарысы. На рускай мове. 84 стар. 5000 экз. Цана 90 кап.

Нарысы аб мужных і смелых змагарах з агнём — пажарніках нашай рэспублікі.

**Наш родны край.** Творчасць піянераў і школьнікаў рэспублікі. Зборнік. 80 стар. 8000 экз. Цана 2 руб. 55 кап.

Гэта своеасаблівая кніга. Аўтары яе — школьнікі Савецкай Беларусі, якія даслалі свае вершы, апавяданні, нарысы, малюнкі ў рэдакцыі газеты «Піянер Беларусі» і часопіса «Бярозка» на юбілейны конкурс, прысвечаны 40-годдзю БССР. Кніга багата ілюстравана рэпрадукцыямі з лепшых малюнкаў дзяцей.

**Сто тысяч стрэл.** Кітайская народная казка. 16 стар. Тыраж 50000 экз. Цана 1 руб. 30 кап.

Гэта кніжка для самых маленькіх. У ёй апавядаецца, як аднойчы, у даўнія часы, чужынцы падышлі да ракі Янцзы і пачалі рыхтавацца да пераправы, каб захапіць Кітай. Дарадчыкі кітайскага імператара бачылі адно выйсце — адступленне. І толькі просты селянін, перахітрыўшы ворагаў, выратаваў Радзіму.

Казку пераклаў на беларускую мову Янка Брыль. Кніга афармлена мастаком І. Някрасавым.

**Уладзімір Калеснік. Паэзія змагання.** Максім Танк і заходнебеларуская літаратура. 256 стар. 7000 экз. Цана 6 руб. 75 кап.

Манаграфія маладога літаратуразнаўцы прысвечана аналізу даверасьнёўскай творчасці Максіма Танка. У першым раздзеле кнігі аўтар гаворыць пра фарміраванне светапогляду паэта. У другім і трэцім раздзелах разглядаецца творчасць Максіма Танка перыяду ўздыму і спаду рэвалюцыйнай барацьбы працоўных заходніх абласцей Беларусі за ўз'яднанне. Падкрэсліваючы вялікую ролю паэта ў заходнебеларускай літаратуры, аўтар кнігі паказвае непарыўнае адзінства паэтычнай творчасці Максіма Танка з рэвалюцыйна-вызваленчым рухам таго часу.

**Міхаіл Лазарук. Пімен Панчанка.** Літаратурна-крытычны нарыс. 144 стар. 7000 экз. Цана 3 руб. 90 кап.

У кнізе прасочан дваццаціпяцігадовы творчы шлях вядомага беларускага паэта Пімена Панчанкі. Манаграфія гэта — карысны дапаможнік для старшакласнікаў, студэнтаў, настаўнікаў, выкладчыкаў вышэйшых навучальных устаноў, навуковых супрацоўнікаў і ўсіх тых, хто цікавіцца беларускай паэзіяй.

## Наша пошта

# НЕВЕРАГОДНАЯ ГІСТОРЫЯ

У адным з вагонаў прыгараднага цягніка Маладзечна — Гудагай рэвізор правяраў у пасажыраў білеты. Чарга дайшла да маладога чалавека.

— Ваш білецік, грамадзянін.

— Мама, пакажыце рэвізору білет, — ціха папрасіў хлопец жанчыну, якая сядзела побач.

Крыху пакапаўшыся ў кішэнях, жанчына падала рэвізору сезонны білет свайго сына і потым хуценька схавала яго.

Тое, што білет знаходзіўся не ў яго ўладальніка, рэвізора не здзівіла. Але калі гэтак стала паўтарацца, ён пацікавіўся ў юнака, чаму ён не трымае свой білет сам. І тут высветлілася, што ў маці захоўваюцца не толькі яго праязны білет, але і ўсе іншыя дакументы: пашпарт, ваенны білет...

Чаму? Вось тут ужо цэлая гісторыя, у якую цяжка нават паверыць.

Аркадзь С. жыве ў вёсцы Асанава Лебедзеўскага сельсавета. Ён — будаўнік па спецыяльнасці, выконваў са сваім братам Фёдарам малярныя работы на рынку ў Маладзечне. Тут ён пазнаёміўся з работніцай рынка Гэляй С. Юнак і дзяўчына пачалі сустракацца. Хутка яны шчыра пасябравалі. Ішоў час, неўзабаве іх сяброўскія пачуцці перараслі ў чыстае, харошае каханне. Прыемна было бачыць іх разам раднаснымі і шчаслівымі ў цягніку, у якім яны ездзілі пасля працы дадому, на вечарах моладзі, на танцавальнай пляцоўцы, сярод моладзі і ў Гэлінай вёсцы Зарудзічы.

Пачуцці маладых раслі і мацнелі. Яны парашылі, нарэшце, пажаніцца. І тут, як кажуць, пачалося нешта неверагоднае ў наш час.

Калі даведалася аб гэтым маці Аркадзя, дык катэгарычна сказала свайму даросламу сыну: «Тваёй жонкай гэта дзяўчына ніколі не будзе». Жанчыне чамусьці не спадабалася яе будучая нявестка.

Сын спрабаваў пераканаць маці, што яна памыляецца, што ён шчыра кахае Гэлю і без яе не ўяўляе свайго жыцця. Але ўсё дарэмна. Маці яго і слухаць не хацела. Яна паўтарала адно і тое ж: «Будзе так, як я загадваю».

Перш-наперш маці забрала ў сына ўсе дакументы. Пашпарт у яе, значыць, без яе дазволу шлюб зарэгістраваць немагчыма.

Усё святочнае адзенне Аркадзя маці схавала пад замок. У рабочым жа гарнітуры, думае, сын не паедзе да сваёй Гэлі. Аркадзь спрабаваў узяць дома гэтае адзенне сілком, але нічога з гэтага не выйшла: на баку маці стаялі сястра і брат.

А каб Аркадзь не сустракаўся з Гэляй на працы, маці штодзённа на працягу ўжо амаль чатырох месяцаў ездзіць разам з ім. Раніцай прыгарадным цягніком едзе з сынам на працу, а вечарам вязе яго дадому. Жанчына

ў 50-гадовым узросце не працуе, а цэлымі днямі ходзіць за сынам і сочыць, каб ён не толькі не сустракаўся з сваёй каханай, але нават і з яе сяброўкамі. Штодзённа плаціць за праезд грошы. Траціць дарэмна столькі часу!

**Мікалай КОЗЕЛ,**
**г. Маладзечна.**

**Ад рэдакцыі:** З гэтым пісьмом мы азнаёмілі пісьменніка Аляксандра Міронава. І вось што ён адказвае тым, хто працуе разам з Аркадзем С.

— Пісьмо Мікалая Козела і здзівіла, і ўстрывожыла мяне, як, бадай, яно здзівіць і ўстрывожыць кожнага. Сапраўды, жыве на свеце, у нашы дні, у нашай краіне, а дакладней — у вёсцы Асанава Лебедзеўскага сельсавета Маладзечанскага раёна, малады хлопец Аркадзь С., нядрэнна працуе па сваёй спецыяльнасці маляра, кахае дзяўчыну Гэлю, якая адказвае яму ўзаемнасцю, а аказваецца — і не жыве як след, і працаваць ў поўную сілу, з душой яму не даюць, і не дазваляюць нават глядзець на дзяўчыну. І хто? Родная маці кроку сыну ступіць не дае без свайго дазволу, уздыхнуць не дае, выстаўляе на смех усім, хто ведае і хто не ведае яго. Ды ці можа быць падобнае ў наш час, у нашай краіне?! Я не схільны думаць, што М. Козел што-небудзь перабольшыў у апісанні гэтай сумнай і — няхай даруюць мне людзі, пра якіх ідзе гаворка — недарэчнай гісторыі...

Асуджаць маці Аркадзя я не збіраюся, хоць яна і заслугоўвае самага суровага асуджэння за свае домастроеўскія, жорсткія і здзеклівыя адносіны да роднага сына. Няма патрэбы асуджаць і Аркадзя: ён дастойны толькі спачування, як дастойны спачування кожны, хто паслухмяна падпарадкоўваецца неразумнай і злой волі няхай нават і роднай маці, хто, стаўшы паўналетнім, так і не здолеў заняць сваё, самастойнае, цвёрдае месца ў жыцці. Але я не магу не асуджаць усіх тых, хто, на працягу доўгага часу, з'яўляючыся штодзённымі сведкамі абураючых абставін, што склаліся ў сям'і Аркадзя, упарта і старанна робяць выгляд, нібы нічога пра гэта не ведаюць. Я не магу не асуджаць усіх, хто ўжо даўно павінен быў горача ўмяшацца ў гэтую гісторыю і пакласці ёй канец!

Ці ж Аркадзь зусім адзін у сваёй вёсцы Асанава? Ці ж побач з ім няма яго равеснікаў, смелых, прынцыповых, сумленных і шчырых хлопцаў і дзяўчат, камсамольцаў, якія ўжо даўно маглі б і абавязаны былі памагчы Аркадзю разабрацца ў абставінах, а калі трэба — дык і стаць на яго абарону? Ці ж няма такіх жа хлопцаў там, дзе працуе Аркадзь? Няўжо няма вакол яго ні аднаго дарослага, умудронага жыццёвым вопытам чалавека, гатовага працягнуць юнаку руку дапамогі, пагутарыць з маці Аркадзя, памагчы ёй разабрацца ў яе адносінах да сына?

Безумоўна, ёсць. І вельмі горка становіцца на душы, калі думаеш пра тое, што ўсе, хто здольны і павінен памагчы Аркадзю, чамусьці трымаюцца ў баку ад яго, наглядаюць за ім, за пакутамі Гэлі, і — толькі. Яшчэ горш: ёсць, нябось, і такія, хто пасмейваецца з такой «сітуацыі», смакуе яе, пляткарыць, і тым самым яшчэ больш паглыбляе пакуты ўдзельнікаў гэтай неверагоднай, нават трагічнай гісторыі.

Імення трагічна складваецца жыццё і, магчыма, увесь далейшы лёс Гэлі, Аркадзя і яго маці. Аркадзю ж — жыць і працаваць, разам з усім народам будаваць нашу і сваю будучыню — камунізм. А які ж атрымаецца з яго будаўнік самага шчаслівага грамадства на зямлі, калі жорсткая воля маці падаўляе ў ім усё, без чаго нельга ўявіць нашага чалавека: самастойнасць, шчырасць, сумленнасць і прынцыповасць, калі расце Аркадзь — і вырасце баязлівым і бязвольным чалавекам, якога ўсё жыццё прыйдзецца вадзіць за руку!

Абурэнне Мікалая Козела зразумелае і яго падзеляць усе, хто прачытае напісанае ім пісьмо. Але толькі абурацца, наглядаючы з боку, мала і недаравальна. Калі ўзнікае пажар — трэба разам, усім гуртам тушыць яго. Калі чалавечаму жыццю пагражае непапраўная бяда — трэба неадкладна ратаваць яго. Сітуацыя, апісаная ў пісьме Мікалая Козела, нясе страшную, магчыма непапраўную бяду характарам, душы, усяму лёсу і ўсяму далейшаму жыццю Аркадзя і Гэлі. Трэба біць трывогу, трэба разам, усім, каму дарагі кожны савецкі юнак і кожная савецкая дзяўчына, умяшацца ў гэтую «сітуацыю» і разабрацца ў ёй.

Маці Аркадзя павінна, нарэшце, зразумець, у чым яна мае рацыю, а ў чым не. Аркадзь жа — яе сын, і немагчыма паверыць, што яна наўмысна хоча атруціць і зламаць яго жыццё. Хутчэй наадварот: хоча лепшага, як хоча для свайго дзіцяці кожная маці, ды толькі не ведае, не разумее, як дабіцца гэтага. Дык паможам ёй, разам паможам — парадай, добрым словам, сваім шчырым удзелам у яе горы і ў яе трывогах.

А Аркадзю С. хочацца сказаць толькі адно: калі ты праверыў свае пачуцці да Гэлі, калі ты сапраўды кахаеш яе і не можаш без яе жыць, дык змагайся за сваё і за ваша каханне — адкрыта, шчыра і сумленна,— так змагайся, каб перамагчы і заваяваць простае, але самае жаданае шчасце!

**Аляксандр МІРОНАЎ**



# НОВАЯ МЭБЛЯ БУДЗЕ

У майскім нумары нашага часопіса за мінулы год паведамлялася аб выніках Усесаюзнага конкурсу на новыя канструкцыі мэблі. Адно з першых месц у гэтым конкурсе занялі беларускія канструктары, якія распрацавалі арыгінальныя камплекты секцыйнай зборна-разборнай мэблі. Напомнім аб адной характэрнай асаблівасці гэтай новай мэблі. Для складання самых разнастайных прадметаў спраектаваны ўніфікаваныя дэталі. Спажывец, вызначыўшы ў адпаведнасці з плаціроўкай сваёй кватэры від і памеры мэблі, зможа набыць у магазіне адпаведны камплект дэталей і сам, без ніякай пабочнай дапамогі, здолее сабраць стол, шафу, паліцу і г. д. Калі спатрэбіцца, можна будзе набыць новыя дэталі, каб змяніць выгляд мэблі.

Паведамленне аб тым, што новая мэбля хутка паявіцца ў продажу, выклікала вялікую цікавасць у чытачоў. Рэдакцыя атрымала многа пісем з запытаннямі аб лёсе гэтага цікавага праекта.

«Я чытала ў вашым часопісе артыкул аб новай мэблі... Наша сям'я і многія нашы знаёмыя з нецярплівасцю чакаюць, калі камплекты дэталей зборна-разборнай мэблі з'явяцца ў продажу,— піша нам чытачка Т. Канаш з Мінскага раёна.— Ці не можаце вы расказаць у «Маладосці» аб лёсе гэтай мэблі».

Наш карэспандэнт пабываў ва Упраўленні лясной, папяровай і дрэваапрацоўчай прамысловасці Саўнаргаса БССР.

Начальнік вытворча-тэхнічнага аддзела ўпраўлення Д. Хітраво паведаміў нам, што на 1960 год на Гомельскім дрэваапрацоўчым і Рэчыцкім фанерна-мэблевым камбінатах запланавана вытворчасць набору секцыйнай камбінаванай мэблі з уніфікаваных дэталей. Такая мэбля паступіць у продаж ужо ў першым квартале. У першую чаргу запускаюцца ў вытворчасць дэталі, з якіх, па жаданню спажыўца можна будзе сабраць ці шафу для адзення, ці кніжную шафу, ці камод, ці столік для тэлевізара, ці сакрэтнік, ці сервант і г. д.

Канструктары новай мэблі прапанавалі стварыць у Мінску і ў абласных цэнтрах рэспублікі магазіны-атэлье. У іх будзе арганізаваны паказ узораў і розных умоў кампаноўкі, абмеркаванне новых праектаў мэблі, падобна да таго, як гэта робіцца, напрыклад, з новымі фасонамі адзення ў Дамах мадэлей. Тут жа, карыстаючыся паслугамі кансультантаў, спажывец зможа скласці план абсталявання сваёй кватэры і заказаць патрэбныя яму камплекты.

Саўнаргас рэспублікі ўхваліў гэтую прапанову, каб праз такія магазіны-атэлье развіваць у працоўных найлепшыя сучасныя густы.

# Спорт

## У ДОМЕ ПА ВУЛІЦЫ МАСКОЎСКАЙ

Увечары, калі над Мінскам загараюцца агні электрычных лямпачак, многія юнакі і дзяўчаты накіроўваюцца на Маскоўскую вуліцу да новага нядаўна пабудаванага трохпавярховага будынка. Яны спяшаюцца заняць свае месцы ў класах і метадычных кабінетах, каб у вольны ад работы час прысвяціць сябе любімым спартыўным заняткам.

Над уваходам у будынак вялікімі пазалочанымі літарамі напісана: «Дом ДТСААФ Беларускай ССР». У прасторным вестыбюлі адразу кідаецца ў вочы вялікае маляўнічае пано: у імклівым, нястрымным руху—спартсмен-матацыкліст, а ў блакітным небе над ім на спартыўным самалёце «ЯК-18» нябачны лётчык выконвае мудрагелістыя фігуры вышэйшага пілатажу. Пано адлюстроўвае запаветнае жаданне многіх юнакоў і дзяўчат нашай краіны.



З будовай матора самалёта знаёмяцца тэхнік Белдзяржпраекта В. Зуй, слесар Мінскага падшыпнікавага завода А. Чарнецкі і рабочы саўгаса «Рассвет» Мінскага раёна І. Міронычык.

Фота С. Чырэшкіна.

У той вечар, калі мы пабывалі ў Доме ДТСААФ, ва ўсіх класах і кабінетах праводзіліся заняткі. Маладыя, пачынаючыя спартсмены — аўтамабілісты і матацыклісты — вывучалі рухавік і правілы вулічнага руху, лётчыкі — тэорыю палётаў, планерысты — матэрыяльную частку безматорнага лятальнага апарата, парашутысты займаліся ўкладкай парашутаў.

Асабліва ажыўлена было ў планёрным класе. З групай юнакоў займаўся ветэран-планерыст майстар спорту Аляксандр Пятровіч Быкаў. Славуты спартсмен вось ужо 25 год лятае на планёры і, нягледзячы на свой пажылы ўзрост, ужо каторы раз у спаборніцтвах заваёўвае першынство. А. Быкаў да гэтага часу ўтрымлівае за сабой ганаровы тытул чэмпіёна рэспублікі па планёрнаму спорту. За чвэрць стагоддзя Аляксандр Пятровіч падрыхтаваў больш тысячы спартсменаў-авіятараў. Вопытны спартсмен, гаспадар падвоблачных вышыняў, Быкаў цяпер перадае свой вопыт маладым спартсменам-авіятарам.

На гэтых занятках Аляксандр Пятровіч расказаў вучням, што ён лятаў на ўсіх тыпах планёраў, якія толькі выпускаліся ў нашай краіне, удзельнічаў ва ўсіх планёрных спаборніцтвах. Паказваючы на апарат, які стаіць у класе, Аляксандр Пятровіч гаворыць будучым планерыстам:

— Айчынны планёр «Прыморац» — выдатны лятальны апарат. На ім можна ўзмываць высока ў неба, вышэй воблакаў, і лятаць па некалькі гадзін...

Планерызм—захапляючы від спорту. І не дзіўна, што ім займаюцца многія маладыя мінчане. Прываблівае іх і парашутызм — спорт смелых і адважных. У прасторным парашутным класе ў той вечар з групай моладзі



заняткі праводзіў рэкардсмен свету майстар спорту Міхаіл Шаіпаў. Парашутысты Беларусі з'яўляюцца мацнейшымі ў Савецкім Саюзе. Імі ўпісана больш трыццаці паправак у табліцу сусветных і ўсесаюзных рэкордаў, а заслужаны майстар спорту мінчанін Міхаіл Дзмітраў, які зрабіў нядаўна свой тысячны прыжок з парашутам, неаднаразова заваёўваў званне чэмпіёна свету.

Навічкі з захапленнем слухаюць расказ славутага спартсмена аб развіцці парашутызму ў нашай краіне. А пасля пачынаюць трэніровачныя заняткі па ўкладцы парашутаў.

У той час, калі ва ўсіх тэхнічных класах праходзілі тэарэтычныя заняткі па авіяцыйных відах спорту і аўтамотасправе, у стралковым ціры адбываліся спаборніцтвы на першынство горада паміж заводскімі камандамі па кулявой стральбе. На трэцім паверсе ў прасторнай канферэнц-зале ішла гутарка аб развіцці ў Мінску і Мінскай вобласці радыёаматарства. Зала была перапоўнена. На першую гарадскую канферэнцыю спартсменаў-радыёаматараў прыйшлі юнакі і дзяўчаты з радыёзавода, камвольнага камбіната, аўтазавода, абутковай фабрыкі імя Калініна, універсітэта, політэхнічнага інстытута.

На трыбуну падымаліся прамоўца



Чарговыя заняткі ў планёрным класе вядзе майстар спорту А. Быкаў (трэці злева).



Адным з лепшых каротнахвалевікоў лічыцца Валянцін Бензаць — супрацоўнік Інстытута фізікі Акадэміі навук БССР.

за прамоўцам. Яны гаварылі аб тым, каб хутчэй зрабіць радыёспорт сапраўды масавым, заняткам шырокіх колаў мінскай моладзі. Пакуль што гэтым спортам у горадзе займаецца не многа юнакоў і дзяўчат. У школах да гэтага часу не створаны гурткі радыёаматараў, вельмі мала аматарскіх кароткахвалевых і ўльтракароткахвалевых радыёстанцый.

Моладзь, што вечарамі бывае ў Доме ДТСААФ, з задавальненнем знаёміцца з поспехамі і дасягненнямі лепшых спартсменаў рэспублікі, вывучае багаты вопыт майстроў тэхнічных відаў спорту. Аб гэтым добра расказваюць шматлікія стэнды, плакаты і спецыяльна абсталяваны метадычны кабінет, а таксама вітрына, дзе размешчаны партрэты славутых майстроў.

У 1961 годзе адбудзецца V Усесаюзная спартакіяда камсамольцаў і моладзі па тэхнічных відах спорту. У гэтай спартакіядзе будуць удзельнічаць спартсмены розных спартыўных арганізацый. Падрыхтоўка да яе пачалася.

Пры рэспубліканскім камітэце ДТСААФ створаны рэспубліканскія федэрацыі авіяцыйнага, аўтамабільна-матацыклетнага, радыёаматарскага і падводнага спорту, якія сканцэнтравалі сваю дзейнасць у новым будынку Дома ДТСААФ Беларускай ССР. Ён стаў цэнтрам усёй работы па развіццю ў рэспубліцы тэхнічных відаў спорту. Тут створаны ўсе ўмовы для тэхнічнай вучобы і павышэння спартыўнага майстэрства моладзі.

**П. ПАХІЛЬКА.**

# Гумар і сатыра

## Здарэнне з сержантам



Ідзе па вуліцы сержант
З дзяўчынай «на буксір».
Насустрач крочыць лейтэнант,
Ягоны камандзір.

Сержант не ўзняў яшчэ рукі,
Як той адказыраў.
Сержант здзівіўся, бо такіх
Не бачыў ён праяў.

Не па статуту ж гэта, не!
Начальства ж потым казырне.

А можа пераблытаў ранг,
Ці не працёр вачэй?..
Пакуль ён думаў—капітан
Аддаў сержанту чэсць.

— Ну што за чорт!—падумаў ён.—
І гэты казырнуў.
Чакай, а можа гэта сон?
І навакол зірнуў.

Ды не! Дзяўчына, як букет,
З ім поручкі ідзе.
Усё ў парадку. Усё як след!
І ясна, як удзень.

— Чакай, чакай, тут нешта ёсць!—
Падумаў зноў дзівак.—
Магчыма, што за маладосць
Ёй казыраюць так?

— Ці не паблыталі яны
З палкоўнікам мяне?..
Якія стрэнуцца чыны—
Дык кожны казырне.

— Завошта ж казыраюць так?—
Сержант падумаў зноў.
Назад ён глянуў і абмяк:
Там... генерал ішоў.

**Міхась СКРЫПКА**

**КАЛІ УБАЧЫУ, ДЫК АДРАЗУ
ЗА КАУНЕР І ДА АДКАЗУ!**

Мал. У. Лося.



**ЛЯ СТУДЭНЦКАЙ ВЕШАЛКІ.**



**За 15 мінут...** **...І за дзве мінуты да званка.**

Мал. А. Скамарохава.

## Графаману

Не слухай іх, браток, нікога:
Любы рэдактар—гэта ж гад!
Ён толькі пхне сябе самога,
А ўсё тваё—мяце назад.

Кляні—раз нельга ўздзець на вілы—
Яго, і жонку, і дзяцей,
І— не здавайся. Колькі сілы—
Шрайбуй, браток, шпурляй часцей!

Хоць чаго-небудзь, а даб'ешся:
Калі у друк не пападзеш,
То ўжо рэдактара, канешне,
Ты да інфаркта давядзеш.

**Банадысь ПАПРУГА**



**СЛОВЫ І СПРАВЫ.**
Мал. У. Лося.




**Ніхто майстрам не дасць падножку —
Яны ўдваіх на ўсю дарожку!**

**ВОСЬ ДЫК ПАСТАРАЛІСЯ.**
Мал. У. Лося.



**Сапуць з натугі дзецюкі.
Не паддаецца груз цяжкі.
Відаць, для цэлага сяла
Хапіла б гэтага святла!**

# *Шахматы*

пад ıкцыяй майстра спорту
А. СУЭЦІНА

## ЗА ШАХМАТАМІ УСМІХАЮЦЦА

Дзіае спалучэнне — шахматы і... гума «Якая ж весялосць у гэтай гульні, лі партнёры ў глыбокай задуме цэлі гадзінамі сядзяць адзін супраць друга?» — можа не без падставы спытаі у нас чытач. Але тут нельга кірава толькі вонкавымі назіраннямі. Ммаем на ўвазе так званы «ўнутраны» гуар.

іаля пяцідзесяці гадоў назад выйшла свет вельмі цікавая кніжка аўстрыйскага майстра Іосіфа-Эміля Крэйчыка «Дзеці Касесы». У гэтай кніжцы змешчаны шэраг гумарыстычных апавяданнаў пра шахматы і шахматыстаў. Прапануем увазе чытача некалькі фрагментаў з гэтай кніжкі.

### Пра шахматную слепату

Звычайна злосць з-за прайгранай партыі бывае найбольшай, калі перад пройгрышам узнікае выйгрышнае становішча. Трэба сказаць, што ў шахматнай партыі недастаткова зрабіць сорак добрых хадоў—неабходна, каб усе хады былі вельмі добрыя. Адным няўважлівым ходам можна сапсаваць самую лепшую партыю. Калі гэтыя памылкі маюць характар грубых падставак, шахматысты называюць такія хады «зяўкамі». Разявакамі, радзей ці часцей, бываюць усе— ад майстра да пачынаючага (апошнія, вядома, значна часцей).

Робіцца міжвольна шкада таго, хто, прайграючы, пачынае нервавацца, бляднець, бянтэжыцца. Той, хто выйграе, таксама не адчувае вялікай радасці (калі ён у душы шахматыст, вядома!), бо яго ж вывезла «сляпая выпадковасць»...

І ўсё ж вось гэты прыклад шахматнай «слепаты», які ўзяты з кніжкі Крэйчыка, прымусіць усміхнуцца кожнага.



«Гэта пазіцыя, — піша Крэйчык, — належыць да партыі двух вядомых шахматыстаў прадмесця. Чорныя пайшлі g7—g5, і ў тое ж імгненне абодва ігракі ўсклікнулі: «Здаюся!» Чорныя таму, што ўбачылі, як белыя могуць зрабіць мат, сыграўшы h5 : g6, а белыя таму, што яны не ведалі правіла «en passant» (узяццё на праходзе) і думалі, што атрымалі мат. Гэта — вяршыня шахматнай «слепаты»!

### Калі двое робяць адно і тое ж...

У свой час адзін з тых, хто не ўмеў гуляць у шахматы, заявіў майстру, што ён гатовы звесці ўнічыю з ім любую партыю. «Як жа вы будзеце гуляць?» — спытаў здзіўлены майстар. «Я буду проста паўтараць вашы хады»,—адказаў гэты самаўпэўнены чалавек. Селі за дошку і сыгралі: 1. d4 d5, 2. Фd3 (майстар гуляе белымі) Фd6, 3. Фf5!! Фf4??, 4. Фc8X!

Як бачым, чатыры хады можна зрабіць, не ўмеючы гуляць у шахматы.

Крэйчык ідзе далей — ён даказвае, што ўсе пачаткі партый (дэбюты) дрэнныя для чорных, калі яны ўпарта дамагаюцца «сіметрыі».

Вось прыклад з дэбюту чатырох коней: 1. e2—e4, e7—e5, 2. Кg1—f3 Кg8—f6, 3. Кb1—c3 Кb8—c6, 4. Cf1—b5 Cf8—b4, 5. d2—d3 d7—d6, 6. 0—0 0—0, 7. Cc1—g5 Cc8—g4, 8, Cb5 : c6 Cb4 : c3, 9. Cc6 : b7 Cc3 : b2, 10. Cb7 : a8 Cb2 : a1, 11. Фd1 : a1 Фd8 : a8, 12. Cg5 : f6 Cg4 : f3, 13. Cf6 : g7 Cf3 : g2. 14. Cg7 : f8 Cg2 : f1. 15. Cf8—h6 Cf1—h3, 16. Фa1—c1 Фa8—c8, 17. Фc1—g5X, і здаліся.

Пазіцыя пасля 16 ходу чорных.



«Таксама «некарэктным» можа быць і ферзевы дэбют», — гаворыць Крэйчык. Вось прыкладны варыянт:

1. d4 d5, 2. Кf3 Кf6, 3. c4 c5, 4. Cg5 Cg4, 5. e3 e6, 6. Кc3 Кc6, 7. Ce2 Ce7, 8. 0—0 0—0, 9. C : f6 C : f3, 10. C : g7 C : g2, 11. C : f8 C : f1, 12. C : e7 C : e2, 13.. C : d8 C : d1, 14. cd cd, 15. dc dc, 16. cb cb, 17. baФ baФ, 18. Cf6X!

«Значыць, — заключае Крэйчык, — ніколі не імкніцеся да сіметрыі!»

## ЗМЕСТ


**Анатоль Грачанікаў.** Машыніст. Папрок. На пенсію. Замест пісьма. Вершы . . . . . . . . . . . . 3
**Васіль Быкаў.** Жураўліны крык. Аповесць . . . . . . 7
**Пятрусь Макаль.** Калі мудрыя рукі ў цябе. У ваенным гарадку. Самы высокі будынак... Мора. Роздум. Караблі не загінулі. Салют усім прахожым. Мост. І не сніў. Вершы . . . . . . . . . 70
**Мікола Паноў.** На чыстую ваду. Аднаактовая п'еса . . . 76
**Мікола Сіскевіч.** Мне сняцца трывогі. Не думай пра мяне, Айчына... Дарога. Ручэй. *** Нехта лісцікі-лапкі... Вершы . . . . . . . . . . . . [illegible]
**Ніл Гілевіч.** Сцежкі. Верш . . . . . . . . . [illegible]
**Рыгор Барадулін.** На вучэнні. Верш . . . . . . 8[illegible]
**Я. Бялоў.** Герой Савецкага Саюза. Першыя дні. Урывак з кнігі . . . . . . . . . . . 89
**З. Калбасаў.** Такі савецкі салдат. Рэпартаж . . . . . 99

**Дарогамі сямігодкі**
**Сцяпан Кухараў.** Інжынер прыехаў. Нарыс . . . . . 103

**Гары камсамольскі аганёк!**
**В. Жаўцянкова.** Уклад аўтазаводцаў . . . . . . 110
**М. Цімошак.** Дружна, усёй сям'ёй . . . . . . . . 111

**Навука — праца — чалавек**
**В. Говар.** Пранікненне ў таямніцы . . . . . . . . 11[illegible]
**П. Беразняк.** Так ствараецца новае . . . . . . . . 117
**«Маладосць» вядзе рэпартаж» з Гомеля студэнцкага** . . . 120

**Давайце пагаворым...**
**В. Груша.** Як вы адпачываеце? . . . . . . . . 126
**Г. Навіцкі.** Там, дзе камандуе долар . . . . . . 131

**З блакнота падарожніка**
**Яўген Логінаў.** На адхонах Алтая . . . . . . . . 137

**Размова аб майстэрстве**
**Алег Лойка.** Беларускай песні валадар. Фальклорныя традыцыі ў лірыцы Янкі Купалы . . . . . . . . . 142
**Выйшлі ў свет** . . . . . . . . . . . . . 150
**Наша пошта** . . . . . . . . . . . . . . 151

**Спорт**
**П. Пахілька.** У доме па вуліцы Маскоўскай . . . . . 154
**Гумар і сатыра** . . . . . . . . . . . . 156
**Шахматы** . . . . . . . . . . . . . . 159


**Да нумара прыкладаецца бясплатны дадатак «А гарманік грае, грае...»**